**ПЕРАДЗЕЛ**, в., да 1928 г. у Васькавіцкім с/с Слаўгарадскага р-на. Перайменав. у в. Людкаў. Гл. в. Людкаў. (Слаўг.)

**ПЕРАДЗЕЛ**, ур., с.-г. угоддзі, поле, паміж вв. Ядраная Слабада і Слабодка Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**ПЕРАДОЛЫ**, пагорак, на ПнУ ад в. Грыбава Слабада Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ПЕРАДЫ**, ур., с.-г. угоддзі, на У ад а/г Каменка Горацкага р-на, на мяжы са Смаленскай вобл. (Гор.)

**ПЕРАЕЗД**, брод, на р. Рудзея, у в. Азарычы Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ПЕРАКАВОЕ ПОЛЕ**, ур., с.-г. угоддзі, на ПнУ ад в. Смагілаўка Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ПЕРАКАМОЧЧА**, воз., старык р. Сож, на Пд ад в. Журавель, паміж вв. Журавель і Манастырок Чэрыкаўскага р-на, у луцэ р. Сож. Зарастае. (Чэр.)

**ПЕРАКАТ**, п., да 1940-х гг. у Васькавіцкім с/с Слаўгарадскага р-на. Ліквідаваны. (Слаўг.)

**ПЕРАКАТ**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Радуцічы Асіповіцкага р-на, каля перакату р. Пціч і старарэчча, каля новага маста. (Асіп.)

**ПЕРАКЛАДАВІЦКАЕ**, рад., торфу, у в. Пеpакладавічы Быхаўскага р-на. У 1930-х гг. – торфаарцель. (Бых.)

**ПЕРАКЛАДАВІЧЫ**, в., Грудзінаўскі с/с Быхаўскага р-на, 44 двары, 72 жых., крама, ф. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². Вар. назвы – в. Картузы. (Бых.)

**ПЕРАКОЛЬ**, в., Нясяцкі с/с Клічаўскага р-на, 63 двары, 147 жых., СШ, крама, ф. Кург. могільнік. (Кліч.)

**ПЕРАКОП**, брады на р. Вабіч, у в. Лямніца Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ПЕРАКОП**, воз., старык, у пойме пр. бер. р. Друць, за 2 км на У ад а/г Цяхцін Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ПЕРАКОП**, зімав. яма, на р. Сож, у в. Парадзіна Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**ПЕРАКОП**, канава, меліярац., злуч. руч. Зімнік і р. Проню, на У ад а/г Дужаўка Чавускага р-на. (Чав.)

**ПЕРАКОП**, п., з 1920-х гг. у Таўкачоўскім с/с Шклоўскага р-на, без жых. (Шкл.)

**ПЕРАКОП**, п., частка в. Малыя Лазіцы Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ПЕРАКОПАНЫ ЛУГ**, ур., с.-г. угоддзі, у а/г Цяхцін Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ПЕРАЛЕСАННЕ**, ур., с.-г. угоддзі, каля леса, паміж вв. Сялец і Краі Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**ПЕРАЛЕССЕ**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Біскупка Бялыніцкага р-на. Пл. 19,3 га. (Бял.)

**ПЕРАЛЕСЯНКА**, в. Вар. назвы – в. Малая Рымінка Чавускага р-на. Гл. в. Малая Рымінка. (Чав.)

**ПЕРАЛЕСЯНКІ**, х. Гл. х. Свенскаполле Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ПЕРАЛОГІ**, в., Міхееўскі с/с Дрыбінскага р-на, 2 двары, 2 жых. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. (Дрыб.)

**ПЕРАЛЯСЯНКА**, в. Гл. в. Рымінка Чавускага р-на. (Чав.)

**ПЕРАМОГА**, в., Бацэвіцкі с/с Клічаўскага р-на. Гл. в. Пабеда. (Кліч.)

**ПЕРАМОГА**, в., Мхініцкі с/с Краснапольскага р-на. Гл. в. Пабеда. (Краснап.)

**ПЕРАМОГА**, п. Гл. п. Пабеда Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**ПЕРАМОГА**, п., да 1946 г. в. Асіповічы І. З 1973 г. у скл. г. Асіповічы. (Асіп.)

**ПЕРАМОГА**, п., да 1968 г. у Бялыніцкім п/с Бялыніцкага р-на. Ліквідаваны. (Бял.)

**ПЕРАМОГА**, п., з 1945 г. у Ваўкавіцкім с/с Чавускага р-на, 3 двары, 4 жых. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 5 да 15 Кі/км². (Чав.)

**ПЕРАМОГА**, п., Семукацкі с/с Магілёўскага р-на, без жых. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². (Маг.)

**ПЕРАМОЖНАЯ**, в., Ленінскі с/с Горацкага р-на, 2 двары, 2 жых. Спалена фашыстамі ў 1941 г. Пасля вайны адноўлена. Да 1964 г. – в. Паўзухі. Вар. назваў – в. Пабедная, Сукіна. (Гор.)

**ПЕРАМОЖНІК**, п., да 1975 г. у Пуцькаўскім с/с Чавускага р-на. Ліквідаваны. (Чав.)

**ПЕРАМОЖНІК**, прып. п., на тэр. Пуцькаўскага с/с Чавускага р-на, на чыг. Крычаў – Магілёў. (Чав.)

**ПЕРАПЁЛКІНА КАЦВІНА**, ур., с.-г. угоддзі, сенажаць, у а/г Антонаўка Чавускага р-на. (Чав.)

**ПЕРАПЛАЎ**, ур., с.-г. угоддзі, луг, за 2,5 км на Пд ад в. Жэлвінец Глускага р-на, на лев. бер. р. Пціч. Кург. могільнік. (Глуск.)

**ПЕРАПЛЮЙКА**, р., левы прыт. р. Млынка (бас. р.Свіслач) у Асіповіцкім р-не. Даўж. 2 км. Выток на ПнУ ад ст. Асіповічы III, вусце на У ад в. Замошша. Прыёмнік каналіз. вод. (Асіп.)

**ПЕРАПЛЮЙКА**, р., мясц. назва верх. цяч. р. Рышта, у в. Бродак Крычаўскага р-на. (Крыч.)

**ПЕРАРОЖКІ**, в., Пратасевіцкі с/с Асіповіцкага р-на, 12 двароў, 26 жых. Бр. магіла сав. воінаў. (Асіп.)

**ПЕРАРУБ**, прасека ў лесе, каля в. Бабірова Глускага р-на. (Глуск.)

**ПЕРАСЕКА**, в., да 1940 – 1950-х гг. у Ланькаўскім с/с Бялыніцкага р-на. Ліквідавана. (Бял.)

**ПЕРАСЕКА**, в., с.-г. угоддзі, поле СВК "Зарэчны" Клічаўскага р-на, па р. Перасека. Пл. 18,8 га. (Кліч.)

**ПЕРАСЕКА**, р., пр. прыт. р. Перасопенка (бас. р. Днепро). Даўж. 7,6 км. Выток за 3 км на ПдЗ ад в. Убалацце, вусце за 1,5 км на ПдЗ ад в. Восаў Клічаўскага р-на. Рэчышча на працягу 1,5 км ад вытоку каналізав. Перасяк. забалоч. лес. (Кліч.)

**ПЕРАСЕКА**, ур., лясное, паміж вв. Вылаў і Сіваі Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ПЕРАСЕЛЛЕ**, в., да 1990-х гг. у Рубежскім с/с Круглянскага р-на. Ліквідавана. Вар. назвы – в. Нова-Аляксандраўка. (Кругл.)

**ПЕРАСЕЛЛЕ**, п., Рубежскі с/с Круглянскага р-на, 5 двароў, 8 жых. (Кругл.)

**ПЕРАСКВЕРНЯ**, ур., забалоч. с.-г. угоддзі, у в. Негаўля Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ПЕРАСКВЫР**, брод, на р. Ольса, у а/г Заполле Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**ПЕРАСОВА**, в., Вішнёўскі с/с Бабруйскага р-на, 9 двароў, 14 жых. Гарадзішча. (Бабр.)

**ПЕРАСОЛ**, воз., старычнае, у бас. р. Бярэзіна, за 15 км на Пд ад г. Бабруйск, каля в. Перасова Бабруйскага р-на. Пл. 0,11 км². (Бабр.)

**ПЕРАСОПЕНКА**, р., пр. прыт. р. Суша (бас. р. Бярэзіна). Даўж. 18 км. Выток за 2 км на У ад в. Убалацце, вусце за 1 км на ПдЗ ад в. Перасопня Клічаўскага р-на. Гал. пр. руч. Перасека (справа). Пл. вдзб. 90 км². Вар. назвы – Перасопня. (Кліч.)

**ПЕРАСОПНЯ**, в., Патоцкі с/с Клічаўскага р-на, 3 двары, 5 жых. Спалена фашыстамі ў 1942 г. Пасля вайны адноўлена. (Кліч.)

**ПЕРАСОПНЯ**, р., гл. р. Перасопенка Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**ПЕРАСОХЛЫ РУЧАЙ**, рэчышча б. руч. за 1 км на Пд ад в. Асавец Бялыніцкага р-на. Могільнік часоў Старажытн. Русі. (Бял.)

**ПЕРАСУХА**, р. Гл. р. Чарняўка Быхаўскага р-на. (Бых.)

**ПЕРАТОРГ**, х., да 1920-х гг. у Кульшыцкім с/с Слаўгарадскага р-на, каля в. Кульшычы. Ліквідаваны. (Слаўг.)

**ПЕРАХОД**, брод, на р. Друць, у в. Ядраная Слабада Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**ПЕРАХОД**, брод, праз р. Крывая, на Пн ад в. Казаброддзе Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ПЕРАХОД**, ур., с.-г. угоддзі, паміж в. Лянёўка Клічаўскага р-на і лесам. (Кліч.)

**ПЕРАХОДЗЬКІ**, ур., с.-г. угоддзі, луг, у в. Вяленік Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**ПЕРАХОДНАЕ**, воз. Гл. ур. Пераходнае Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**ПЕРАХОДНАЕ**, ур., хмызова-балотнае, паміж вв. Гарадзец і Карма Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**ПЕРАХОДНЫ ЛЯСОК**, ур., с.-г. угоддзі, на м. б. в. Пераходы Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**ПЕРКАВЫ РАВОК**, равок, на У ад в. Сіманавічы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ПЕРКАЎНЯ**, ур., лясное, на ПнУ ад в. Смагілаўка Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ПЕРЛАЎКА**, в., да 1950-х гг. у Кіселёвабудскім с/с Клімавіцкага р-на. Ліквідавана. (Клім.)

**ПЕРЛАЎКА**, рад., мелу і маргелю, каля б. в. Перлаўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ПЕРЛАЎКА**, рад., трэпелу, каля б. в. Перлаўка Клімавіцкага р-на. (Клім.).

**ПЕРЛІЎКА**, ур., с.-г. угоддзі, за 0,5 км на ПдЗ ад в. Красоўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ПЕРУНОВА МЕСЦА**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Лубяны Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ПЕРУНОВА**, в., да 1990-х гг. у Стайкаўскім с/с Кіраўскага р-на. Ліквідавана. У 1909 г. – 17 жых. (Кір.)

**ПЕРУНОВА**, ур., с.-г. угоддзі, за 8 км на ПнЗ ад а/г Стайкі, за 7 км на ПнУ ад в. Скачок Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ПЕРУНОВА**, х., да 1920-х гг. у Стайкаўскім с/с Кіраўскага р-на. Ліквідаваны. (Кір.)

**ПЕРЦАВА**, ур., с.-г. угоддзі, на Пн ад в. Шаламы I Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ПЕРЦАВА**, х., да 1920-х гг. у Васькавіцкім с/с Слаўгарадскага р-на. Ліквідаваны. (Слаўг.)

**ПЕРЦАЎ РОЎ**, ур., с.-г. угоддзі, поле з ярам, за 0,5 км на ПнУ ад а/г Горы Горацкага р-на. (Гор.)

**ПЕРШАЕ ВУСЦЕ ВАЎЧАНКІ**, ур., вусце р. Ваўчанка, на У ад в. Раксалянка Бабруйскага р-на. (Бабр.)

**ПЕРШАЕ КАЛЕНА**, паварот р. Пціч, у в. Поўстка Глускага р-на. (Глуск.)

**ПЕРШАЕ ЛЯДА**, ур., захмызав. с.-г. угоддзі, на У ад в. Зубры Горацкага р-на. (Гор.)

**ПЕРШАЕ МАЯ**, в., з 1939 г. у Першамайскім с/с Дрыбінскага р-на. Да 1939 г. – в. Гасподы. Вар. назвы – в. Першамайск. (Дрыб.)

**ПЕРШАЕ МАЯ**, мкр-н, на У г. Бабруйск. (Бабр.)

**ПЕРШАЕ МАЯ**, п, Дзяражненскі с/с Касцюковіцкага р-на, 2 двары, 3 жых. Да 1941 г. – п. Філіял. Кург. могільнік ва ўр. Шведскія Магілы. (Касц.)

**ПЕРШАЕ МАЯ**, п., Ніжнятошчыцкі с/с Быхаўскага р-на, 6 двароў, 12 жых. Селішча. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км$^2$. (Бых.)

**ПЕРШАКРЫЧАЎСКІ I, ПЕРШАКРЫЧАЎСКІ ПЕРШЫ**, п., з 1920-х гг. у Касцюшкавіцкім с/с Крычаўскага р-на, 25 двароў, 52 жых. Кург. могільнік. Помн. землякам, У. Леніну, К. Марксу. Радз. К. Кісялева, медыка, сав. і парт. дзеяча. (Крыч.)

**ПЕРШАМАЙСК**, в. Гл. в. Майшчына Магілёўскага р-на. (Маг.)

**ПЕРШАМАЙСК**, в., з 1939 г. у Першамайскім с/с Дрыбінскага р-на, 24 двары, 35 жых. Гл. в. Першае Мая, Гасподы. (Дрыб.)

**ПЕРШАМАЙСКАЯ**, в., у 1937 – 1976 гг. у Краснабудскім с/с Крычаўскага р-на. Ліквідавана. Да 1937 г. – в. Дрышчаў. (Крыч.)

**ПЕРШАМАЙСКІ РАЁН**, адм. гарадскі р-н, у г. Бабруйск. Нас. 118, 5 тыс. жых. (перапіс 2009 г.) (Бабр.)

**ПЕРШАМАЙСКІ С/С**, с/с Дрыбінскага р-на, на ПдЗ р-на, Утвор. як Гасподаўскі 20.08.1924 г., пераўтвор. з Гасподаўскага с/с 20.04.1939. З 16.09.1959 г. у Горацкім р-не, з 1989 у Дрыбінскім р-не. Ц. с/с – а/г Трылесіна (з 1931 г.). УКСП "С-с "Першамайскі" (а/г Трылесіна). 13 снп, 750 двароў, 1579 жых. (Дрыб.)

**ПЕРШАМАЙСКІ С/С**, с/с Хоцімскага р-на. (у 1935 – 1960 гг. – ц. в. Разальмоў, у 1960 – 1962 – в. Будачка) Перайменав. у 1935 г. з Кацярынпольскага с/с, з 12.02.1935 у Хоцімскім р-не, 20.02.1938 у тым жа р-не Магілёўскай вобл. Ліквідаваны ў 1962 г. Далуч. да Трасцінскага с/с. (Хоц.)

**ПЕРШАМАЙСКІ**, гар. адм. р-н, у г. Бабруйск. Утвор. 27.10.1980 г. (Бабр.)

**ПЕРШАМАЙСКІ**, п., да II пал. XX ст. у Чавускім р-не. Ліквідаваны. (Чав.)

**ПЕРШЫ МАЙ**, п., да 1930-х гг. у Шклоўскім р-не. Далуч. да в. Сліжы. (Шкл.)

**ПЕРШЫ МАЙ, СЛІЖЫ-ПЕРШЫ МАЙ**, п., частка в. Сліжы Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ПЕРШЫ РАБОЧЫ ПРАСЁЛАК**, мкр-н, на ПнЗ г. Шклоў. (Шкл.)

**ПЕРШЫ РАБОЧЫ ПРАСЁЛАК**, п., у 1930 – 1950-х гг. у Шклоўскім р-не. Далуч. да г. Шклоў. Мкр-н на ПнЗ г. Шклоў. (Шкл.)

**ПЕРШЫ РАВОК**, равок, на У ад в. Кунцы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ПЕРШЫ РАВОК**, ур., лясное, каля в. Прусіна Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ПЕРШЫ РЭЗ**, ур., лясное, за 1 км на Пн ад в. Рафалава Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ПЕРШЫ СТАРЫК**, ур., с.-г. угоддзі, луг з воз. Старык, па р. Мяртвіца, у в. Баеўка Крычаўскага р-на. (Крыч.)

**ПЕРШЫНА**, в., Ходараўскі с/с Горацкага р-на, 9 двароў, 12 жых. (Гор.)

**ПЕРШЫЯ**, ур., с.-г. угоддзі, за 0,2 км на Пд ад в. Гайшын Слаўгарадскага р-на, на пр. бер. р. Сож. Старажытн. стаянка. (Слаўг.)

**ПЕСКАВАТКА**, ур., лясное, бор, на лев. бер. р. Арцíслаўка, каля в. Заходы Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ПЕСКАВАТКА**, ур., с.-г. угоддзі, за 1 км на Пд ад а/г Лобжа Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ПЕССЮКАВА ПАЛЯНА**, ур., с.-г. угоддзі, луг, за 2 км на ПнУ ад а/г Добрая Горацкага р-на. (Гор.)

**ПЕСТУНОЎ ХУТАР**, ур., с.-г. угоддзі, каля в. Мяжэнін Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ПЕСЬКАВІЧЫ**, в., Лабковіцкі с/с Крычаўскага р-на, вядом. з XVIII ст., 9 двароў, 16 жых. (Крыч.)

**ПЕТРАВА**, ур., лясное, за 3,5 км на ПдУ ад а/г Смаліца Быхаўскага р-на. (Быx.)

**ПЕТРАВІЧЫ**, в. Гл. в. Пятравічы Быхаўскага р-на. (Быx.)

**ПЕТРАВІЧЫ**, ур., лясное, на м. б. в. Пятравічы, на яе м. – в. Новая Трасна Быхаўскага р-на. (Быx.)

**ПЕТРАВІШЧА**, пагоркі, паміж вв. Гуры і Галоўчын Бялыніцкага р-на, паміж р. Вабіч і шашой Галоўчын – Круглае. Паданне пра пахав. руск. салдат (1708 г.). (Бял.)

**ПЕТРАГРАДЧЫК**, школьны сад, у в. Аўтухоўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ПЕТРАКАЎ ЗАЛЕГ**, ур., лясное, каля а/г Шапялевічы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ПЕТРАКОЎ КУСОК**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Кунцы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ПЕТРАКОЎ ЛОГ**, лог, у лесе, каля в. Варопанка Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ПЕТРАКОЎ МОСТ**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Літоўск Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ПЕТРАКОЎ МОСТ**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Сякерка Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ПЁТРАЎ БЯРЭЗНІК**, ур., лясное, на Пд ад ур. Дамарашчына, на ПдУ ад в. Асіповічы Горацкага р-на, на мяжы з Шклоўскім р-нам. Пл. каля 10 га. (Гор.)

**ПЕТРАЎ**, ур., лясное, каля а/г Смаліца Быхаўскага р-на. (Быx.)

**ПЕТРАЧКОЎ МОСТ, ПЕТРАЧОНКАЎ МОСТ**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Жаролы Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ПЕТРАЧКОЎ ПАЛЯДАК**, ур., лясное, на З ад в. Буглаі Краснапольскага р-на. (Краснап.)

**ПЕТРАЧОНКАЎ МОСТ**, ур. Гл. ур. Петрачкоў Мост Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ПЕТРАЧЫХІН ЛЕС**, ур., лясное, на Пн ад в. Асіповічы Горацкага р-на, паміж ур. Ашуркі і ўр. Папоўшчына. (Гор.)

**ПЕТРАЧЫХІН**, х., да 1920-х гг. у Аўсянкаўскім с/с Горацкага р-на. Ліквідаваны. (Гор.)

**ПЕТРАЧЫХІНА ЗАВАНЬ**, сажалка, у в. Кляпінічы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ПЕТРАЧЭНКАЎ ВУГАЛ**, зак. Гл. зак. Петрачэнкаў Кут Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ПЕТРАЧЭНКАЎ ВУГАЛ**, ур., леса-балотнае, за 2 км на Пд ад в. Рабавічы Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ПЕТРАЧЭНКАЎ КУТ**, зак., мясц. знач., з 1995 г., гідрал., за 2 км на Пд ад в. Рабавічы Слаўгарадскага р-на. Пл. 12 га. Водаахоўн. знач., тарфянік, рэгулятар стоку. (Слаўг.)

**ПЕТРУСЁВА ГУМНІШЧА**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Гаўрыленка Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ПЕТРУСЁВА ДВОРЫШЧА**, ур., с.-г. угоддзі, у а/г Малашкавічы Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ПЕТРУСЁЎШЧЫНА**, ур., лясное, паміж а/г Родня і в. Фядотаўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ПЕТРЫКАВА БАЛОТА**, ур., забалоч. с.-г. угоддзі, у в. Каскевічы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ПЕТРЫКАВА ГУМНО**, ур., лясное, каля в. Ваевічы Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**ПЕТРЫКАЎ ДВОР, ПЕТРАКАЎ ДВОР**, ур., с.-г. угоддзі, у а/г Гіжэнка Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ПЕТРЫКАЎ ХУТАР**, бугор, каля в. Воўчас Крычаўскага р-на. (Крыч.)

**ПЕТУХІ**, х., да 1930 – 1940-х гг. у Прудоцкім с/с Чавускага р-на. Ліквідаваны. (Чав.)

**ПЕТУХОЎКА**, в., Антонаўскі с/с Чавускага р-на, вядом. з 1635 г. як с. Лазерава, 39 двароў, 78 жых., крама, ф. Кург. могільнік, стаянка эпохі неаліту, старажытн. селішча, бр. магіла сав. воінаў. У 1785 г. – 244 жых., царква, сукнавальня. У 1880 г. – 186 жых., ветраны і вадзяны млыны, у 1909 – 663 жых., царк.-прых. шк. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 5 да 15 Кі/км². (Чав.)

**ПЕТУХОЎКА**, в., Асінаўскі с/с Чавускага р-на, вядом. з 1635 г., 97 двароў, 233 жых., аддз. ААБ "Беларусбанк", АТС, ФАП, ц. фальклору, б-ка, КПП, крама, ф. Бр. магіла сав. воінаў. Ц. Прудкоўскага с/с у 1939 – 2009 гг. У 1785 – 126 жых., у 1897 – 617, у 1940 – 440. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². Да рц – 12, да чыг. ст. Чавусы – 16 км. (Чав.)

**ПЕТУХОЎКА**, п., да 1951 г. у Дзямідавіцкім с/с Касцюковіцкага р-на. Перайменав. у п. Ракітнік. (Касц.)

**ПЕТУХОЎКА**, п., частка а/г Маляцічы Крычаўскага р-на. (Крыч.)

**ПЕТУХОЎКА**, с., у XIX ст. – 1930-х гг. у Прудкоўскім с/с Чавускага р-на. Далуч. да в. Петухоўка. (Чав.)

**ПЕТУХОЎКА**, ур., с.-г. угоддзі, на Пн ад б. в. Курбакі Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ПЕТУХОЎСКАЕ ПОЛЕ**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Петухоўка Чавускага р-на. (Чав.)

**ПЕТУШКІ**, в., Комсеніцкі с/с Круглянскага р-на, вядом. з XVIII ст., 13 двароў, 22 жых. Радз. Л. Сахненкі, чэмпіёнкі свету па шашках. (Кругл.)

**ПЕТУШКОВА БАЛОТА**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Кішчыцы Дрыбінскага р-на. (Дрыб.)

**ПЕХТЕРАЎ ХУТАР**, ур., с.-г. угоддзі на З ад в. Марцьянавічы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ПЕХЦЕРАЎ**, х., да 1920-х гг. у Рубежскім с/с Круглянскага р-на. Ліквідаваны. (Кругл.)

**ПЕХЦЕРКА**, р., па мяжы Хоцімскага р-на са Смаленскай вобл. РФ, левы прыт. р. Рэкта (бас. р. Сож). Даўж. 9 км. Выток і вусце ў р-не в. Буда Хоцімскага р-на. (Хоц.)

**ПЕЦЬКАЎКА**, ур., лясное, каля в. Перакладавічы Быхаўскага р-на. (Бых.)

**ПЕЧ**, ур., абрывістае месца над р. Проня, у а/г Дужаўка Чавускага р-на. (Чав.)

**ПЕЧАНЕЖ**, балотны масіў, у бас. р. Чарняўка, на ПдЗ ад в. Печанеж Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ПЕЧАНЕЖ**, в., да 1993 г. у Дзяражненскім с/с Касцюковіцкага р-на. Ліквідавана. (Касц.)

**ПЕЧАНЕЖ**, воз., да пач. XIX ст., у бас. р. Чарняўка, на балотным масіве Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ПЕЧАНЕЖ**, ур., захмызав., с.-г. угоддзі, на частцы торфамасіва Печанеж Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ПЕЧАРА**, р., у Магілёўскім і Бялыніцкім р-нах, левы прыт. р. Друць, Даўж. 15 км. Выток за 1,5 км на ПнУ ад в. Навабеліца Магілёўскага р-на, вусце ў Бялыніцкім р-не. (Маг.)

**ПЕЧКАЎКА**, мкр-н, на У г. Мсціслаў. (Мсц.)

**ПЕЧКАЎКА**, рад., пяскоў, за 2 км на У ад г. Мсціслаў. (Мсц.)

**ПЕЧКАЎСКАЕ**, рад., фасфарытаў, каля в. Печкаўка Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**ПЕЧКІ**, п., да 1976 г. у Рэчыцкім с/с Чэрыкаўскага р-на. Далуч. да в. Зоры. Спалены фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлены. (Чэр.)

**ПЕЧКІ**, п., частка в. Зоры Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**ПЕЧКІ**, ур., с.-г. угоддзі, на м. б. в. Печкі Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**ПЕЧКІ**, ур., с.-г. угоддзі, на У ад в. Гай Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ПЕЧКІ**, ур., с.-г. угоддзі, сад, у в. Зоры Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**ПЕЧКІ**, х., да 1920-х гг. у Рэчыцкім с/с Чэрыкаўскага р-на. Далуч. да п. Печкі. (Чэр.)

**ПЕЧЫШЧА**, л.м., за 5 км на ПнЗ ад в. Стасеўка Бабруйскага р-на. (Бабр.)

**ПЕЧЫШЧА**, п., частка в. Глінь Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**ПЕЧЫШЧА**, ур., лясное, у кв. 50, 61 Асавецкім лясн., у Бялыніцкім р-не. Барсук. (Бял.)

**ПЕЧЫШЧА**, ур., с.-г. угоддзі, за 0,5 км на ПдУ ад в. Ульянаў Быхаўскага р-на, на пр. бер. р. Адаменка. Селішча 1 тыс. н. э. (Бых.)

**ПЕЧЫШЧА**, ур., с.-г. угоддзі, за 0,7 км ад могілак г. Чавусы, каля маста праз р. Бася. Стаянка бронз. веку. (Чав.)

**ПЕЧЫШЧА**, ур., с.-г. угоддзі, поле на пагорку, у а/г Антонаўка Чавускага р-на. (Чав.)

**ПІВОНАЎ ХУТАР**, ур., с.-г. угоддзі, на У ад а/г Капачы Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**ПІВОНАЎ ХУТАР**, х., да 1920-х гг. у Ляснянскім с/с Круглянскага р-на. Ліквідаваны. (Кругл.)

**ПІВОНАЎШЧЫНА**, ур., с.-г. угоддзі, на мяжы Круглянскага і Шклоўскага р-наў, каля в. Бураўшчына Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ПІКАВАРНЯ**, ур., с.-г. угоддзі, луг, за 2 км ніжэй вусця р. Проня, на Пд г. Слаўгарад, на Пд ад яўрэйскіх могілак. Раней канатная мануфатура. Стаянка эпохі неаліту. Вар. назвы – ур. Фабрык. (Слаўг.)

**ПІКАВАРНЯ**, ур., с.-г. угоддзі, луг, на пр. бер. р. Сож, за 0,5 км на Пд ад в. Гайшын Слаўгарадскага р-на, на У ад шашы Гайшын – Луначарск. Стаянка эпохі неаліту. (Слаўг.)

**ПІКСІМАВА ВАДАСХОВІШЧА**, вдсх., на руч. бас. р. Кострычка, на ПнУ ўскр. в. Усохі Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**ПІКСІМАВА**, сажалка, на ПнУ ўскр. в. Усохі Клічаўскага р-на. Гл. Піксімава вадасховішча. (Кліч.)

**ПІЛЕНКА**, в., да 1990-х гг. у Вепрынскім с/с Чэрыкаўскага р-на. Ліквідавана. Кург. могільнік, капішча (ур. Капішча, Стод). (Чэр.)

**ПІЛЕНСКІ С/С**, с/с Чэрыкаўскага р-на, у 1960 – 1963 гг. Утвор. 20.08.1924 г., з 16.09.1963 – Ушакоўскі с/с. (Чэр.)

**ПІЛЕШЧЫНА**, в., Сласцёнаўскі с/с Чавускага р-на, вядом. з XIX ст., 39 двароў, 96 жых., АТС, ФАП, клуб, б-ка, крама. Бр. магіла сав. воінаў. У 1897 г. – 168 жых., хлебазап. крама, у 1940 – 193 жых. Ц. с/с у 1924 – 1925 гг. Спалена фашыстамі ў 1941 г. Пасля вайны адноўлена. (Чав.)

**ПІЛЕШЧЫНСКІ С/С**, с/с Чавускага р-на, у 1924 – 1925 гг. Утвор. 20.08.1924 г. у Чавускім р-не Магілёўскай акр., перайменав. у Макрадскі с/с 21.08.1925 (Чав.)

**ПІЛІПАВА ГАРА**, пагорак, у в. Жаролы Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ПІЛІПАВА ГАРА**, пагорак, у в. Жаролы Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ПІЛІПАВА ГРУША**, ур., захмызав. с.-г. угоддзі, у в. Кляшчоўка Глускага р-на. (Глуск.)

**ПІЛІПАВА ДВОРЫШЧА**, ур., лясное, за 2,8 км на ПнЗ ад в. Судзілы Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ПІЛІПАВА КОПАНКА**, сажалка, у в. Капуснік Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ПІЛІПАВА ЛЯДА**, ур., с.-г. угоддзі, поле, за 3 км на Пд ад в. Шалаёўка Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ПІЛІПАВА ПОЛЕ**, ур., лясное, бярэзнік, каля в. Сіпайлы Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ПІЛІПАВА ПОЛЕ**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Кляшчоўка Глускага р-на. (Глуск.)

**ПІЛІПАВА ЯМКА**, сажалка, у в. Балбечына Горацкага р-на. (Гор.)

**ПІЛІПАВА**, ур., с.-г. угоддзі, каля в. Кляшчоўка Глускага р-на. (Глуск.)

**ПІЛІПАВЫ ВЕРБАЧКІ**, ур., хмызовае, на ўскр. в. Леніна Краснапольскага р-на. (Краснап.)

**ПІЛІПАЎ КУРГАН**, узв. ц. частка в. Машчаніца Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ПІЛІПАЎ ЛЕС**, ур., лясное, каля в. Данькавічы Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ПІЛІПАЎ ЛЕС**, ур., лясное, на ПдЗ в. Ладыжана Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ПІЛІПАЎ МОСТ**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Трасціно Хоцімскага р-на. (Хоц.)

**ПІЛІПАЎ РАВОК**, равок, на Пн а/г Забялышын Хоцімскага р-на. (Хоц.)

**ПІЛІПАЎ СТАН**, ур., с.-г. угоддзі, на З в. Ядраная Слабада Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**ПІЛІПАЎКА**, ур. Гл. ур. Ліпаўка Краснапольскага р-на. (Краснап.)

**ПІЛІПАЎКА**, ур., забалоч. с.-г. угоддзі, на ПдЗ ад в. Залесавічы Крычаўскага р-на. (Крыч.)

**ПІЛІПАЎКА**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Займішча Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ПІЛІПАЎШЧЫНА**, п., да 1950-х гг. у Круглянскім р-не. Ліквідаваны. Спалены фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлены.

**ПІЛІПАЎШЧЫНА**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Загоранкі Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ПІЛІПЁНКАВА КРЫНІЦА**, крын., каля гумнішча, у в. Шчокатава Дрыбінскага р-на. (Дрыб.)

**ПІЛІПІХА**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Гаршкова Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ПІЛІПІХА**, ур., с.-г. угоддзі, у а/г Новыя Максімавічы Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**ПІЛІПЧЫКАВА БАЛОТА**, ур., забалоч. с.-г. угоддзі, паміж вв. Паўлавічы і Марцянавічы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ПІЛІПЧЫКАВА БАЛОТА**, ур., забалоч. с.-г. угоддзі, у в. Таценка Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**ПІЛЬЁНАВА КРЫНІЦА**, крын., на пр. бер. р. Каменка, у в. Прылессе Чавускага р-на. (Чав.)

**ПІЛЬЁНАЎ АБОРАК**, ур., с.-г. угоддзі, на пр. бер. р. Каменка, у в. Прылессе Чавускага р-на. (Чав.)

**ПІЛЬКАВА**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Грыбы Краснапольскага р-на. (Краснап.)

**ПІЛЬКАМОЧЫ**, ур., с.-г. угоддзі, луг, на р. Рудка, у а/г Доўгае Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**ПІЛЬКАЎ ВІР**, вір, на р. Пацея, у а/г Свенск Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ПІЛЬНІКІ**, в., Баравіцкі с/с Кіраўскага р-на, 1 двор, 1 жых. У 1897 г. – 26 жых. Спалена фашыстамі ў 1942 г. Пасля вайны адноўлена. (Кір.)

**ПІЛЬНЯ**, в., Вепрынскі с/с Чэрыкаўскага р-на, 8 двароў, 15 жых., дом сац. пасл. Бр. магіла сав. воінаў. Паганскае капішча, кург. могільнік. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. Ц. с/с у 1960 – 1963 гг. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км$^2$. (Чэр.)

**ПІЛЬНЯ**, ур., лясная паляна, каля в. Кананавічы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ПІЛЬЦЫ**, балота. Гл. балота Карніца. (Маг.)

**ПІЛЬЦЫ**, зак. Гл. зак. Карніца. (Маг.)

**ПІЛЬЦЫ**, рад. Гл. рад. Карніца. (Маг.)

**ПІЛЬШЫЦКІ МОСТ**, ур., с.-г. угоддзі, вакол маста праз р. Друць, у в. Пільшычы Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ПІЛЬШЫЦЫ**, в. Вар. назвы – в. Пільшычы Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ПІЛЬШЫЦЫ**, зімав. яма, на р. Друць, пры ўпадз. р. Малыш, у в. Пільшычы Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ПІЛЬШЫЦЫ**, ур., с.-г. угоддзі, луг, у сутоку рр. Друць і Малыш Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ПІЛЬШЫЧЫ**, в., Цяхцінскі с/с Бялыніцкага р-на, 36 двароў, 67 жых., дом сац. пасл., ф. Спалена фашыстамі ў 1942 г. Пасля вайны адноўлена. (Бял.)

**ПІМАШЧЫКІНА КАЦВІНА**, лагчына, на Пд а/г Антонаўка Чавускага р-на. (Чав.)

**ПІМКІНА**, ур., леса-балотнае, за 4 км на ПнЗ ад в. Судзілы Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ПІНТУСАЎ КАНЕЦ**, п., частка в. Слаўня Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ПІНЧУКІ**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Грыбава Слабада Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ПІПЕНБЕРГ**. Гл. Парк Піпенберг (Маг.)

**ПІРАГІ**, в., да 1943 г. у Мсціслаўскім р-не. Спалена фашыстамі. (Мсц.)

**ПІРАГОВА**, в., Мушынскі с/с Мсціслаўскага р-на, вядом. з 1510 г. як с., 18 двароў, 38 жых. У 1897 г. – 322 жых. Да 1930-х гг. – в. Вялікае і Малое Пірагова. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. (Мсц.)

**ПІРАГОВА**, фальв., да 1920-х гг. у Мушынскім с/с Мсціслаўскага р-на. Ліквідавана. У 1897 г. 2 двары, 2 жых. (Мсц.)

**ПІРАГОВА**, царкоўн. сядз., да 1920-х гг. у Мушынскім с/с Мсціслаўскага р-на. Ліквідавана. У 1897 г. 2 двары, 10 жых. (Мсц.)

**ПІРАГОЎСКІ АРЭШНІК**, ур., хмызовае, на Пн ад а/г Мушына Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**ПІРОГ**, насыпное, штучнае ўзвыш., у в. Пагост Глускага р-на. (Глуск)

**ПІРЫХА**, ур., лясное, каля а/г Лудчыцы Быхаўскага р-на. (Бых.)

**ПІСАРАВА ГАРА**, насып, у в. Дуброва Глускага р-на. (Глуск)

**ПІСАРАВА ГАРА**, пагорак, ва ўр. Пісарава Гара Крычаўскага р-на. (Крыч.)

**ПІСАРАВА ГАРА**, рад., пясч.-жвір. матэр., мелу, ва ўр. Пісарава Гара Крычаўскага р-на. Распрацоўв. (Крыч.)

**ПІСАРАВА ГАРА**, ур., с.-г. угоддзі, за 1,3 км на З ад в. Воўчас Крычаўскага р-на, за 0,35 км ад пр. бер. р. Воўчас, каля ф. Гарадзішчы. (Крыч.)

**ПІСАРАВА ХАТА**, ур., с.-г. угоддзі, на ўскр. в. Краснае Глускага р-на. (Глуск.)

**ПІСАРАЎКА**, п., Чарнаборскі с/с Быхаўскага р-на, 4 двары, 5 жых. Часткова спалена фашыстамі ў 1943 г. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². (Бых.)

**ПІСАРАЎШЧЫНА**, в., да 1939 г. у Капачоўскім с/с Мсціслаўскага р-на. Далуч. да в. Клін. У 1932 – 1939 гг. ц. с-са "Пісараўшчына". (Мсц.)

**ПІСАРАЎШЧЫНА**, п., да 1970-х гг. у Мазалаўскім с/с Мсціслаўскага р-на. Далуч. да а/г Мазалава. Працав. метэаст. (Мсц.)

**ПІСАРАЎШЧЫНА**, ур., с.-г. угоддзі, у а/г Коўбча Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**ПІСАРАЎШЧЫНА**, ур., с.-г. угоддзі, у а/г Мазалава Мсціслаўскага р-на, на м. б. метэаст. "Пісараўшчына". (Мсц.)

**ПІСАРШЧЫНА**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Ржаўцы Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ПІСКУХА**, ур., камян. с.-г. угоддзі, на ПнЗ ускр. в. Негаўля Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ПІСЛЯКОЎКА**, в., да 2002 г. у Родненскім с/с Клімавіцкага р-на. Ліквідавана. (Клім.)

**ПІСЛЯЦІНА**, в., Галіцкі с/с Клімавіцкага р-на, 4 двары, 8 жых. (Клім.)

**ПІСЛЯЦІНСКАЯ РАСЧЫСТКА**, ур., с.-г. угоддзі, паміж вв. Післяціна і Недзведзь Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ПІСТАЛЕТАЎ БЯРЭЗНІК**, ур., хмызовае, у а/г Коўбча Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**ПІСЧАНА**, в. Гл. в. Пясчана (Слаўг.)

**ПІСЧАНЬ**, р., летапісн. назва р. Пясчана, Пясчанка ў Слаўгарадскім р-не. Гл. р. Пясчана. (Слаўг.)

**ПІТОМНІК**, ур., с.-г. угоддзі, поле, у а/г Ціманава Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ПІЦЕР**, в., Мілаславіцкі с/с Клімавіцкага р-на, 3 двары, 3 жых. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. (Клім.)

**ПІЧАЎКА**, в., Міхееўскі с/с Дрыбінскага р-на, 6 двароў, 11 жых., аграсядз. (Дрыб.)

**ПІШЧАВА**, воз., да сяр. XX ст. Гл. воз. Дняпроўскае Магілёўскага р-на. (Маг.)

**ПІШЧАКІ**, в., да 1964 г. у Слабодкаўскім с/с Бабруйскага р-на. Лівідавана. (Бабр.)

**ПІШЧАНЬ**, р. Гл. р. Пясчана Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ПІШЧУГА**, балотны масіў, паміж вв. Гута і Барысавічы Клімавіцкага р-на, на лев. бер. р. Сож. Пл. 15,3 тыс. га. (Клім.)

**ПІЯНЕРКА**, воз., старык, на р. Нясята, у а/г Нясята Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**ПІЯНЕРНЫ, ПІЯНЕРСКІ**, п., з 1990-х гг. для перасял., у Горацкім р-не. Перайменав. у в. Сонечны, потым – у в. Лазурны I (перасял. з б. в. Камаровічы Чэрыкаўскага р-на) і Лазурны II (з в. Старынка Слаўгарадскага р-на). (Гор.)

**ПІЯНЕРСКАЕ**, воз., старычнае, на лев. бер. р. Пціч, на ПнУ ад г.п. Глуск. Пл. 2 га. (Глуск.)

**ПІЯНЕРСКІ ПАРК**, парк, у ц. г. Мсціслаў. (Мсц.)

**ПІЯНЕРСКІ**, п. Гл. п. Піянерны. (Гор.)

**ПЛАВУХА**, ур., с.-г. угоддзі, раней востраў паміж балотамі і старыцамі на пр. бер. р. Дняпро, на У в. Данькавічы Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ПЛАНЬЕВА**, ур., с.-г. угоддзі, заліўны луг, у в. Прудок Хоцімскага р-на. (Хоц.)

**ПЛАСКАВЕЦ**, воз., старык, на р. Бярэзіна, злуч. пратокай з воз. Дубавец і р. Бярэзіна Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**ПЛАСКІШЫЯ**, ур., забалоч. с.-г. угоддзі, на Пд в. Азарычы Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ПЛАТОНАЎ ХУТАР**, ур., с.-г. угоддзі, на пр. бер. р. Рамясцвянка, на З ад в. Раздзел Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**ПЛАТОНАЎ**, х., да 1930-х гг. у Раздзельскім с/с Мсціслаўскага р-на. Ліквідаваны. (Мсц.)

**ПЛАТОНЬКАЎ ХУТАР**, ур., с.-г. угоддзі, у а/г Гавяды Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ПЛАХА**, балота, нізіннае, на З р-на, у вдзб. рр. Баброўка і Касалянка Слаўгарадскага р-на. Пл. 1,3 тыс. га. Рад. торфу. Асуш. 192 га дрэнажом, каля 700 га – адкрытай асуш. сеткай. (Слаўг.)

**ПЛАХА**, рад., торфу, каля в. Перагон Слаўгарадскага р-на. Пл. 1 тыс. га. Глыб. торфу да 4,5 м, сяр. 2 м, ступень распаду 24–37%, попельнасць 9–12%. Зап. каля 1,8 млн т. (Слаўг.)

**ПЛАХА**, ур., с.-г. угоддзі, на Пд в. Фядотава Буда Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ПЛАХА**, ур., с.-г. угоддзі, сенажаць, на частцы асуш. балота Плаха, каля в. Перагон Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ПЛАХА**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Трасціно Хоцімскага р-на. (Хоц.)

**ПЛАЦ**, ур., с.-г. угоддзі, у а/г Цяцерына Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ПЛАЦІНА**, пруд, на р. Бася, у в. Рудкаўшчына Горацкага р-на. (Гор.)

**ПЛАЦІНА**, ур., с.-г. угоддзі, луг, на Пн ад в. Зуі Крычаўскага р-на, каля плаціны (дамбы). (Крыч.)

**ПЛАЦІНА**, ур., с.-г. угоддзі, луг, на р.Бася, на У ад в. Ферма Горацкага р-на. (Гор.)

**ПЛАШЧАДКА**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Крынка Асіповіцкага р-на, на м. б. аэрадрома с.-г. авіяцыі. (Асіп.)

**ПЛЁС**, ур., плёс, на р. Пацэя, на З в. Бязуевічы Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ПЛЁСАВА**, ур., с.-г. угоддзі, забалоч. луг, на ПнЗ ад в. Бялынкавічы Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ПЛЕСКАЧОВЫ КЛІНЫ**, ур., с.-г. угоддзі, па дарозе Шапялевічы – Гоенка, у а/г Шапялевічы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ПЛЕСКАЧЫ**, ур., с.-г. угоддзі, каля в. Зарэчча Шапялевіцкага с/с Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ПЛЕСКАЧЫ**, х., да 1920-х гг. у Шапялевіцкім с/с Круглянскага р-на. Ліквідаваны. (Кругл.)

**ПЛЕСНА**, п. частка а/г Гарадзец Шклоўскага р-на, па р. Плесна. Раней в. Плесна. (Шкл.)

**ПЛЕСНА**, п., частка в. Гарадзец, па р. Плесна. Раней в. Плесна Чавускага р-на. (Чав.)

**ПЛЕСНА**, р. Гл. р. Плясна Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ПЛЕСНА**, р. Гл. р. Плясна Чавускага р-на. (Чав.)

**ПЛЁСЫ,** в., Цялушскі с/с Бабруйскага р-на, 137 двароў, 314 жых., п/а, аддз. ААБ "Беларусбанк", ФАП, СДК, КПП, крама, кавярня "Спадарожнік", ф. Магіла партызана. Радз. М. Аўрамчыка, паэта. (Бабр.)

**ПЛЁСЫ**, прып. п., на чыг. Бабруйск – Жлобін, у скл. в. Плёсы Бабруйскага р-на. (Бабр.)

**ПЛЁСЫНСКІ**, канал, меліярац., пр. прыт. р. Беліца (бас. р. Дняпро). Даўж. 7 км. Выток на 2 км на ПнУ ад в. Савічы, вусце за 1,5 км на З ад в. Забалоцце Бабруйскага р-на. (Бабр.)

**ПЛЕШЧЫНА**, в., Маляціцкі с/с Крычаўскага р-на, вядом. з XVIII ст., 6 двароў, 7 жых., дом сац. пасл. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. (Крыч.)

**ПЛЕШЧЫЦЫ**, в., Заходскі с/с Шклоўскага р-на, вядом. з 1522 г., 86 двароў, 169 жых., крама, МТФ. Месца знах. скарбу. Бр. магіла сав. воінаў. Гарадзішча. У 1967 г. далуч. вв. Ляды, Шкатаўка. (Шкл.)

**ПЛЕШЧЫЦЫ**, р., пр. прыт. р. Арціслаўка (бас. р. Дняпро). Даўж. 11 км. Пл. вдзб. 42 км². Выток у в. Бель, вусце ў в. Пруды Шклоўскага р-на. У верх. цяч. назыв. р. Рудзейка. (Шкл.)

**ПЛОСКАЕ**, в., да 1983 г. у Абідавіцкім с/с Быхаўскага р-на. Ліквідавана. (Бых.)

**ПЛОСКАЕ**, в., Сялецкі с/с Касцюковіцкага р-на, 7 двароў, 12 жых., дом сац. пасл. (Касц.)

**ПЛОСКАЕ**, воз., старык, у даліне р. Сож, паміж вв. Мірагошч і Журавель Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**ПЛОСКАЕ**, ур., с.-г. угоддзі, каля в. Асмолавічы Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**ПЛОСКАЯ**, в., Нясяцкі с/с Клічаўскага р-на, без жых. (Кліч.)

**ПЛЫВУН**, воз., у бас. р. Вір (цячэ праз воз., бас. Бярэзіны), за 10 км на ПдУ ад Бабруйска, за 4 км на З ад а/г Цялуша Бабруйскага р-на. Возерападобн. пашыр. р. Вір. Пл. 0,39 км², Даўж. 4,6 км. Злуч. пратокай з воз. Вяхава. (Бабр.)

**ПЛЮСЕНСКАЯ КАНАВА,** канал. Гл. Слаўкавіцка-Ямінскі канал Глускага р-на. (Глуск.)

**ПЛЮСШЧА**, ур., леса-балотнае, паміж в. Тупічын Касцюковіцкага р-на і в. Арцюхоўка Хоцімскага р-на. (Касц., Хоц.)

**ПЛЮШЧАВА**, в., Ціманаўскі с/с Клімавіцкага р-на, 7 двароў, 15 жых. (Клім.)

**ПЛЮШЧАІ**, ур., с.-г. угоддзі, луг, у а/г Арэхаўка Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**ПЛЯСНА, ПЛЕСНА**, р. Гл. р. Плясняна Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ПЛЯСНА**, р., левы прыт. р. Раста (бас. р. Проня). Даўж. 24 км. Выток на Пн ад в. Халмы, вусце за 1 км на З ад а/г Вайнілы Чавускага р-на. Пл. вдзб. 64 км², пад лесам – 25%. Вар. назвы – Плесна. У верх. цяч. – назвы р. Гразь, Гнойніца. (Чав.)

**ПЛЯСНА**, с., старажытн. назва в. Халмы Чавускага р-на. Гл. в. Халмы. (Чав.)

**ПЛЯСНА**, фальв., да 1920-х гг. у Васькавіцкім с/с Слаўгарадскага р-на. Ліквідаваны. Вар. назваў – Ленінскі, Урэчча, п. Яўстажына. (Слаўг.)

**ПЛЯСНЕТ**, ур., с.-г. угоддзі, за 1,5 км на Пд ад в. Роськаў Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ПЛЯСНЯНКА,** р., пр. прыт. р. Пясчанка (бас. р. Сож). Даўж. 10 км. Выток на Пн ад в. Рабінаўка, вусце на Пд в. Шаламы Слаўгарадскага р-на. Вар. назвы – р. Плясна. (Слаўг.)

**ПЛЯЦЕНЬ**, ур., хмызовае, на З в. Поўстка Глускага р-на. (Глуск.)

**ПЛЯЦОЎКА АЭС**, ур. Гл. Чырвонапалянская пляцоўка Чавускага р-на. (Чав.)

**ПНЁЎКА**, р., у Віцебскай вобл. і Горацкім р-не, левы прыт. р. Проня (бас. р. Дняпро). Даўж. 20 км. Пл. вдзб. 36 км². Выток у Віцебскай вобл., вусце за 1 км на Пд ад в. Шарыпы Горацкага р-на. (Гор.)

**ПНЁЎШЧЫНА**, в., Копцеўскі с/с Горацкага р-на, 18 двароў, 29 жых. Ц. с/с у 1924 – 1954 гг. (Гор.)

**ПНЁЎШЧЫНСКІ С/С,** с/с Горацкага р-на, у 1924 – 1954 гг. Утвор. 20.08.1924 г. у Дрыбінскім р-не Аршанскай акр. як Чурылаўскі с/с, перайменав. у 1927 г. у Студзёнкаўскі с/с, з 26.07.1930 у Дрыбінскім р-не, з 08.07.1931 у Горацкім р-не, у 1931 г. перайменав. у Пнёўшчынскі с/с, з 12.02.1935 у Дрыбінскім р-не, з 20.02.1938 – у Магілёўскай вобл. Гл. Чурылаўскі с/с. (Гор.)

**ПНІ**, ур., леса-балотнае, за 2 км на У ад в. Варвараўка Хоцімскага р-на. (Хоц.)

**ПНІ**, ур., лясное, Пн частка ўр. Жарская Хоцімскага р-на. (Хоц.)

**ПНІ**, ур., с.-г. угоддзі, луг, на пр. бер. р. Пацэя, на ПнЗ в. Бязуевічы Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ПНІ**, ур., с.-г. угоддзі, поле, каля в. Стайкі Клімавіцкага р-на. (Клім.).

**ПНІ**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Залачэва Мсціслаўскага р-на (Мсц.)

**ПОБЛІН**, в., Бярозаўскі с/с Глускага р-на, вядом. з XVII ст., 34 двары, 55 жых. Помн. землякам, селішча і стаянка. (Глуск.)

**ПОБЛІНСКАЯ КРЫНІЦА**, мінеральн. крын., у бас. р. Пціч, у в. Поблін Глускага р-на. (Глуск.)

**ПОГРАЎКА**, ур., лясное, за 1 км на З ад а/г Свяцілавічы Бялыніцкага р-на. Пл. 6 га. (Бял.)

**ПОДДУБ'Е**, ур., с.-г. угоддзі, каля в. Стрыкілі Горацкага р-на. (Гор.)

**ПОЖАР**, в., Галіцкі с/с Клімавіцкага р-на, 2 двары, 2 жых. (Клім.)

**ПОЖАР**, в., да 1990-х гг. у Родненскім с/с Клімавіцкага р-на. Ліквідавана. (Клім.)

**ПОЖАР**, в., да 2009 г. у Гусаркаўскім с/с Клімавіцкага р-на. Ліквідавана. (Клім.)

**ПОЖАР**, ур., захмызаван. с.-г. угоддзі, за 1 км на У ад в. Халдзееўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ПОЖАР**, ур., лясное, паміж вв. Трасціно і Канаўка Хоцімскага р-на. Пл. 200 га. (Хоц.)

**ПОЖНІ**, ур., с.-г. угоддзі, за 0,3 км на ПдУ ад в. Судзілы Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ПОЖНІ**, ур., с.-г. угоддзі, заліўны луг, на лев. бер. р. Ельня, у в. Радзілеў Краснапольскага р-на. (Краснап.)

**ПОЙДЗІКАВА ГАРА**, пагорак, ва ўр. Пойдзікава Гара Слаўгарадскага р-на. 160 м н.у.м. (Слаўг.)

**ПОЙДЗІКАВА ГАРА**, ур., с.-г. угоддзі, за 1 км на ПнУ ад в. Вышкава Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ПОЙЛА**, сажалка, у в. Дубейкава Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**ПОЙМА ДРУЦІ**, зак., гідрал., мясц. знач., з 1993 г., паміж а/г Цяцерына і в. Ліпск Круглянскага р-на. Пл. 349 га. Водаах. знач. (Кругл.)

**ПОЙМА ДРУЦІ**, рад., торфу, паміж а/г Цяцерына і в. Ліпск Круглянскага р-на. Пл. 349 га. Зап. 262 тыс. т. Не распрацоўв. Зак. (Кругл.)

**ПОЙМА РАКІ БЕЖЫЦА**, зак., мясц. знач., з 1993 г., гідрал., за 3 км на Пд ад в. Чыкілі Глускага р-на. Пл. 218 га. (Глуск.)

**ПОЙМЕННАЯ ДУБРАВА**, п.п. Гл. п.п. Дубрава Пойменная Бабруйскага р-на. (Бабр.)

**ПОКАТКА**, руч., пр. прыт. р. Покаць (бас. р. Сож). Даўж. 4 км. Выток і вусце ў р-не в. Болін Краснапольскага р-на. (Краснап.)

**ПОКАЦЬ**, абрыў пр. бер., на р. Чорная Натапа, у а/г Маляцічы Крычаўскага р-на. (Крыч.)

**ПОКАЦЬ**, р., у Краснапольскім і Чачэрскім р-нах, левы прыт. р. Сож (бас. р. Дняпр). Даўж. 76 км. Пл. вдзб. 504 км². Выток за 0,5 км на Пн ад п. Няўмесны Краснапольскага р-на, вусце ў Чачэрскім р-не. Сяр. нахіл водн. пав. 0,6‰. Асн. пр. – руч. Покатка (справа). Гушч. рачной сеткі 0,42 км/км². Прым. вод з меліярац. каналаў і канаў. (Краснап.)

**ПОКЛЯНЬ**, ур., леса-балотнае, на левым бер. р. Пціч, на З ад в. Мяжное Асіповіцкага р-на. Пл. каля 200 га. (Асіп.)

**ПОКЛЯНЬ**, ур., лясное, на мяжы з Асіповіцкім р-нам, за 14 км на ПнЗ ад в. Рудня, за 15 км на Пн ад в. Сіманавічы Глускага р-на. (Глуск.)

**ПОЛАГ**, пагорак, на ПдУ ад а/г Паршына Горацкага р-на, паміж ур. Паташа і ўр. Запаложжа. (Гор.)

**ПОЛАСТАЎСКІЯ ЛУГІ**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Сіпайлы Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ПОЛЕ ЗА ФЕРМАЙ**, ур., с.-г. угоддзі, за МТФ у а/г Бароньні Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ПОЛЕ ПЕРАВАЛ**, ур., с.-г. угоддзі, частка ўр. Славішча, каля а/г Дараганава Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**ПОЛЕ**, ур., захмызаван. с.-г. угоддзі, у а/г Коўбча Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**ПОЛЕ**, ур., с.-г. угоддзі, за 0,2 км на З ад в. Малая Вольса Клічаўскага р-на. Курган. (Кліч.)

**ПОЛЕГАРОДЫ**, ур., с.-г. угоддзі, на Пн ад в. Смагілаўка Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ПОЛЬКАВІЧЫ II, ПОЛЬКАВІЧЫ ДРУГІЯ**, в., да 1930-х гг.у Паўлавіцкім с/с Кіраўскага р-на. Далуч. да в. Полькавічы. У 1897 г. – 77 жых. (Кір.)

**ПОЛЬКАВІЧЫ І, ПОЛЬКАВІЧЫ ПЕРШЫЯ**, в., гл. в. Полькавічы Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ПОЛЬКАВІЧЫ**, в., Паўлавіцкі с/с Кіраўскага р-на, вядом. з XVI ст., 49 двароў, 109 жых.,

крама, дом сац. пасл. Бр. магіла сав. воінаў. У 1560 г. с. Бабруйскага староства. У 1897 г. – Полькавічы I, 225 жых. У 1905 г. – дрэваапрац. ф-ка. (Кір.)

**ПОЛЬСКАЕ**, ур., с.-г. угоддзі, каля могілак, у ц. в. Вялікія Лазіцы Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ПОЛЬСКІ ПАСЁЛАК**, п., частка в. Залесавічы Крычаўскага р-на. (Крыч.)

**ПОЛЬСКІЯ МОГІЛКІ**, могілкі, па вул. Лазарэнкі ў г. Магілёў. Пл. 2,5 га. Магілы М. Рабчэўскага, Гер. Сав. Саюза, А. Пысіна, паэта. Дзейніч. да 1976 г. (Маг.)

**ПОЛЯ ПАД КАЛЧЭГ**, х. Гл. х. Калчэг Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ПОПЛАЎ**, ур., с.-г. угоддзі, на р. Пціч у а/г Падлужжа Глускага р-на. (Глуск.)

**ПОРТ**, мкр-н. Гл. Рачны Порт, у г. Магілёў. (Маг.)

**ПОСТРАШ**, в., Кавалёўскі с/с Бабруйскага р-на, 31 двор, 57 жых. Бр. магіла сав. воінаў. 2 кург. могільнікі. (Бабр.)

**ПОЎСТКА**, в., Казловіцкі с/с Глускага р-на, вядом. з XVII ст., 41 двор, 92 жых., к-с БРЖ, ф. (Глуск.)

**ПОЦЕРАБ**, ур., с.-г. угоддзі, на У в. Данькавічы Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ПОЦЕРАБ**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Пчэльня Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ПОЦЫН**, в., назва в. Пуцькі (Пуцыкі) Чавускага р-на у старажытн. часы. Назва ўперш. узгадв. у 1165 г. як Поцын-на-Проні. (Чав.)

**ПРААБРАЖЭНСК**, в., Чэрнеўскі с/с Дрыбінскага р-на, 52 двары, 70 жых. Курган, кург. могільнік. (Дрыб.)

**ПРААБРАЖЭНСК-КУЛЯШОВА**, п., частка в. Праабражэнск Дрыбінскага р-на. (Дрыб.)

**ПРАБОЙНАЯ КАНАВА**, меліярац. канава, левы прыт. р. Пацэя, паміж вул. у в. Слаўня Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ПРАБОЙНАЯ КАНАВА**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Слаўня Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ПРАБУДЖЭННЕ**, мкр-н, з 1967 г. на ПнЗ г.п. Круглае. (Кругл.)

**ПРАБУДЖЭННЕ**, п., да 1967 г. у Круглянскім п/с. Далуч. да г.п. Круглае. (Кругл.)

**ПРАБУДЖЭННЕ**, ур., с.-г. угоддзі, на ПнЗ г.п. Круглае. (Кругл.)

**ПРАВАРЫШЧА**, ур., с.-г. угоддзі, луг, на пр. бер. р. Парасіца, паміж а/г Красуліна і Чортавым Мастом Горацкага р-на. (Гор.)

**ПРАВАРЫШЧА, ЮМЯНКА, ПАПОВА**, балота, за 0,1 км на ПдУ ад чыг. ст. Панізоў Магілёўскага р-на. Пл. 258 га. (Маг.)

**ПРАВАРЫШЧА, ЮМЯНКА, ПАПОВА**, зак., мясц. знач., гідрал., з 1993 г., за 0,1 км на ПдУ ад чыг. ст. Панізоў Магілёўскага р-на. Пл. 258 га. (Маг.)

**ПРАВАРЫШЧА, ЮМЯНКА, ПАПОВА**, рад., торфу, на балоце Праварышча (Юмянка, Папова). Пл. 258 га. Зап. 367 тыс. т. Не распрацоўв. Зак. (Маг.)

**ПРАВІДЭНЕЦ**, в., у XIX ст. – 1997 г. у Беладубраўскім с/с Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ПРАГАНАЎ ЛЕС**, ур., лясное, на З ад в. Марцянавічы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ПРАГНОІ**, ур., с.-г. угоддзі, у а/г Паўлавічы Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ПРАГОН**, дарога ад а/г Маслакі Горацкага р-на да пашы (на ПнУ ад в.). (Гор.)

**ПРАГОН**, сцежка, паміж с.-г. угоддзямі і в. Клява Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ПРАГОН**, ур., с.-г. угоддзі, луг, на пр. бер. р. Сож, у в. Зуі Крычаўскага р-на. (Крыч.)

**ПРАГОН**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Гаўрыленка Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ПРАГОННЫ МОСТ**, ур., с.-г. угоддзі, луг, па р. Карчаваха, ва ўр. Дашчанка, у а/г Горы Горацкага р-на. (Гор.)

**ПРАГРЭС** п., у 1920 – 1930-х гг. у Лабковіцкім с/с Крычаўскага р-на, каля а/г Лабковічы. Ліквідаваны. (Крыч.)

**ПРАГРЭС**, в., Восаўскі с/с Бабруйскага р-на, 11 двароў, 16 жых. (Бабр.)

**ПРАГРЭС**, в., Кавалёўскі с/с Бабруйскага р-на, 22 двары, 36 жых. Магіла сав. лётчыка. (Бабр.)

**ПРАГУЛЯНКА**, п., да 1940-х гг. у Кульшыцкім с/с Слаўгарадскага р-на. Ліквідавана. (Слаўг.)

**ПРАДАШАВІЧЫ, ПРОДАШАВІЧЫ**, в., старажытн., вядом. з XVI ст., на м. суч. г. Асіповічы. (Асіп.)

**ПРАДЗЕРГА**, р. Гл. р. Прадзёрка Дрыбінскага р-на. (Дрыб.)

**ПРАДЗЁРКА, ПРАДЗЕРГА**, р., пр. прыт. р. Шыпаўка (бас. р. Проня) у Дрыбінскім р-не.

Даўж. 10 км. Выток на 3 ад в. Шчокатава, вусце ў в. Мураванка. Вар. назвы – р. Прозерка (Дрыб.)

**ПРАДКАВАЯ ДАРОГА**, дарога, з в. Ількавічы на луг Градкі, каля в. Чырвоны Бор Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ПРАДКІ**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Чырвоны Бор Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ПРАЖЭКТАР**, п., Добасненскі с/с Кіраўскага р-на, з 1969 г., 4 двары, 16 жых. Бр. магіла сав. воінаў і партызан. Узнік на м. б. п. Атрадны і Пакроўскі. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². (Кір.)

**ПРАЖЭКТАР**, п., Запольскі с/с Бялыніцкага р-на, 4 двары, 6 жых. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². (Бял.)

**ПРАКЛЯТЫ КУРГАН**, пагорак, у в. Аляксандраўка Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ПРАКОПАВА БАЛОТЦА**, ур., забалоч. с.-г. угоддзі, в. Самулкі Чавускага р-на. (Чав.)

**ПРАКОПАВА ГАРА**, пагорак, у в. Гарадок Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ПРАКОПАВА КРЫНІЦА**, крын., пр. прыт. р. Белая Натапа, у а/г Капачы Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**ПРАКОПАВА ЛЯДА**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Зуі Крычаўскага р-на. (Крыч.)

**ПРАКОПАЎ ДУБ**, ур., стараж. дуб, у в. Асман-Касаева Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ПРАКОПАЎ ЛАЖОК**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Валынеж Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ПРАКОПЧЫКА ПУНІШЧА**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Грыбава Слабада Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ПРАКУСІНА ВЫГАР**, ур., с.-г. угоддзі, на ПдЗ в. Фядотава Буда Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ПРАКУШАВА БАЛОТА**, ур., забалоч. с.-г. угоддзі а/г Кароўчына Дрыбінскага р-на. (Дрыб.)

**ПРАЛЕНСКІ КЛІН**, ур., лясное, каля в. Камяніца Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ПРАЛЕС**, ур., лясное, за 2 км на ПнЗ ад в. Роськаў Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ПРАЛЕТАРСКАЕ ПОЛЕ**, ур. Гл. ур. Пралетарскі Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ПРАЛЕТАРСКАЕ**, в., да 1940-х гг. у Батаеўскім с/с Хоцімскага р-на. Ліквідавана. (Хоц.)

**ПРАЛЕТАРСКАЕ**, в., ц. с/с Касцюковіцкага р-на, вядом. з XVI ст. як в. Царковішча, 119 двароў, 298 жых., п/а, АТС, ФАП, БШ, дз. сад. прытулак, клуб-б-ка, прытулак для састарэлых, крама, скл. ПЗМ, ф. Бр. магіла сав. воінаў. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. У 1744 г. бой паміж войск. Радзівіла і паўстанц. Вашчылы. Да рц – 10 км, да чыг. ст. Камунары 7 км. Да 1917 г. – в. Царкавішча, Царковішча. (Касц.)

**ПРАЛЕТАРСКАЕ**, ур., с.-г. угоддзі, на Пн У ад в. Чарчоная Хоцімскага р-на. (Хоц.)

**ПРАЛЕТАРСКАЯ КАМУНА**, п., Пралетарскі с/с Касцюковіцкага р-на, вядом. з XIX ст. як в. Феліксберг, 10 двароў, 19 жых. Да 1919 г. – Феліксберг. Да 1919 г. – Феліксберг. (Касц.)

**ПРАЛЕТАРСКІ С/С**, с/с на Пн Касцюковіцкага р-на. Утвор. 20.08.1924 г. у Касцюковіцкім р-не Калінінскай акр. як Царкавішчанскі с/с, з 26.09.1927 г. у Касцюковіцкім р-не Магілёўскай акр., з 26.07.1930 у Касцюковіцкім р-не. Перайменав. у Пралетарскі с/с у 1936 г.. З 20.02.1938 у тым жа р-не Магілёўскай вобл. СП "Шарэйкі" ПРУП "Беларускі цэментны з-д" (а/г Шарэйкі). 20 снп; 847 двароў, 2082 жых. (Касц.)

**ПРАЛЕТАРСКІ**, в., Цялушскі с/с Бабруйскага р-на, 17 двароў, 26 жых. (Бабр.)

**ПРАЛЕТАРСКІ**, п., да 1942 г. у Грыбавецкім с/с Кіраўскага р-на. Спалены фашыстамі. (Кір.)

**ПРАЛЕТАРСКІ**, п., Цялушскі с/с Бабруйскага р-на, 14 двароў, 22 жых. (Бабр.)

**ПРАЛЕТАРСКІ**, ур., лясное, за 1 км на ПдУ ад в. Боркі Кіраўскага р-на, на м. б. п. Пралетарскі. Вар. назвы – Пралетарскае Поле. (Кір.)

**ПРАЛЕТАРЫ**, п., частка в. Мехава Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ПРАЛЕТАРЫЙ**, в., з 1920-х гг. у Круглянскім с/с Круглянскага р-на, 11 двароў, 13 жых. (Кругл.)

**ПРАЛЕТАРЫЙ**, п., Абідавіцкі с/с Быхаўскага р-на, 19 двароў, 27 жых. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². (Бых.)

**ПРАЛЕТАРЫЙ**, п., Дзямідавіцкі с/с Касцюковіцкага р-на, 6 двароў, 11 жых. (Касц.)

**ПРАЛЕТАРЫЯ**, в. Гл. в. Кабіна Гара Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ПРАЛЕТАРЫЯ**, в., да 1982 г. у Глухскім с/с Быхаўскага р-на. Ліквідавана. (Бых.)

**ПРАЛКА, ПРАЛЛЯ**, в., старажытн. назвы в. Пральня Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ПРАЛКА**, ур., рэдкалессе, на ПдЗ в. Касмынічы Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**ПРАЛЛЯ**, в. Гл. в. Пральня Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ПРАЛЛЯ**, ур., с.-г. угоддзі, на р. Каменка, у а/г Каменка Чавускага р-на. (Чав.)

**ПРАЛЫГІН ХУТАР**, ур., с.-г. угоддзі, у а/г Звянчатка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ПРАЛЬНЯ**, в., Вішоўскі с/с Бялыніцкага р-на, 32 двары, 50 жых., дом сац. пасл., крама. (Бял.)

**ПРАМАЯ ДАРОГА**, дарога Макавічы – Баравішча Глускага р-на. (Глуск.)

**ПРАНІЧКІ**, п., да сяр. XX ст. у Кіселевабудскім с/с Клімавіцкага р-на. Далуч. да в. Старыя Пранічкі. Спалены фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлены. (Клім.)

**ПРАННЕ**, ур., с.-г. угоддзі, па р. Вудага, каля в. Тур'е Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**ПРАННЯ**, сажалка, у а/г Сялец Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**ПРАПОЙСК**, г., гіст. назва г. Слаўгарад у 1136 – 1945 гг. Назва ад назвы р. Проня, Пропасць, Прупой. Перайменав. у г. Слаўгарад 23.05.1945 г. (Слаўг.)

**ПРАПОЙСК**, фальв., да 1920-х гг. у Кабінагорскім с/с Слаўгарадскага р-на. Далуч. да г. Прапойск. Вар. назваў – п. Кастрычнік, Міхалова Прапойскае. (Слаўг.)

**ПРАПОЙСКІ ПЕРАКАТ**, перакат, па лев. бер. р. Сож, у г. Слаўгарад. (Слаўг.)

**ПРАПОЙСКІ РАЁН**, адм. сельскі р-н, у 1924 – 1945 гг. 23.05.1945 г. перайменав. у Слаўгарадскі р-н. Утвор. 17.07.1924 г. Гл. Слаўгарадскі р-н. (Слаўг.)

**ПРАПОЙСКІ С/С**, с/с Слаўгарадскага р-на, у 1924 – 1926 гг. Пераўтвор. 24.09.1926 у Прапойскі мяст. савет. (Слаўг.)

**ПРАПОРАСК, ПРАПОРЭСК, ПРАПОШАНСК**, г., старажытн. назвы г. Слаўгарад. (Слаўг.)

**ПРАРУБЕЦ**, руч., левы прыт. р. Пціч (бас. р. Прыпяць). Даўж. 3 км. Выток на ПнУ ад в. Пціч, вусце на У в. Пціч Глускага р-на. (Глуск.)

**ПРАРЫЎ**, ур., с.-г. угоддзі, за 1,5 км на ПдУ ад в. Старыя Пранічкі Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ПРАСАЛЫ**, в., з 1920-х гг. у Александрыйскім с/с Шклоўскага р-на, 9 двароў, 18 жых. Курган. (Шкл.)

**ПРАСВЕТ**, п., да 1993 г. у Рэчыцкім с/с Чэрыкаўскага р-на. Ліквідавана. (Чэр.)

**ПРАСВЕТ**, ур. Гл. ур. Пагарэлае Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ПРАСВЕТ**, ур., с.-г. угоддзі, за 2 км на ПнУ ад в. Глінь Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**ПРАСВЕТ**, ур., с.-г. угоддзі, на Пн ад г. Чэрыкаў. (Чэр.)

**ПРАСВІРАЎ**, х., да 1920-х гг. у Верамейскім с/с Чэрыкаўскага р-на. Далуч. да п. Ясная Паляна. (Чэр.)

**ПРАСЕКА**, лясная дарога, Благаўка – Гарадзішча Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ПРАСЕННЕ**, ур., лясное, на Пд ад в. Казакоўка Слаўгарадскага р-на, на мяжы з Краснапольскім р-нам. Вар. назвы – ур. Прасянне. (Слаўг.)

**ПРАСЯННЕ**, лог у лесе, на Пн ад в. Дзямідавічы Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ПРАСЯННЕ**, ур. Гл. ур. Прасенне Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ПРАСЯННЕ**, ур., с.-г. угоддзі, на Пд ад логу Прасянне, каля в. Дзямідавічы Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ПРАСЯННЕ**, ур., с.-г. угоддзі, на Пн в. Акунёўка Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ПРАСЯННЕ**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Вепрын Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**ПРАСЯЧЫШЫНА ПЕЛЬ**, сажалка, у в. Масцішча Глускага р-на. (Глуск.)

**ПРАТАСЕВІЦКІ КАНАЛ**, канал, меліярац., у Пухавіцкім і Асіповіцкім р-нах, левы прыт. р. Сіняя (бас. р. Свіслач). Даўж. 22 (у р-не 16) км. Выток у Пухавіцкім р-не, вусце на Пд ускр. г. Асіповічы. (Асіп.)

**ПРАТАСЕВІЦКІ С/С**, с/с Асіповіцкага р-на, на ПдЗ р-на. перайменав. 25.02.1964 г. з Восаўскага с/с. З 06.01.1965 у р-не. 13.02.2002 г. далуч. частка Асіповіцкага с/с. Ц. с/с – а/г Забалацце. ААТ "Пратасевічы" (а/г Пратасевічы). 22 снп, 714 двароў, 1607 жых. (Асіп.)

**ПРАТАСЕВІЧЫ I, ПРАТАСЕВІЧЫ ПЕРШЫЯ**, в. Гл. а/г Пратасевічы Пратасевіцкага с/с Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**СВАБОДА**, п., да 1976 г. у Гусаркаўскім с/с Клімавіцкага р-на. Ліквідаваны. (Клім.)

**СВАБОДА**, п., Круглянскі с/с Круглянскага р-на, 16 двароў, 22 жых., кург. могільнік. У 1967 г. далуч. в. Дубнік. (Кругл.)

**СВАБОДА**, ур. Гл. ур. Слабада Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**СВАДКАВІЧЫ**, в., Касцюшкавіцкі с/с Крычаўскага р-на, вядом. з XVI ст., 27 двароў, 55 жых., дом-інтэрн. для псіханеўралаг. хворых (156 чал.). Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. Радз. С. Каваліка, аднаго з кіраўн. народнікаў 1870-х гг., падарожніка, метэаролага. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². (Крыч.)

**СВАЕВОЛКА**, р., левы рукаў р. Бася, у г. Чавусы. На ім заснав. г. Чавусы, за ім – Зарэчча. (Чав.)

**СВАІ**, ур. Гл. ур. Млын, Шваі Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**СВАХА**, ур., лясное, на ПдУ ад а/г Падлужжа Глускага р-на, на пр. бер. р. Бежыца. (Глуск.)

**СВЁКЛАЎКА**, ур., с.-г. угоддзі, за 0,5 км на Пн ад в. Мікалаеўка Шклоўскага р-на. Пл. 24 га. (Шкл.)

**СВЁКРАВА**, в., Доўгаўскі с/с Клічаўскага р-на, без жых. Спалена фашыстамі ў 1942 г. Пасля вайны адноўлена. (Кліч.)

**СВЁКРАВА**, ур., асуш. с.-г. угоддзі, за 6 км на Пд ад а/г Доўгае Клічаўскага р-на, на мяжы з Кіраўскім р-нам. (Кліч.)

**СВЕНСК**, а/г, ц. с/с Слаўгарадскага р-на, СВК "Заранскі", ПВГУП "Агракомплекс "Огнеўскае", 220 двароў, 582 жых., п/а, аддз. ААБ "Беларусбанк", ФАП, СШ, д/с, ФАК, КПП, лазня, 2 крамы, кацельня, аграсядз. "Каля Возера", свінак.-с "Свенск". Бр. магіла сав. воінаў. Парк. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 5 да 15 Кі/км². Да рц – 18, да чыг. ст. Крычаў – 80 км. (Слаўг.)

**СВЕНСКАПОЛЛЕ**, маёнтак, да 1920-х гг. у Свенскім с/с Слаўгарадскага р-на. Ліквідаваны. У 1905 г. сялян. паўстанне. (Слаўг.)

**СВЕНСКАПОЛЛЕ**, х., да 1920-х гг. у Свенскім с/с Слаўгарадскага р-на. Ліквідаваны. Вар. назвы – х. Пералесянкі. (Слаўг.)

**СВЕНСКІ ПАРК**, парк, эканамічн. тыпу, у ПдУ частцы а/г Свенск Слаўгарадскага р-на. Закл. у пач. XX ст. як сядз. Пл. 12 га. Вярбовыя і ліпавыя алеі, клёны і серабр. таполі, яблыневы сад. Помн. садова-парк. мастац. (Слаўг.)

**СВЕНСКІ С/С**, с/с Слаўгарадскага р-на, на Пд р-на. Утвор. 16.11.1961 г. шляхам аб'яд. Ракцянскага і Прудоцкага с/с, з 25.12.1962 у Быхаўскім р-не, з 06.01.1965 у Слаўгарадскім р-не. СВК: "Зімніца" (в. Вялікая Зімніца), "Заранскі" (а/г Свенск), "Рэкценскі" (а/г Рэкта); ПВГУП "Агракомплекс "Огнеўскае" (а/г Свенск). 19 снп, 919 двароў, 2185 жых. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 5 да 15 – 18 снп, звыш 15 Кі/км² – 1 снп (в. Рагі). (Слаўг.)

**СВЕНЦІНА**, зак., мясц. знач., з 1995 г., гідрал., за 1 км на ПнЗ ад в. Ржаўка II Слаўгарадскага р-на. Пл. 35 га. Водаахоўн. знач., тарфянік, рэгулятар стоку (Слаўг.)

**СВЕНЦІНА**, ур., забалоч. с.-г. угоддзі, за 1 км на ПнЗ ад в. Ржаўка II Слаўгарадскага р-на. З 1995 г. – зак. (Слаўг.)

**СВЕНЦКАПОЛЬ**, фальв. Гл. в. Свенскаполле Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**СВЕРДЗЕЛ**, руч., левы прыт. р. Чорная (бас. р. Віхра). Даўж. 7 км. Выток каля в. Дубасна, вусце на З ад в. Банькаўшчына Мсціслаўскага р-на. Вар. назвы – руч. Свярдзел. (Мсц.)

**СВЕТ**, п., да 1967 г. у Забялышынскім с/с Хоцімскага р-на. Ліквідавана. Далуч. да а/г Забялышын. (Хоц.)

**СВЕТАЗЕР'Е**, ур., с.-г. угоддзі, на м. б. в. Светазер'е Чавускага р-на, на мяжы з Чэрыкаўскім р-нам. (Чав.)

**СВЕТАЗЕР'Е**, в., да 1943 г. у Пуцькаўскім с/с Чавускага р-на. Спалена фашыстамі. Радз. А. Івіцкага, чл.-кар. АН БССР, вуч. у галіне меліярацыі. (Чав.)

**СВЕТАЗЕРЬЕ, СВЯТАЗЕР'Е**, в., Краснагорскі с/с Мсціслаўскага р-на, без жых. (Мсц.)

**СВЕТЛАЯ**, в., з 1969 г. у Ленінскім с/с Горацкага р-на. Да 1969 г. – в. Асталопава. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. (Гор.)

**СВЕТЛЫ**, п., да 2004 г. у Сормаўскім с/с Чэрыкаўскага р-на. Ліквідаваны. (Чэр.)

**СВЕШНІКАЎ ХУТАР**, ур. Гл. ур. Ліпавы Холм Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**СВІДОЎКА**, ур., лясное, бярозавы гай на ПдЗ а/г Падлужжа Глускага р-на. (Глуск.)

**СВІДЭРСК**, х., да 1920 – 1930-х гг. у Чавускім р-не. Ліквідаваны. (Чав.)

**СВІДЭРСКІ ЛЕС**, ур., лясное, каля а/г Антонаўка Чавускага р-на. (Чав.)

**СВІДЭРШЧЫНА**, ур., с.-г. угоддзі, луг, в. Кішчыцы Дрыбінскага р-на. (Дрыб.)

**СВІНАПОЛЛЕ**, в., старая назва а/г Свенск Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**СВІНАРНІК**, ур., с.-г. угоддзі, на Пд ускр. в. Забор'е Краснапольскага р-на, на м. б. СТФ (да 1960-х гг., перанес. у в. Палуж). Пл. 0,5 га. (Краснап.)

**СВІНАЯ РЭЧКА**, руч. Гл. руч. Свінка Крычаўскага р-на. (Крыч.)

**СВІНАЯ СЛАБОДКА**, в. Гл. п. Свіная Крычаўскага р-на. (Крыч.)

**СВІНАЯ**, п., да 1919 г. у Лабковіцкім с/с Крычаўскага р-на. Перайменав. у в. Іванаўка (у гонар рэв. дзеяча Івана Паршукоўскага). Гл. в. Іванаўка. Вар. назвы – п. Свіная Слабодка. (Крыч.)

**СВІНІЦА**, р., пр. прыт. р. Палуж (бас. р. Дняпро), у Краснапольскім р-не. Даўж. 3 км. Выток за 2 км на Пд ад в. Стайкі, вусце за 1 м на У ад в. Бірулі. (Краснап.)

**СВІНКА**, воз., старык, лев. бер. р. Беседзь, за 2 км на З ад в. Віроўка Касцюковіцкага р-на. Упад. р. Свінка. (Касц.)

**СВІНКА**, р., у Касцюковіцкім р-не і Бранскай вобл. РФ, левы прыт. р. Беседзь (бас. р. Дняпро). Даўж. 13 км. Выток – у РФ, вусце за 2 км на З ад в. Віроўка Касцюковіцкага р-на. Частка рэчышча каналізав. Пл. вдзб. 83 км$^2$. (Касц.)

**СВІНКА**, руч., у Касцюковіцкім р-не і Бранскай вобл., левы прыт. р. Свінка бас. р. Дняпро). Даўж. 8 км. Выток у Бранскай вобл., вусце на У ад в. Віроўка, паміж в. Віроўка і вусцем руч. Каравіч. (Касц.)

**СВІНКА**, руч., пр. прыт. р. Сож (бас. р. Дняпро). Даўж. каля 5 км. Выток каля в. Іванаўка Крычаўскага р-на, вусце на ПнУ г. Крычаў. Вар. назвы – руч. Свіная, Свіная Рэчка. (Крыч.)

**СВІННУК**, ур., с.-г. угоддзі, у а/г Філатава Круглянскага р-на. (Кругл.)

**СВІНОЕ БАЛОТА**, балота, на мяжы Асіповіцкага і Бярэзінскага р-наў, на ПнУ ад а/г Каменічы Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**СВІРЛАЦ**, р., старажытн. назва р. Свіслач. (Асіп.)

**СВІРЫДАВА БАЛОТА**, ур., забалоч. с.-г. угоддзі, на Пд а/г Сялецкае Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**СВІРЭЛЬ**, в., Гусаркаўскі с/с Клімавіцкага р-на, 39 двароў, 81 жых., крама. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. (Клім.)

**СВІСЛАЦКА-БЕРАЗІНСКІ**, нацпарк. Гл Нацыянальны парк Свіслацка-Бярэзінскі, Свіслацка-Бярэзінскі нацыянальны парк. (Асіп., Кліч.)

**СВІСЛАЦКА-БЯРЭЗІНСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ ПАРК**, плануемы, на тэр. Асіповіцкага і Клічаўскага р-наў, у сутоку Свіслачы і Бярэзіны. Агульн. пл. 68 тыс. га. (Асіп., Кліч.).

**СВІСЛАЦКА-БЯРЭЗІНСКІ**, рэзерват, з 1996 г. Гл. Свіслацка-Бярэзінскі нацыянальны парк. (Асіп., Кліч.)

**СВІСЛАЦКІ РАЁН**, адм. сельскі р-н, у 1924 – 1931 гг. Ц. – мяст. Свіслач. Утвор. 17.07.1924 г. У 1927 – 1930 гг. у Бабруйскай акр. 9 с/с. 08.07.1931 г. скасав. Тэр. перададз. Клічаўскаму і Асіповіцкаму р-нам. (Асіп. Кліч.)

**СВІСЛАЦКІ С/С**, с/с Асіповіцкага р-на, на ПнУ р-на. Утвор. 20.08.1924 г., з 06.01.1965 у р-не. СВК "К.-с "Бярэзіна" (а/г Краснае). 13 снп, 771 двор, 1699 жых. (Асіп.)

**СВІСЛАЧ**, а/г, ц. с/с Асіповіцкага р-на, вядом. з кан. XI – пач. XII стст., 308 двароў, 741 жых., п/а, аддз. ААБ "Беларусбанк", АТС, амбул., апт., ПУП "Дз. сан. "Свіслач", СШ, філ. дз. шк. мастац., аддз. дз. спарт. шк., д/с "Вясёлка", СДК, б-ка, КПП, сац. пункт, 3 крамы, 2 кацельні, ф., прыстань на р. Бярэзіна. Аграсядз. "Свіслач", "Лілія", "Жураўліная крыніца", "Вясковыя фарбы". Свята-Мікольская царква. Б. ц. Свіслацкага княства. Спалены руск. войск. у 1535 г. У 1886 – 1938 гг. – мяст. Ц. вол. – да 1924 г. У 1924 – 1931 гг. – ц. р-на. Бр. магіла сав. воінаў і партызан. Замчышча. Гарадзішча жалезн. веку. Спалена фашыстамі ў 1944 г. Пасля вайны адноўлена. Да чыг. ст. Ялізава – 5, да рц – 30 км. (Асіп.)

**СВІСЛАЧ**, р., пр. прыт. р. Бярэзіна (бас. р. Днепр), у Мінскай вобл. і Асіповіцкім р-не Магілёўскай вобл. Даўж. 285 (у р-не 59). Пл. вдзб. 5,2 тыс. км$^2$. Сяр. гадавы расход вады ў вусці 40–50 м$^3$/с. Вусце на ПдУ ўскр. а/г Свіслач Асіповіцкага р-на. Гал. прыт.: рр. Граўка, Жы-

цінка, Ботча (левыя), Сіняя, Талька (правыя). Свіслацкае вдсх. і Асіповіцкая ГЭС. (Асіп.)

**СВІСЛАЧ**, чыг. ст. да 1955 г. у Ялізаўскім п/с Асіповіцкага р-на. З 1955 г. у скл. р.п. Ялізава. (Асіп.)

**СВІСТУНОВА ГАРА**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Кішчыцы Дрыбінскага р-на. (Дрыб.)

**СВІХАНАВА**, в., Дараганаўскі с/с Асіповіцкага р-на, 3 двары, 5 жых. Дом сац. пасл. (Асіп.)

**СВІШЧОВА**, в., Гусаркаўскі с/с Клімавіцкага р-на, 20 двароў, 54 жых., б-ка, ПУП "Онікс" (дрэваапрац.) (Клім.)

**СВІШЧЫКАЎ САД**, сад, у в. Дзіўнава Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**СВОЙ ЛЕС**, ур., лясное, на У ад в. Казаброддзе Круглянскага р-на. (Кругл.)

**СВЯРБІЛАЎКА**, п., да 1965 г. Перайменав. у п. Сувораўка Краснапольскага р-на. Гл. п. Сувораўка. (Краснап.)

**СВЯРДЗЕЛ**, руч. Гл. руч. Свердзел Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**СВЯРДЛОВА**, в., Падсолтаўскі с/с Мсціслаўскага р-на, 37 двароў, 75 жых., крама, МТФ. Да 1941 г. – в. Мардалысава. У 1976 г. далуч. в. Вялікая Слабодка. (Мсц.)

**СВЯТААЗЕРСКАЕ**, рад., сапрапелю, на воз. Святое Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**СВЯТАЗЕР'Е**, в. Вар. назвы – в. Заазер'е Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**СВЯТАЗЕР'Е**, в., Краснагорскі с/с Мсціслаўскага р-на, 2 двары, 2 жых. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. (Мсц.)

**СВЯТАЯ КРЫНІЦА**, крын. Гл. Міхееўская Крыніца Крычаўскага р-на. (Крыч.)

**СВЯТАЯ КРЫНІЦА**, крын. Вар. назвы – Блакітная крыніца Слаўгарадскага р-на. Два валуны – "Валуны-жаніхі". Вада з паст. т-рай +4–+8°С. Багатая на фтор, срэбра. Каля крын. – ур. Царковішча. (Слаўг.)

**СВЯТАЯ КРЫНІЦА**, крын., за 0,2 км на У ад в. Новы Дзедзін Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**СВЯТАЯ КРЫНІЦА**, крын., паміж вв. Новае Брашчына і Чырчына Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**СВЯТАЯ КРЫНІЦА**, крын., рытуальная, у в. Марцьянавічы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**СВЯТАЯ КРЫНІЦА**, крын., у бас. р. Беседзь, каля а/г Бярозкі Хоцімскага р-на. (Хоц.)

**СВЯТАЯ КРЫНІЦА**, крын., у бас. р. Дымаўка, за 0,2 км на Пд могілак в. Дымава Шклоўскага р-на. Да 1930 – 1940-х гг. 2 разы на год царкоўныя службы. (Шкл.)

**СВЯТАЯ КРЫНІЦА**, крын., у в. Любаны Слаўгарадскага р-на. Вар. назвы – ур. Шведскі мост. (Слаўг.)

**СВЯТАЯ КРЫНІЦА**, крын., у в. Старыя Стайкі Шклоўскага р-на. Раней – капліца. Паданні пра месца забойства святых мучанікаў – князёў Барыса і Глеба, пра Крыштальны Крыж. (Шкл.)

**СВЯТАЯ КРЫНІЦА**, левы прыт. р. Бася (бас. р. Дняпро), у в. Папоўцы Чавускага р-на. (Чав.)

**СВЯТАЯ КРЫНІЦА**, частка канала паміж каналам Святая Рэчка і Святым Калодзежам, у в. Прыбар Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**СВЯТАЯ КРЫНІЦА**, крын., за 1,5 км на ПдЗ ад в. Папоўцы Чавускага р-на. (Чав.)

**СВЯТАЯ КРЫНІЦА**, п. п., мясц. знач., гідрал., з 1994 г., у бас. р. Беседзь, каля а/г Бярозкі Хоцімскага р-на, у Батаеўскае лясн. Пл. 5,6 га. (Хоц.)

**СВЯТАЯ РЭЧКА**, канал, пр. прыт. р. Друць (бас. р. Дняпро), на м. калодзежа Святы ў в. Прыбар Бялыніцкага р-на. (Бял.).

**СВЯТАЯ**, крын., за 0,6 км на ПдУ ад в. Судзілы Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**СВЯТЛО**, п., да XX ст. у Дрыбінскім р-не. Ліквідаваны. (Дрыб.)

**СВЯТЛОЎКА**, в., у 1920 – 1980-х гг. у Фашчаўскім с/с Шклоўскага р-на. Ліквідавана. (Шкл.)

**СВЯТОЕ**, воз., бас. р. Бася, на Пд ад в. Светазер'е Чавускага р-на, ва ўр. Баравіны. (Чав.)

**СВЯТОЕ**, воз., бас. р. Чарняўка, за 0,5 км на ПдЗ ад в. Баброва, на Пд ад в. Латанаўка, за 2,2 км на У ад в. Пусты Асавец Магілёўскага р-на. Пл. 0,25 км$^2$. Урэз вады 162,4 м н.у.м. (Маг.)

**СВЯТОЕ**, воз., за 3,5 км на ПдЗ ад а/г Шапялевічы Круглянскага р-на. Вар. назваў – воз. Хотам'е, Хотамскае. Высокая канц. срэбра. Раней – скіт, царква. (Кругл.)

**СВЯТОЕ**, воз., на Пд ад. в. Гарадок Магілёўскага р-на. На ПнЗ бер. – ур. Капліца. (Маг.)

**СВЯТОЕ**, воз., на ПдЗ ад в. Юзафоўка Хоцімскага р-на. Пл. 25 га. Сяр. глыб. 1,5 м. Аб'ём 650 тыс. м³. (Хоц.)

**СВЯТОЕ**, воз., на ПдУ р-на, каля в. Латанаўка Махаўскага с/с Магілёўскага р-на. Пл. 6 га. (Маг.)

**СВЯТОЕ**, воз., старык, у рэчышчы лев. бер. р. Сож, паміж вв. Журавель і Бакаў Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**СВЯТОЕ**, воз., у бас. р. Беседзь, за 0,5 км на Пн ад в. Зарэчча Касцюковіцкага р-на. Пл. 0,26 км². Найб. глыб. 6 м. Даўж. 0,63 км, найб. шыр. – 0,57 км. Даўж. бер. лініі 2,05 км. Пл. вдзб. 5,25 км². 40% пл. дна выстл. сапрапелем. (Касц.)

**СВЯТОЕ**, воз., у бас. р. Чарнаводка, на ПдЗ ад в. Клімавічы Шклоўскага р-на, сярод лесу. (Шкл.)

**СВЯТОЕ БАЛОТА**, ур., забалоч., на Пд ад в. Лукаць Дрыбінскага р-на. (Дрыб.)

**СВЯТОЕ ВОЗЕРА**, в., да 1960-х гг. у Клічаўскім п/с Клічаўскага р-на. Далуч. да в. Бёрда. (Кліч.)

**СВЯТОЕ ВОЗЕРА**, воз., да XX ст., у бас. р. Грэбля (бас. р. Беседзь), на З ад в. Фралоўка Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**СВЯТОЕ ВОЗЕРА**, воз., на лев. бер. р. Бесядзь, за 1,7 км на У ад в. Хоцімск Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**СВЯТОЕ ВОЗЕРА**, воз., на ПнУ ад в. Азер'е Шклоўскага р-на, у бас. р. Арціслаўка (бас. р. Дняпро). Пл. 0,23 км². Даўж. 0,65 км, шыр. 0,37 км. Праточнае – цераз воз. цячэ р. Арціслаўка. (Шкл.)

**СВЯТОЕ ВОЗЕРА**, воз., у бас. р .Сож, за 10 км на Пд ад г. Слаўгарад, каля в. Дубна Слаўгарадскага р-на. Пл. 0,25 км². Даўж. 2 км, найб. шыр. 0,17 км, даўж. бер. лініі 4,82 км. Схілы катлавіны на У выш. да 3 м. З Пд упад. руч. Дубня. Карст. паходж. (Слаўг.)

**СВЯТОЕ ВОЗЕРА**, воз., у бас. р. Лабчанка (бас. р. Сож), у а/г Язёры Чэрыкаўскага р-на. Пл. 12,6 га. Вар. назваў – воз. Возера, Езера, Язёрскае Вадасховішча, Язёрская Сажалка. Рыбагасп. прызнач. (Чэр.)

**СВЯТОЕ ВОЗЕРА**, воз., у бас. р. Сож, на Пд г. Мсціслаў, на ПнУ ад в. Святазер'е. Глыб. да 2,4 м. Дыям. 250 м. (Мсц.)

**СВЯТОЕ ВОЗЕРА**, п. п., мясц. знач., гідрал., з 1990 г. Вакол воз. Святое і ва ўр. Ляўкі Хоцімскага р-на. Пл. 19 га. Чорны бусел. (Хоц.)

**СВЯТОЕ, ГРАБЯНЁЎСКАЕ**, воз., у бас. р. Дняпро, на Пд Магілёва. Пл. 28 га. Даўж. 820 м, макс. шыр. – 490 м, макс. глыб. – 12 м (дадз. 2004 г. – 19,8 м). Да кан. XIX ст. у воз. Упад. р. Качарага. (Маг.)

**СВЯТОЕ**, рад., сапрапелю, на воз. Святое Хоцімскага р-на. Зап. 0,6 млн. т, магутн. 6 – 7 м. (Хоц.)

**СВЯТОЧНІЦА**, руч. Гл. руч. Святошніца Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**СВЯТОШНІЦА, СВЯТОЧНІЦА**, руч., левы прыт. р. Дняпро (бас. Чорнага мора). Даўж. 6 км. Выток паміж вв. Нікіцінічы і Старыя Стайкі, вусце на ПнЗ ад в. Новыя Стайкі Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**СВЯТЫ КАЛОДЗЕЖ**, воз., карставае, за 1,5 км на З ад в. Прудок Крычаўскага р-на. (Крыч.)

**СВЯТЫ КАЛОДЗЕЖ**, крын., у в. Запруддзе Горацкага р-на. (Гор.)

**СВЯТЫ КАЛОДЗЕЖ**, рад. Гл. Прудоцкае рад. мін. вод Крычаўскага р-на. (Крыч.)

**СВЯТЫ КАЛОДЗЕЖ**, ур. Гл. ур. Святая рэчка Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**СВЯТЫ КАМЕНЬ**, валун, рытуальны, у в. Марцьянавічы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**СВЯТЫ КАМЕНЬ**, ур., с.-г. угоддзі, у а/г Катка Глускага р-на. Да 1930-х гг. – культ. валун. Вар. назваў – Камень Ісуса Хрыста, Камень. (Глуск.)

**СВЯТЫ МІКОЛА-ЛУГ**, ур., с.-г. угоддзі, луг, на У ад в. Хількавічы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**СВЯЦІЛАВІЧЫ І, СВЯЦІЛАВІЧЫ ПЕРШЫЯ**, в., да 1930-х гг. у Лебядзянкаўскім с/с Бялыніцкага р-на. Ліквідавана. (Бял.)

**СВЯЦІЛАВІЧЫ ІІ, СВЯЦІЛАВІЧЫ ДРУГІЯ**, в., да сяр. XX ст. у Лебядзянкаўскім с/с Бялыніцкага р-на. Ліквідавана. (Бял.)

**СВЯЦІЛАВІЧЫ**, а/г, Лебядзянкаўскі с/с Бялыніцкага р-на, ц. СВК "К.-с імя Заслонава", вядом. з XVI ст., 195 двароў, 458 жых., п/а, АТС, ФАП, СШ-д/с, СДК, б-ка, 2 крамы, лясн., цагельня, ф. Пн частка – Трылесінская Школа. (Бял.)

**СВЯЦІЛАЎКА**, да 1930-х гг. у Мсціслаўскім р-не. Ліквідавана. Радз. В. Еўцыхевіча, к.г.н., географа. (Мсц.)

**СВЯЦІЛАЎКА**, р., пр. прыт. р. Вабіч (бас. р. Дняпро). Даўж. 11,4 км. Выток за 1 км на

ПнЗ ад в. Старое Ляда, вусце на З ускр. в. Рудня Бялыніцкага р-на. Рэчышча на працягу 5 км ад вытоку і да а/г Свяцілавічы і на прац. 0,6 км каля Пд ускр. а/г Свяцілавічы каналізав. У нізоўі перасыхае. Вар. назвы – р. Свяцілка. (Бял.)

**СВЯЦІЛІШЧА**, ур., леса-балотнае, за 2 км на ПнУ ад в. Камяніца Бялыніцкага р-на. Выток р. Свяцілаўка. Раней – капішча. (Бял.)

**СВЯЦІЛКА**, р. Др назва р. Свяцілаўка Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**СВЯЦІНСКАЕ**, ур., леса-балотнае, за 0,5 км на ПнУ ад в. Новы Дзедзін Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**СЕВЕР**, в., Вішоўскі с/с Бялыніцкага р-на, 7 двароў, 11 жых. Радз. М. Севярнёва, д.т.н., акадэміка. (Бял.)

**СЕВЕРНЫ ЖАБІН**, в. Гл. в. Жабін Магілёўскага р-на. (Маг.)

**СЕВЯРЦАЎ КУРГАН**, ур., лясное, каля в. Буда Горацкага р-на. (Гор.)

**СЕВЯРЦАЎ**, х., да 1930-х гг. у Будскім с/с Горацкага р-на. Ліквідаваны. (Гор.)

**СЕДЗІЧ**, в., Холстаўскі с/с Быхаўскага р-на, 89 двароў, 165 жых., ФАП, клуб, б-ка, крама. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². (Быx.)

**СЕКАЧЫ**, ур., леса-балотнае, за 2,5 км на З ад в. Склімін Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**СЕЛІМАЕ**, ур., захмызаван. с.-г. угоддзі, за 2,5 км на Пд ад в. Морхавічы Кіраўскага р-на, за 1 км на ПдЗ ад ур. Надаткі. Пл. каля 25 га. (Кір.).

**СЕЛІЎКА**, р., старажытн. назва р. Асліўка Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**СЕЛІЦА**, в., Паўлавіцкі с/с Кіраўскага р-на, 19 двароў, 40 жых., дом сац. пасл. (Кір.)

**СЕЛІЦА**, ур., с.-г. угоддзі, луг, каля в. Хількавічы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**СЕЛІЦА**, ур., с.-г. угоддзі, луг, паміж а/г Паўлавічы і в. Селіца Кіраўскага р-на. (Кір.)

**СЕЛІШЧА**, в., Верамейскі с/с Чэрыкаўскага р-на, 1 двор, 1 жых. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². (Чэр.)

**СЕЛІШЧА**, в., Галіцкі с/с Клімавіцкага р-на, 6 двароў, 18 жых. (Клім.)

**СЕЛІШЧА**, в., Гусаркаўскі с/с Клімавіцкага р-на, 18 двароў, 35 жых. (Клім.).

**СЕЛІШЧА**, в., да 1920-х гг. Вар. назвы – в. Зубараўка Хоцімскага р-на. (Хоц.)

**СЕЛІШЧА**, в., да 1976 г. у Вязскім с/с Асіповіцкага р-на. Ліквідавана. (Асіп.)

**СЕЛІШЧА**, в., да 1992 г. у Лабжанскім с/с Клімавіцкага р-на. Ліквідавана. (Клім.)

**СЕЛІШЧА**, в., Княжыцкі с/с Магілёўскага р-на, 32 двары, 55 жых. (Маг.)

**СЕЛІШЧА**, в., Нясяцкі с/с Клічаўскага р-на, 2 двары, 3 жых. (Кліч.)

**СЕЛІШЧА**, в., Раздзельскі с/с Мсціслаўскага р-на, 2 двары, 2 жых. Бр. магіла сав. воінаў. (Мсц.)

**СЕЛІШЧА**, в., Сласцёнаўскі с/с Чавускага р-на, вядом. з XVIII ст., 10 двароў, 16 жых. Гарадзішча ва ўр. Касін Гарадок, стаянка камен. веку. У 1785 г. – сяльцо, 28 жых., млын, у 1821 – сукнавальня, у сяр. XIX ст. – млын, сукнавальня, вінакурня, карчма; у 1897 – фальв., 31 жых. (Чав.)

**СЕЛІШЧА**, в., у XVI ст. – 1989 г. у Лабжанскім с/с Клімавіцкага р-на. Пахавана. Старажытн. селішчы, стаянкі, кург. могільнік. Помн. землякам. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. (Клім.)

**СЕЛІШЧА**, в., у XIX ст. – 1990-х гг. у Таўкачоўскім с/с Шклоўскага р-на. Ліквідавна. (Шкл.)

**СЕЛІШЧА**, в., Чарняўскі с/с Хоцімскага р-на, вядом. з XVIII ст., 1 двор, 1 жых. (Хоц.)

**СЕЛІШЧА**, в., Язёрскі с/с Чэрыкаўскага р-на, 24 двары, 58 жых., крама, ф. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 5 да 15 Кі/км². (Чэр.)

**СЕЛІШЧА**, зак., мясц. знач, гідрал., прыбярэжн. паласа лев. бер. р. Раста, за 0,3 км на З ад в. Доўгі Мох Чавускага р-на, з 1995 г. Пл. 10 га. Водаахоўн. знач., тарфянік, рэгулятар стоку. (Чав.)

**СЕЛІШЧА**, л. м., за 6,5 км на ПдУ в. Стасеўка Бабруйскага р-на. (Бабр.)

**СЕЛІШЧА**, п. п., мясц. знач., з 2002 г., батан., на Пн р-на, на мяжы з Чэрыкаўскім р-нам, за 6 км на ПнЗ ад в. Кажамякіна Краснапольскага р-на, на лев. бер. р. Сянна. Пл. 1,6 га. 26 дубоў-волатаў дыям. больш за 1 м, узрост. больш за 100 гадоў. (Краснап.)

**СЕЛІШЧА**, п., Глухскі с/с Быхаўскага р-на, 5 двароў, 8 жых. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². (Быx.)

**СЕЛІШЧА**, п., да 1971 г. у Ланькаўскім с/с Бялыніцкага р-на. Ліквідавана. (Бял.)

**СЕЛІШЧА**, п., да 1993 г. у Васькавіцкім с/с Слаўгарадскага р-на. Ліквідаваны. (Слаўг.)

**СЕЛІШЧА**, селішча за 0,1 км на ПдУ ад в. Дзевашычы Бялыніцкага р-на. Пл. 1,5 га. (Бял.)

**СЕЛІШЧА**, селішча, на Пд ускр. г.п. Глуск, паміж поймай р. Пціч і могілкамі. (Глуск.)

**СЕЛІШЧА**, суток рр. Панюшкавічы і Бярэзіна, на пр. бер. р. Панюшкавічы Бабруйскага р-на. (Бабр.)

**СЕЛІШЧА**, суток руч. Балотны з р. Дняпро ў Быхаўскім р-не. Селішча. (Бых.)

**СЕЛІШЧА**, ур, с.-г. угоддзі, за 4,5 км на З ад в. Барысавічы Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**СЕЛІШЧА**, ур. Гл. ур. Благадаць Магілёўскага р-на. (Маг.)

**СЕЛІШЧА**, ур., леса-балотнае, каля в. Кульшычы Слаўгарадскага р-на. Селішча. (Слаўг.)

**СЕЛІШЧА**, ур., лясное, за 1,5 км на У ад в. Нязнань Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**СЕЛІШЧА**, ур., с.-г. угоддзі за 0,8 км на ПдУ ад в. Вугольшчына Бялыніцкага р-на, на тэрасе пр. бер. р. Друць Пл. 0,6 га. (Бял.)

**СЕЛІШЧА**, ур., с.-г. угоддзі, за 0,1 км на ПдЗ ад в. Савелінкі Шклоўскага р-на, за 0,8 км ад кург. могільніка, каля могілак. (Шкл.)

**СЕЛІШЧА**, ур., с.-г. угоддзі, за 0,5 км на Пд ад вусця р. Макранка. Селішча. Быхаўскага р-на. (Бых.)

**СЕЛІШЧА**, ур., с.-г. угоддзі, за 0,5км на З ад ПдУ ўскр. в. Сіманавічы Глускага р-на. Селішча. (Глуск.)

**СЕЛІШЧА**, ур., с.-г. угоддзі, заліўны луг, на пр. бер. р. Проня, на Пд ад ур. Дубы Слаўгарадскага р-на, паміж р. Проня і лесам. (Слаўг.)

**СЕЛІШЧА**, ур., с.-г. угоддзі, луг, за 0,3 км на З ад в. Доўгі Мох Чавускага р-на. Пл. 10 га. Ахоўв. тэр. (Чав.)

**СЕЛІШЧА**, ур., с.-г. угоддзі, луг, на пр. бер. р. Пціч, каля в. Жалвінец Глускага р-на. Старажытн. селішча. (Глуск.)

**СЕЛІШЧА**, ур., с.г. угоддзі, на 2 надпойм. тэр. пр. бер. р. Дняпро, на Пд ускр. г. Быхаў, за 1,5 км на Пн ад маста праз р. Рдзіца. Селішча II–V ст. н. э. (Бых.)

**СЕЛІШЧА**, ур., с.-г. угоддзі, на м. б. в. Селішча Лабжанскага с/с Клімавіцкага р-на, на лев. бер. р. Сож. Укл. ур. Баярскі Бугор. (Клім.)

**СЕЛІШЧА**, ур., с.-г. угоддзі, на Пд ад в. Краі Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**СЕЛІШЧА**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Сялец Асіповіцкага р-на, каля ўр. Воўчы Рог. (Асіп.)

**СЕЛІШЧА**, ур., с.-г. угоддзі, у пойме пр. бер. р. Свіслач, каля вусця р. Сіняя, на м. б. в. Селішча Асіповіцкага р-на. Селішча IV ст. да н.э. – IV – V стст. н.э. (Асіп.)

**СЕЛІШЧА**, ур., с.-г.угоддзі, каля воз. Безназоўнае, за 1 км на ПдЗ ад г. Быхаў. Селішча (Бых.)

**СЕЛІШЧА**, фальв., да 1920-х гг. у Чарняўскім с/с Хоцімскага р-на. Далуч. да в. Селішча. У 1866 г. – вінакурня. (Хоц.)

**СЕЛІШЧАНСКАЕ**, рад., глін, на ПнУ ад г. Асіповічы. (Асіп)

**СЕЛІШЧЫ І, СЕЛІШЧЫ ПЕРШЫЯ**, в., да сяр. XX ст. у Мышкавіцкім с/с Кіраўскага р-на. Ліквідавана. (Кір.)

**СЕЛІШЧЫ ІІ, СЕЛІШЧЫ ДРУГІЯ**, в., да сяр. XX ст. у Мышкавіцкім с/с Кіраўскага р-на. Ліквідавана. (Кір.)

**СЕЛІШЧЫ**, в. Гл. в. Селішча Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**СЕЛІШЧЫ**, в., да 1977 г. у Мышкавіцкім с/с Кіраўскага р-на. Далуч. да г. Кіраўск. (Кір.)

**СЕЛІШЧЫ**, в., да 1981 г. у Баравіцкім с/с Кіраўскага р-на. Ліквідавана. (Кір.)

**СЕЛІШЧЫ**, ур., с.-г. угоддзі, на Пн ад в. Боўсевічы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**СЕЛЬНАЕ**, ур., лясное, паміж вв. Сялец і Амур Глускага р-на. (Глуск.)

**СЕЛЬЦЫ**, в., Калаціцкі с/с Глускага р-на, вядом. з XVIII ст., 37 двароў, 65 жых. Бр. магіла сав. воінаў, помн. землякам. У 1994 г. падчас засухі згарэла. Адноўлена. (Глуск.)

**СЕЛЯЗЕНСКАЯ**, дарога, в. Ніканавічы – р. Ухлясць, праз ур. Малыя і Вялікія Селязенцы Быхаўскага р-на. (Бых.)

**СЕЛЯНІН**, п., да 1967 г. у Цялушскім с/с Бабруйскага р-на. Ліквідаваны. (Бабр.)

**СЕМАНТОЎШЧЫНА**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Негін Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**СЁМАЧКІН ХУТАР**, ур., с.-г. угоддзі, на Пн ад в. Бялынец Мсціслаўскага р-на, паміж ур. Пархуноў Хутар, Мятліхін Равок і могілкамі. (Мсц.)

**СЕМІРАВІЧЫ**, в., назва в. Семіровічы ў XV ст. – 1920-х гг. (Асіп.)

**СЕМІРОВІЧЫ**, в., Ліпеньскі с/с Асіповіцкага р-на, вядом. з XV ст., 15 двароў, 29 жых., дом сац. пасл. (Асіп.)

**СЁМКАВА СЛАБАДА**, в., да сяр. 1980-х гг. у Лапіцкім с/с Асіповіцкага р-на. Ліквідавана. (Асіп.)

**СЁМКАЎ КЛЮЧ**, крын., у в. Судоўшчына Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**СЕМУКАЦКІ С/С**, с/с Магілёўскага р-на, на ПдЗ р-на. Утвор. 16.07.1954 г. шляхам злуч. Гарадзішчанскага і Вялікабялевіцкага с/с. Скасаваны 22.07.1960 г. і далуч. да Бокатаўскага с/с. Адноўлены 04.06.1965 г. КУСП "Бялевічы" (в. Вялікія Бялевічы), "Колас" (а/г Семукачы). 32 снп, 2345 жых. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км², 27 снп, 262 жых. (Маг.)

**СЕМУКАЧЫ**, а/г, ц. с/с Магілёўскага р-на і с.-г. аддз. "Семукачы" ААТ "Магілёўская аграпрамтэхніка", 154 двары, 392 жых., п/а, аддз. ААБ "Беларусбанк", АТС, ФАП, апт., д/с-СШ, клуб, б-ка, КПП, 3 крамы, ф. Помн. землякам, магіла сав. воінаў. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². Да чыг. ст. Семуковічы 3 км, да рц – 45 км. (Маг.)

**СЕМУКОВІЧЫ, СЕМУКАЧЫ**, чыг. ст., на чыг. Магілёў – Асіповічы, за 3 км ад а/г Семукачы Магілёўскага р-на. У скл. а/г Семукачы. (Маг.)

**СЕНАЖАЦЬ**, ур., с.-г. угоддзі, на лев. бер. р. Суша, на ПнУ ад в. Каршукі Кіраўскага р-на. (Кір.)

**СЕНАКОС**, ур., с.-г. угоддзі, луг, у а/г Каўгары Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**СЕНЕНКА**, п., да 1943 г. на тэр. Чэрыкаўскага р-на. Спалена фашыстамі. (Чэр.)

**СЕНЕНКА**, р., у Клімавіцкім і Краснапольскім р-нах, левы прыт. р. Сянны (бас. р. Сож). Даўж. 10 км. Выток за 1 км на ПнЗ ад в. Канчары Клімавіцкага р-на, вусце на ПнЗ ад в. Гарэзна Краснапольскага р-на. Пл. вдзб. 26 км². Вар. назвы – р. Сенечка. (Клім., Краснап.)

**СЕНЕНКА**, руч., у Краснапольскім і Чэрыкаўскім р-нах, левы прыт. р. Сянна (бас. р. Сож). Даўж. 2,4 км. Выток на З ад в. Касцюкоўка Краснапольскага р-на, вусце за 3 км на ПдУ ад в. Зябень Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**СЕНЕЧКА**, р. Гл. р. Сененка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**СЕНЕЧКА**, р. Гл. р. Сененка Краснапольскага р-на. (Краснап.)

**СЕНКАЎ**, р., левы прыт. р. Бабруйка (бас. р. Бярэзіна). Даўж. 21,6 км. Выток на ПнЗ ускр. г. Бабруйск, вусце за 0,5 км на У ад в. Зацішша Бабруйскага р-на. Рэчышча частк. каналізав. (Бабр.)

**СЕННІК**, зак., воднарэжымны, мясц. знач. з 1991 г. у Быхаўскім р-не. Пл. 14 га. Зап. торфу 7 тыс. га. (Бых.)

**СЕННІК**, рад., торфу. Зап. 7 тыс. т. Не распрац. Зак. Быхаўскага р-на. (Бых.).

**СЕНЬКАВА**, в., Княжыцкі с/с Магілёўскага р-на, 46 двароў, 109 жых., ф. (Маг.)

**СЕНЬКАВА**, в., Рэкценскі с/с Горацкага р-на, 154 двары, 349 жых., б-ка-клуб, крама, ф. Гарадзішча. У 1924 – 1925, 1926 – 1931 Ц. с/с. (Гор.)

**СЕНЬКАВА**, п., Палыкавіцкі с/с Магілёўскага р-на, 9 двароў, 19 жых., аграсядз. Л. Пляшкова. (Маг.)

**СЕНЬКАВА, СІНЬКАВА**, в., Запольскі с/с Бялыніцкага р-на, 2 двары, 3 жых. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². Вар. назвы – в. Сенькаў, Сінькаў. (Бял.)

**СЕНЬКАЎ**, в., больш старажытн. назва в. Сенькава Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**СЕНЬКАЎКА**, ур., хмызова-лясное, за 6 км на З ад в. Цітоўка Клімавіцкага р-на, за 2 км на З ад р. Сасноўка. (Клім.)

**СЕНЬКАЎСКІ С/С**, с/с Горацкага р-на, у 1924 – 1925 і 1926 – 1931 гг. Перайменав. у Рэкценскі с/с Горацкага р-на. (Гор.)

**СЕРАБРАНКА**, р., пр. прыт. р. Дняпро (бас. Чорнага мора). Даўж. 17 км. Пл. вдзб. 89 км². Выток – воз. Чарнянскае, за 1,3 км на Пд ад в. Малое Чорнае Шклоўскага р-на, вусце на Пд ускр. г. Шклоў. У верх. цяч. (2,6 км) каналізав. Перасыхае. Паст. вадаток у ніжн. цяч. на працягу 4 км. Паміж вв. Лотва і Дабрэйка ўтвар. 13 меандраў. Вар. назваў – р. Шклоўка, Шклавянка, Язоны. (Шкл.)

**СЕРАБРАНКА**, р., пр. прыт. р. Сож (бас. р. Дняпро). Даўж. 10 км. Выток на З ад в. Шумянічы, вусце на ПнУ ад в. Парадзіна Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**СЕРАМІРАВІЦКАЕ**, с., старажытн. (XVI ст.) назва в. Семіравічы Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**СЕРКАЎКА**, в., у 1889 – 1990-х гг. у Васькавіцкім с/с Слаўгарадскага р-на. Адселена. Першыя жых. былі з вв. Урэчча і Шаламы. Вар. назваў – в. Азерышча, Пужоў, Клімы, Сяркоўка. (Слаўг.)

**СЕРНЫЯ**, зак., мясц. знач., з 1993 г., гідрал., за 5 км на ПнЗ ад в. Яўсеевічы, за 3,5 км на ПдЗ ад в. Сіманавічы Глускага р-на. Пл. 116 га. (Глуск.)

**СЕРЦІСЛАЎ**, в., Гарадзішчанскі с/с Шклоўскага р-на, вядом. з XVII ст., 10 двароў, 15 жых. (Шкл.)

**СЕТНАЕ**, в., з 1910-х гг. у Бацвінаўскім с/с Крычаўскага р-на, 14 двароў, 21 жых., дом сац. пасл. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 5 да 15 Кі/км$^2$. (Крыч.)

**СЕЦІШЧА**, балота, на Пд ад в. Градзянец. Пл. 498 га. (Асіп.)

**СЕЦІШЧА**, зак., мясц. знач., гідрал., з 1994 г., за 1 км на Пд ад в. Градзянец. Пл. 498 га. Водаахоўн. знач. (Асіп.)

**СЕЦІШЧА**, рад., торфу, на балоце Сецішча. Пл. 498 га. Зап. 677 тыс. т. (Асіп.)

**СЕЧЫШЧА**, курган, каля в. Крынка Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**СЕЧЫШЧА**, л.м., на пр. бер. р. Пціч, на З ад в. Камарына Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**СІВАІ**, в., Галоўчынскі с/с Бялыніцкага р-на, вядом. з XVII ст., 11 двароў, 15 жых. (Бял.)

**СІВАІ**, п., частка в. Елькаўшчына Круглянскага р-на. (Кругл.)

**СІВАКОВА БАЛОТА**, балота, каля а/г Антонаўка Чавускага р-на. (Чав.)

**СІВАКОВА ПОЛЕ**, ур., с.-г. угоддзі, у а/г Антонаўка Чавускага р-на. (Чав.)

**СІВЕНКА**, р. Вар. назвы – р. Свінка Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**СІВЕЦ**, ур., с.-г. угоддзі, паміж вв. Стрыкілі і Клін Горацкага р-на. (Гор.)

**СІГ**, руч., пр. прыт. р. Зубар. Вар. назвы – руч. Сігееўка Касцюковіцкага р-на (Касц.)

**СІГЕЕЎКА**, в., Бароńкаўскі с/с Касцюковіцкага р-на, 4 двары, 4 жых., дом сац. пасл. Магіла сав. воіна. У зоне забруджв. глебы цэзіем-137 ад 1 да 5 Кі/км$^2$. (Касц.)

**СІГЕЕЎКА**, руч. Гл. руч. Сіг Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**СІДАРАВА БАЛОТА**, ур., забалоч. с.-г. угоддзі, луг, на р. Каменка, у а/г Каменка Чавускага р-на. (Чав.)

**СІДАРАВА БАЛОТА**, ур., с.-г. угоддзі, паміж вв. Прыбар і Калінаўка Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**СІДАРАВА ДЗЯЛЯНКА**, ур., лясное, за 1 км на З ад в. Прыбар Бялыніцкага р-на. Кург. могільнік часоў Старажытн. Русі. (Бял.)

**СІДАРАВА СЦЕЖКА**, сцежка, ад а/г Смаліца Быхаўскага р-на ў лес. (Бых.)

**СІДАРАВІЦКІ ЛЕС**, л.м. Гл. л.м. Сідаравіцкая Пушча. (Маг.)

**СІДАРАВІЦКІ ЛЕС**, л.м., за 15 км на Пд ад Магілёва, у Пд частцы Вільчыцкага лясн. Пл. 3,4 тыс. га. На тэр. л.м. – з.а. Сідаравічы. Вар. назвы – Сідаравіцкая Пушча. (Маг.).

**СІДАРАВІЦКІ С/С**, с/с Магілёўскага р-на, на Пд р-на. Утвор. 06.04.1973 г. замест Слабодкаўскага с/с. ПВГУП "Птушкаф-ка "Ялец" ААТ "Магілёўхлебапрадукт" (в. Лыкава), аддз. "Сідаравічы" ААТ "Аграк-т "Усход" (а/г Сідаравічы). 8 снп, 654 двары, 1705 жых. Уся тэр. с/с у зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км$^2$. (Маг.)

**СІДАРАВІЧЫ**, а/г, ц. с/с Магілёўскага р-на, ц. аддз. "Сідаравічы" ААТ "Аграк-т "Усход", вядом. з XVI ст., 193 двары, 465 жых., п/а, аддз. ААБ "Беларусбанк", АТС, ФАП, СШ-д/с, філ. дз. шк. мастац., клуб, б-ка, КПП, гандл. ц., 5 крам, крама-кавярня, гандл. павільён, кіёск, ферм. гасп. "Іванова", "Куцанаў і К$^0$", УПГП "Куцанаў" і "Давер". Помн. землякам. Курган. Радз. Ф. Вальфсона, геолага. Да 1990-х гг. – камбікорм. з-д. Да чыг. ст. Лупалава – 30, да рц – 30 км. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км$^2$. (Маг.)

**СІДАРАВІЧЫ**, з.а., мясц. знач., у 1981 – 1986 гг., за 20 км на Пд ад Магілёва, на тэр. Магілёўскага і Быхаўскага р-наў, у Сідаравіцкім лесе. Пл. 7,5 тыс. га, пад лесам – 89%. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км$^2$. (Маг.)

**СІДАРАВІЦКАЯ ПУШЧА**, л.м., вядом. з 1583 г., на Пд ад Магілёва, паміж рр. Дняпро і Раста. Вар. назвы – Сідаравіцкі Лес. (Маг.)

**СІДАРАЎ ПЕРАВОЗ**, двор, да 1920-х гг. у Жаліўскім с/с Чавускага р-на. Ліквідаваны. У 1897 г. – 1 двор, 6 жых., паромная пераправа. (Чав.)

**СІДАРАЎ ПЕРАВОЗ**, ур., с.-г. угоддзі, луг, раней паром на р. Проня, у в. Сялец Чавускага р-на. (Чав.)

**СІДАРАЎКА**, в., Нядашаўскі с/с Магілёўскага р-на, 12 двароў, 18 жых. (Маг.)

**СІДАРАЎКА**, в., Родненскі с/с Клімавіцкага р-на, 30 двароў, 90 жых., крама. Кург. могільнік. (Клім.)

**СІДАРАЎКА**, в., ц. с/с Краснапольскага р-на, вядом. з XVII ст., 269 двароў, 719 жых., п/а, аддз. ААБ "Беларусбанк", АТС, ФАП, д/с, СДК, б-ка, 2 крамы, птушкаф-ка, 2 ф. Старажытн. назвы – с. Маластоўка, фальв. Лізавеціна. Ц. с/с з 1973 г. Да рц – 1, да чыг. ст. Крычаў 70 км. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². (Краснап.)

**СІДАРАЎКА**, ур., захмызаван. с.-г. угоддзі, за 0,2 км на З ад вусця р. Ельня, за 2,5 км на ПнУ ад могілак в. Крамянка Слаўгарадскага р-на. Вар. назваў – Штаны, Чарнец. (Слаўг.)

**СІДАРАЎКА**, ур., с.-г. угоддзі на ПдЗ ад в. Храліпічава Круглянскага р-на. (Кругл.)

**СІДАРАЎСКІ С/С**, с/с Краснапольскага р-на, на З р-на, 43774,2 га. 06.04.1973 г. перайменав. з б. Гарадзецкага. 20 снп, 545 двароў, 1365 жых. (Краснап.)

**СІДАРКАВА**, в., да 2005 г. у Рубежскім с/с Круглянскага р-на. Ліквідавана. (Кругл.)

**СІЛЕЎШЧЫНА**, ур., с.-г. угоддзі, каля в. Вербеж Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**СІЛІНА ПОЛЕ**, п, Кабінагорскі с/с Слаўгарадскага р-на, 2 двары, 5 жых. 8 старажытн. стаянак. Вар. назваў – п. Сілінполле, Гракі. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 15 да 40 Кі/км². (Слаўг.)

**СІЛІНПОЛЛЕ**, п. Гл. п. Сіліна Поле Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**СІЛІЧОЎСКАЕ**, рад., мелу і маргелю, на ПдЗ ад в. Сілічы Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**СІЛІЧОЎСКІ С/С**, с/с Касцюковіцкага р-на, у 1924 – 1959 гг. Утвор. 20.08.1924 г. у Касцюковіцкім р-не Калінінскай акр., з 26.09.1927 г. у Касцюковіцкім р-не Магілёўскай акр., з 26.07.1930 у Касцюковіцкім р-не, з 20.02.1938 у тым жа р-не Магілёўскай вобл. Ліквідаваны 08.12.1959 г. Тэр. с/с далуч. да Саматэвіцкага с/с. (Касц.)

**СІЛІЧЫ**, в., Беладубраўскі с/с Касцюковіцкага р-на, вядом. з 1720 г., 9 двароў, 16 жых., дом сац. пасл. Ліквідавана ў 1993 г., рэабілітав. у 1996 г. Бр. магіла сав. воінаў. Кург. могільнік. Радз. К. Патапенкі, філосафа. У 1927 г. – цагельня. Ц. с/с у 1924 – 1959 г. (Касц.)

**СІЛОСНАЯ ГАРА**, ур., с.-г. угоддзі, за 0,3 км на У ад п. Ясная Паляна Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**СІМАКОЎ МОСЦІК**, кладка праз лясны руч., на ПнУ ад в. Вепрын Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**СІМАНАВІЦКІ С/С**, с/с Круглянскага р-на у 1924 – 1954 гг. Утвор. 20.08.1924 г. у Бялыніцкім р-не Магілёўскай акр., з 26.07.1930 у Бялыніцкім р-не, з 12.02.1935 у Круглянскім р-не, з 20.02.1938 у тым жа р-не Магілёўскай вобл. Ліквідаваны 16.07.1954 г. Тэр. с/с далуч. да Шапялевіцкага с/с. (Кругл.)

**СІМАНАВІЧЫ**, в., Завалочыцкі с/с Глускага р-на, вядом. з XVI ст. як с., 93 двары, 146 жых., п/а, клуб, б-ка, лясн., крама, ф. Бр. магілы сав. воінаў і партызан. Кург. могільнік, стаянка, 2 селішчы (ур. Селішча, Цёмшавое Поле). (Глуск.)

**СІМАНАВІЧЫ**, в., Шапялевіцкі с/с Круглянскага р-на, 13 двароў, 21 жых. Ц. с/с у 1924 – 1954 гг. (Кругл.)

**СІМАНАВІЧЫ-ДУБРАВА** з.а., мясц. знач., з 1990 г., за 3 км на Пн ад в. Сіманавічы Глускага р-на, на луцэ р. Пціч. (Глуск.)

**СІМАНАЎКА**, в., Доўгаўскі с/с Клічаўскага р-на, 3 двары, 3 жых. (Кліч.)

**СІМГАРАВІЦКІЯ КУРГАНЫ**, могільнікі, за 9 км на Пд ад в. Сімгаравічы, абапал дарогі на в. Тажылавічы Бабруйскага р-на. Вар. назвы – Шведскія магілы. (Бабр.)

**СІМГАРАВІЧЫ**, в., Цялушскі с/с Бабруйскага р-на, 11 двароў, 15 жых. Бр. магіла сав. воінаў і партызанкі. Кург. могільнікі – Шведскія магілы. (Бабр.)

**СІМІНА ГАРА**, пагорак, у ц. г. Клімавічы. (Клім.)

**СІНЕЖ**, в., Лабжанскі с/с Клімавіцкага р-на, 9 двароў, 22 жых. 2 старажытн. стаянкі, кург. могільнік. (Клім.)

**СІНІ ВІР**, вір, на р. Жадунька, у в. Забычанне Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**СІНІ ВІР**, вір, у выгіне р. Проня, на У ад в. Рабавічы Слаўгарадскага р-на, ніжэй ур. Старое Русла. (Слаўг.)

**СІНІ КАЛОДЗЕЖ**, в., да XX ст. у Слаўгарадскім р-не. Гл. в. Кліны. (Слаўг.)

**СІНІ КАЛОДЗЕЖ**, ур. Гл. Блакітная Крыніца Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**СІНІ КАЛОДЗЕЖ**, х., да 1920-х гг. у Слаўгарадскім р-не. Далуч. да г. Слаўгарад. У 1805 – 1829 гг. вінакурня. (Слаўг.)

**СІНІ КАМЕНЬ**, ур., с.-г. угоддзі, луг з валуном і крын., на пр. бер. р. Дражня, каля сутоку з р. Бася, у Горацкім р-не. (Гор.)

**СІНІНШЧЫНА**, в., Заводскаслабодскі с/с Магілёўскага р-на, 3 двары, 4 жых. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км$^2$. (Маг.)

**СІНІЦКАЕ**, ур., с.-г. угоддзі і л.м., за 1,5 км на ПнЗ ад в. Склімін Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**СІНІЦЫ**, ур., лясное, за 4 км на ПнЗ ад в. Цітаўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**СІНІЦЫН КАЛОДЗЕЖ**, калодзеж, у в. Стан Горацкага р-на. (Гор.)

**СІНКАЎСКАЯ ДАРОГА**, дарога в. Сінкава – п. Машок Кіраўскага р-на. (Кір.)

**СІНКАЎЦОВА**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Кляшчоўка Глускага р-на. (Глуск.)

**СІНЦЮГА, СІНЮГА**, частка рэчышча р. Сож, паміж вв. Калатавіна, Падлужжа Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**СІНЬКА**, канал, меліярац., левы прыт. Пратасевіцкага канала (бас. р. Днепр). Даўж. 7 км. Выток за 1,5 км на ПнЗ ад в. Дражня, упадае ў Пратасевіцкі канал за 1 км на ПдЗ ад в. Верхі Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**СІНЬКАЎ**, в. Вар. назвы – в. Сенькава Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**СІНЬКАЎ**, в., да 1943 г. у Бялыніцкім р-не. Спалена фашыстамі. (Бял.)

**СІНЮГА**, в., Семукацкі с/с Магілёўскага р-на, 11 двароў, 14 жых. Кург. могільнік. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км$^2$. (Маг.)

**СІНЮГА**, прып. п., на чыг. Магілёў – Асіповічы, у скл. в. Сінюга Магілёўскага р-на. (Маг.)

**СІНЯВЕЦКІ**, х., да 1920-х гг. у Бярозкаўскім с/с Хоцімскага р-на. Ліквідаваны. (Хоц.)

**СІНЯЕ БАЛОТА**, п., да 1976 г. у Тур'янскім с/с Краснапольскага р-на. Ліквідаваны. Спалены фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлены. (Краснап.)

**СІНЯЕ**, воз., на балоце, каля а/г Каменічы Асіповіцкага р-на. Паданне пра замак XV ст. (Асіп.)

**СІНЯЕ**, воз., старык, у рэчышчы лев. бер. р. Сож, за 5 км на ПдЗ ад г. Чэрыкаў, за 1,5 км на Пд ад в. Мірагошч Чэрыкаўскага р-на. Пл. 0,13 км$^2$. Даўж. 1,5 км. Найб. шыр. – 0,12 км. Даўж. бер. лініі – 2,88 км. Выцягн. з З на У. Схілы катлавіны невыразныя, на Пн выш. да 4 м, параслі хмызняком. Злуч. руч. с затокай р. Сож. Касач сібірскі. (Чэр.)

**СІНЯЕ**, рад., пяскоў, за 0,5 км на Пд ад г. Асіповічы, у пойме р. Сіняя. Персп. Зап. 60,2 млн м$^3$. Прыдатныя для буд. работ. Не распрацоўв. (Асіп.)

**СІНЯЕ**, ур., лясное, бор чарнічнікавы, каля в. Зарэчча Шапялевіцкага с/с Круглянскага р-на. (Кругл.)

**СІНЯЖ**, в., Ніжнятошчыцкі с/с Быхаўскага р-на, 5 двароў, 9 жых. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км$^2$. (Бых.)

**СІНЯКОВА АЛЕЯ**, алея абапал дарогі Глуск – Зялёнкавічы, у в. Поўстка Глускага р-на. (Глуск.)

**СІНЯКОВА**, ур., лясное, на пр. бер. р. Малыш (бас. р. Друць), за 2 км на З ад в. Асман-Касаева, за 3 км на ПнУ ад в. Падкражнік Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**СІНЯКОВА**, ур., с.-г. угоддзі, за 1 км на ПдУ в. Дабрылавічы Бялыніцкага р-на, на лев. бер. р. Малыш. (Бял.)

**СІНЯКОЎ**, п., да 1940 – 1950-х гг. у Запольскім с/с Бялыніцкага р-на. Ліквідаваны. (Бял.).

**СІНЯЎКА**, в., Баронькаўскі с/с Касцюковіцкага р-на, вядом. з XVIII ст., 21 двор, 36 жых. (Касц.)

**СІНЯЎКА**, руч., пр. прыт. р. Каменка (бас. р. Проня) у Чавускім р-не. Даўж. 9 км. Выток на Пн ад в. Ляхаўшчына, вусце на З ад в. Галачоўка. (Чав.)

**СІНЯЎШЧЫНА**, в., у 1920 – 2001 гг. у Каменналаўскім с/с Шклоўскага р-на. Ліквідавана. (Шкл.)

**СІНЯЯ ПАЛЯНА**, ур., лясная паляна, на ПдУ а/г Паўлавічы Кіраўскага р-на. (Кір.)

**СІНЯЯ СЛАБАДА**, в., назва в. Кліны Слаўгарадскага р-на ў 1851 – 1899 гг. (Слаўг.)

**СІНЯЯ**, р., пр. прыт. р. Свіслач (бас. р. Бярэзіна). Даўж. 23 км. Пл. вдзб. 508 км². Выток за 3 км на З ад в. Паплавы, вусце за 2,8 км на ПнУ ад в. Цяплухі Асіповіцкага р-на. Гал. пр.: Пратасевіцкі канал (злева), Каранскі канал (справа). Рэчышча каналізав. На р. – г. Асіповічы. (Асіп.)

**СІПАЙЛАВА БАЛОТА**, ур., леса-балотнае, за 3 км на ПдЗ ад в. Ядраная Слабада Клічаўскага р-на. Вар. назвы – Сіпайлава. (Кліч.)

**СІПАЙЛАВА**, ур. Гл. ур. Сіпайлава Балота. (Кліч.)

**СІПАЙЛАЎСКІ ЛЕС**, ур., лясное, вакол а/г Цяхцін Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**СІПАЙЛІН БРОД**, ур., с.-г. угоддзі, сенажаць, каля броду, на р. Бася, у в. Кішчыцы Дрыбінскага р-на. (Дрыб.)

**СІПАЙЛЫ**, в., Вішоўскі с/с Бялыніцкага р-на, 52 двары, 90 жых., дом сац. пасл., крама, ф. (Бял.)

**СІРГІЕЎ ВУГАЛ**, ур., лясное, за 2 км на Пд ад п. Вялікі Мох Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**СІРОТКІН ХУТАР**, ур., лясное, за 0,8 км на ПдЗ ад ур. Калявосы Глускага р-на. (Глуск.)

**СІРОТКІН**, х., да 1930-х гг. у Завалочыцкім с/с Глускага р-на. Ліквідаваны. (Глуск.)

**СІРОЦІНА**, в., Княжыцкі с/с Магілёўскага р-на, 20 жых. (Маг.)

**СІРЭНЬ**, ур., хмызовае, з сажалкай, на ПдЗ ускр. в. Забор'е Краснапольскага р-на. Пл. 0,2 га. (Краснап.)

**СІСЕНЕВА**, в.,. Старасельскі с/с Шклоўскага р-на, вядом. з XVII ст., 8 двароў, 12 жых. (Шкл.)

**СІСЕНЕВА**, ур., хмызовае, на ПдЗ ускр. в. Гарадок Старасельскага с/с Шклоўскага р-на. Гарадзішча. (Шкл.)

**СІТНА**, воз., да XX ст. у сутоку рр. Сітня і р. Друць, у г.п. Круглае. (Кругл.)

**СІТНІК**, ур., лясное, на ПнУ ад в. Кішчыцы Дрыбінскага р-на. (Дрыб.)

**СІТНІК**, ур., с.-г. угоддзі, за 0,7 км на ПдЗ ад в. Буда Высакоўская Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**СІТНІКІ**, п., да 1930 – 1940-х гг. у Свенскім с/с Слаўгарадскага р-на. Ліквідаваны. (Слаўг.)

**СІТНІКІ**, ур., с.-г. угоддзі, на У в. Чарнякоўка Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**СІТНІКІ**, ур., с.-г. угоддзі, поле, на ПнУ а/г Баронькі Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**СІТНЯ**, воз. Гл. воз. Сітна Круглянскага р-на. (Кругл.)

**СІТНЯ**, р., левы прыт. р. Друць (бас. р. Дняпро). Даўж. 8,8 км. Выток за 1 км на Пд ад в. Дубоўка, ва ўр. Лаўкі, вусце ў г.п. Круглае. Рэчышча, гал. чынам каналізав. Раней – воз. Сітня ў ніж. цяч. (Кругл.)

**СІЎЦОЎ ХУТАР**, ур., с.-г. угоддзі, за 0,2 км на У ад в. Лазовіцы Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**СІЎЧЫК**, ур., хмызовае, каля шк., у в. Загараны Круглянскага р-на. (Кругл.)

**СІЯМСКАЯ ГАРА**, ур., с.-г. угоддзі, за 1,5 км на З ад в. Новы Дзедзін Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**СКАБЛЯНКОВА ПАЛЯНА**, ур., лясное, за 3 км на Пн ад в. Развадаў Клічаўскага р-на. Выток р. Сушанка. (Кліч.)

**СКАБЛЯНКОВА ПАЛЯНА**, ур., лясное, за 3 км на Пн ад в. Развадаў Клічаўскага р-на. Выток р. Сушанка. (Кліч.)

**СКАВАРОДКА**, в., Запольскі с/с Бялыніцкага р-на, 1 двор, 1 жых. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². (Бял.)

**СКАКОЎШЧЫНА**, в., да 1978 г. у Ленінскім с/с Горацкага р-на. Ліквідавана. (Гор.)

**СКАЛІН**, в., у XIX ст. – 1993 г. у Забычанскім с/с Касцюковіцкага р-на. Ліквідавана. (Касц.)

**СКАЛЫ**, рад., балот. руд, у рэчышчы р. Дняпро, насупраць а/г Новы Быхаў Быхаўскага р-на. Здаб. у XIX ст. (Бых.)

**СКАПЕЦ**, ур., лясное, за 2 км на У ад в. Замачулле Бялыніцкага р-на. Кург. могільнік часоў Старажытн. Русі. (Бял.)

**СКАПЕШКАЎ ХУТАР**, х., да 1920-х гг. у Гіжэнскім с/с Слаўгарадскага р-на. Ліквідаваны. (Слаўг.)

**СКАПЦЫ**, ур., кург. могільнік часоў Старажытн. Русі на З ад могілак в. Асман-Касаева Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**СКАПЦЫ**, ур., лясное, за 3 км на З ад в. Дабрылаўка Бялыніцкага р-на. Вар. назвы – ўр. Асмалоўскае. (Бял.)

**СКАПЦЫ**, ур., лясное, курган, на ПдУ ад в. Пільшычы Бялыніцкага р-на. Вар. назвы – Казлоў Рог. (Бял.)

**СКАРАГЛЯДАЎШЧЫНА**, ур., с.-г. угоддзі, за 0,5 км на ПнЗ ад в. Шалаёўка Кіраўскага р-на. (Кір.)

**СКАТАБОЙНЯ**, х., у 1890 – 1930-х гг. у Бабруйскім р-не. Далуч. да г. Бабруйск. (Бабр.)

**СКАЧАЛЬСКАЕ ВОЗЕРА, СКАЧАЛЬСКАГА ВОЗЕРА БАЛОТНЫ МАСІЎ**, балота, пераваж. верхавое, у Старадарожскім і Асіповіцкім р-нах, на вдпдз. р. Пціч і р. Солан. У натур. стане пад хмызняком з вярбы і вольхі. Зап. торфу. (Асіп.)

**СКАЧКОЎСКАЕ**, рад., пяскоў, за 0,5 км на Пн ад п. Скачок Кіраўскага р-на. Паклад звяз. з канцова-марэн. адклад. сожскага ледавіка. Зап. 7,81 млн м³. Не распрацоўв. (Кір.)

**СКАЧОК**, п., Баравіцкі с/с Кіраўскага р-на, 139 двароў, 339 жых., п/а, АТС, клуб, б-ка, дом сац. пасл., крама, ДРБУ-56, дрэваапрац. цэх, лесапункт. У 1897 г. – х., 22 жых. Помн. падпольн. РК КПБ (б) і 9-й партызан. брыг. (Кір.)

**СКВАРСК**, в., Радамльскі с/с Чавускага р-на, вядом. з XVIII ст., 14 двароў, 22 жых., аграсядз. "Застава лесніка", прыватны музей "пасека" (В. Панасюк). Бр. магілы сав. воінаў. У 1768 г. – 101 жых., млын, сукнавальня. У 1897 – 240 жых., у 1940 – 324. Спалена фашыстамі ў 1944 г. Пасля вайны адноўлена. (Чав.)

**СКВАРСК**, фальв., да 1920-х гг. у Жаліўскім с/с Чавускага р-на. Ліквідаваны. (Чав.)

**СКВАРСКАЕ**, рад., пяскоў, за 0,8 км на У ад в. Скварск Чавускага р-на. Лінзападобны паклад звяз. з флювіягляц. адклад. сожскага ледавіка. Зап. 218 тыс. м³. Магутн. 1,0 – 4,7 м. Не распрацоўв. (Чав.)

**СКВАРСКІ**, п., да II пал. XX ст. у Жаліўскім с/с Чавускага р-на. Ліквідаваны. Працавала цагельня. (Чав.)

**СКВЕР ІМЯ ГЕРЦЭНА**, сквер, з 1829 г. у ц. г. Магілёва, паміж вул. Болдзіна і Камсамольская, Ленінская і буд. драм. тэатра. Закл. ген.-губернат. Мураўёвым. У 1829 – 1917 гг. – Мураўёўскі парк (сквер), у 1917 – 1919 гг. – Дняпроўскі, з 1919 г. – імя Герцэна, неафіц. – Тэатральны. (Маг.).

**СКВЕР СОРОК ГОД ПЕРАМОГІ**, сквер, у ц. частцы г. Магілёў, па вул. Міронава. Пл. 1,44 га. (Маг.)

**СКВЕРАЦЯНКА**, руч., левы прыт. р. Сож (бас. р. Дняпро). Даўж. 5 (у р-не 0,5) км. Выток у Смаленскай вобл. РФ, вусце за 2 км на ПнУ ад в. Каўшова Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**СКІДНЫ КАНАЛ**, канал, меліярац., левы прыт. р. Перасека (бас. р. Дняпро). Даўж. 7 км. Пачын. за 2 км на ПдУ ад в. Убалоцце, упад. у р. Перасека за 2 км на ПнУ ад в. Астапаўка Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**СКІДНЫ**, канал, меліярац., левы прыт. канала Рэдкі Рог (бас. р. Дняпро). Даўж. 5,8 км. Выток за 1 км на ПдУ ад в. Орсічы Бабруйскага р-на, вусце за 3 км на ПдЗ ад в. Язвінцы Светлагорскага р-на. (Бабр.)

**СКЛІЗСКІЯ ЛАВЫ**, ур., лясное, змеш. лес, паміж меліярац. каналамі – левы прыт. р. Суша, за 8 км на У ад в. Гарадзец і ПнЗ ад п. Скачок Кіраўскага р-на. (Кір.)

**СКЛІМІН**, в., Мілаславіцкі с/с Клімавіцкага р-на, 28 двароў, 42 жых., крама. Помн. землякам. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. Радз. П. Кавалёва, пісьменніка. Ц. с/с у 1924 – 1954 гг. (Клім.)

**СКЛІМІНСКІ С/С**, с/с Клімавіцкага р-на, у 1924 – 1954 гг. Утвор. 20.08.1924 г. у Мілаславіцкім р-не Калінінскай акр., з 09.06.1927 у Мілаславіцкім р-не Магілёўскай акр., з 04.08.1927 у Клімавіцкім р-не Магілёўскай акр., з 1927 г. перайменав. у Цітоўскі с/с, потым зноў у Склімінскі. Ліквідаваны 16.07.1954 г. Тэр. с/с далуч. да Мілаславіцкага с/с. (Клім.)

**СКЛЯПАВА**, в., Круглянскі с/с Круглянскага р-на, 27 двароў, 41 жых., 2 ф. У XIX ст. – в. Дворкі, крухм. з-д, шкіпінарна-дзёгцевы з-д. (Кругл.)

**СКОКЛЕВА**, в., Антонаўскі с/с Чавускага р-на, вядом. з 1604 г., 23 двары, 33 жых. У 1604 г. с., 6 гасп., у 1897 – 577 жых., у 1909 – 660. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². (Чав.)

**СКОТНЫ МОГІЛЬНІК**, ур., с.-г. угоддзі, на ПнУ ад в. Белы Мох Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**СКРАБЛЕВІЧАВА**, ур., лясное, каля в. Кляшчоўка Глускага р-на. (Глуск.)

**СКРЫНКІ**, ур., хмызовае, на Пн ад в. Казаброддзе Круглянскага р-на. (Кругл.)

**СКРЫП'Е**, п., да 1930-х гг. у Гіжэнскім с/с Слаўгарадскага р-на. Ліквідаваны. (Слаўг.)

**СКРЫПЕЛЬ**, п., да 1971 г. у Глухскім с/с Быхаўскага р-на. Ліквідаваны. (Бых.)

**ХОЎРЫНА БАЛОТА**, ур., забалоч. с.-г. угоддзі, за 2 км на ПнЗ ад в. Радучы Чавускага р-на. (Чав.)

**ХОЦІМКА**, в., Рыжкавіцкі с/с Шклоўскага р-на, вядом. з XVII ст., 11 двароў, 28 жых., фермер. гасп. "Стралецкая Слабада". Гарадзішча – Стары Шклоў. (Шкл.)

**ХОЦІМСК І, ХОЦІМСК ПЕРШЫ**, в., да 1930-х гг. у Саматэвіцкім с/с Касцюковіцкага р-на. Ліквідавана. (Касц.)

**ХОЦІМСК ІІ, ХОЦІМСК ДРУГІ**, в., да 1930-х гг. у Саматэвіцкім с/с Касцюковіцкага р-на. Ліквідавана. (Касц.)

**ХОЦІМСК**, в., да 1977 г. у Хоцімскім р-не. Далуч. да г. п. Хоцімск. (Хоц.)

**ХОЦІМСК**, в., у 1523 – 1994 гг. у Саматэвіцкім с/с Касцюковіцкага р-на. Ліквідавана. (Касц.)

**ХОЦІМСК**, г.п. з 1938 г., ц. р-на – у 1924 – 1931, 1935 – 1962 і з 1966 г., ц. СВК "ІІІ Інтэрнацыянал", "Перамога", вядом. з 1398 г. (інш. дадз. – з кан. XII ст.) як Хоцімль, 7,1 тыс. жых., п/а, аддз. ААБ "Беларусбанк", "АПБ-Аграпрамбанк", ЦРБ, п-ка, дом-інтэрнат для псіханеўралаг. хворых, апт., СПТВ-215, 2 СШ, шк.-інтэрнат, 2 д/с, дз. муз. шк., маст. шк., ДК, 2 б-кі, к/т-р "Кастрычнік", гіст.-краязн. музей, гатэль, 4 кацельні, ААТ "Хоцімскі масларобчы з-д", "Хоцімскі ільноз-д", УКП "К-т кааппрама" з хлебз-дам, КБМ, лясн., КБА, МПМК-276, -215, ПМК-97, уч-к Клімавіцкай ПМК-88, ДРБУ-216, гандл. ц. Старажытн. стаянка, 2 селішчы, 2 кург. могільнікі, 2 курганы, гарадзішча. Бр. магіла сав. воінаў і партызан, магіла ахвяр фашызму. Св.-Троіцкая царква (сяр. XIX ст.); 2 жыл. дамы пач. XX ст., помн. У. Леніну, землякам, вызвалення і інш. У 1430 г. – г. ВКЛ. Ц. вол. у 1772 – 1796, 1802 – 1910, 1919 – 1923 гг. З 1784 – мяст. (Радзівілаў), У 1740-х гг. база паўст. атрада В. Вашчылы, у 1772 праездам быў Е. Пугачоў. У XIX – XX ст. працав. пяньков. ф-ка, запалк., кардон., мукамол., парусін. мануфактуры. У 1924 – 1927 гг. ц. р-на у Калінінскай акр., у 1927 – 1930 гг. – у Магілёўскай акр. У 1931 – 1935 і 1962 – 1966 гг. – у скл. Касцюковіцкага р-на. З 1938 г. – г.п. У 1939 г. – 3,2 тыс. жых. З 15.08.1941 да 26.09.1943 г. пад фашысцк. акупац. У 1977 г. далуч. вв. Хоцімск, Зара, Іванаўка, Камуна. Радз.: С. Блажко, астранома, чл.-кар. АН СССР; І. Віннікава, усходазнаўца, праф.; І. Кулікова, вуч. у галіне энергетыкі і эл. машынабуд.; А. Зарыцкага, паэта, перакладчыка; Б. Леўчанкі, праф. РУДН; В. Леўчанкі, д. ф.-м. н., геолага; П. Піўчанкі, праф., медыка; Л. Яўменава, чл.-кар. НАНБ, філосафа і паэта. Першы рц БССР, які быў вызвал. ад ням.-фаш. захопнікаў (26.09.1943 г.). Да Мінска 387, да Магілёва – 207 (да Смаленска – 180, Бранска –150), да чыг. ст. Камунары – 37 км. (Хоц.)

**ХОЦІМСК**, фальв., да 1924 г. у Касцюковіцкім р-не. Ліквідаваны. (Касц.)

**ХОЦІМСКАЕ ВОЗЕРА**, воз., на пр. бер. р. Беседзь, па вул. Набераждная, у г.п. Хоцімск, вышэй маста. Назва С. Чалоўскага. З.а. мясц. знач. (Хоц.)

**ХОЦІМСКАЕ**, рад., трэпелу, у межах г.п. Хоцімск. (Хоц.)

**ХОЦІМСКАЕ**, рад., шклян. пяскоў, у г.п. Хоцімск. Зап. 0,7 млн. т. (Хоц.)

**ХОЦІМСКІ П/С**, п/с Хоцімскага р-на, у ц. р-на. У 1938–2000 гг. Тэр. перададз. у Янаўскі с/с. (Хоц.)

**ХОЦІМСКІ РАЁН**, адм. сельскі р-н, у 1924 – 1931, 1935 – 1962 і з 1966 г., на ПдУ вобл., самы У у краіне, з 1924 г. у бас. р. Беседзь, 862,4 км², 13,1 тыс. жых. Ц. р-на – г.п. Хоцімск. Утвор. 17.07.1924 г. У 1924 – 1927 гг. у Калінінскай акр., у 1927 – 1930 – у Магілёўскай. Скасоўв. у 1931 і 1962 г. У 1931 – 1935, 1962 – 1966 гг. – у скл. Касцюковіцкага р-на. Аднаўл. у 1935 і 1966 гг. З 1938 г. – у Магілёўскай вобл. У 1924 – 1931, 1935 – 1938 гг. – ц. р-на – мяст. Хоцімск, у 1938 – 1962 і з 1966 г. – г.п. Хоцімск. У р-не: г.п. Хоцімск, 8 с/с (Батаеўскі, Баханскі, Бярозкаўскі, Бяседавіцкі, Вялікаліпаўскі, Забялышынскі, Трасцінскі, Чарняўскі), 70 снп. У тэктан. адносін. прымеркав. да Варонежскай антэклізы. Зверху – пароды антрапагенав. узросту (ад 5 да 50 м) – пераваж. дняпроўскага і бярэзінскага ледавікоў. Мел. адклады (да 70), юрскія (да 65), дэвон. (да 400) і пратэразойск. (да 250 – 600 м). Пароды крышттал. падмурку – на глыб. 400 – 700 м ніжэй у.м. Р-н у межах Аршанска-Магілёўскай (Касцюковіцкай) і Чачорскай раўн. з покрывам з лёсападобн. суглінк. і супеск. Найвыш. кропка – 195 м н.у.м. (на мяжы з Клімавіцкім р-нам, на З ад




**Умоўныя знакі**

| | | | |
|---|---|---|---|
| ⊙ | гарады абласнога падпарадкавання | ~~ | рэкі |
| ○ | гарады раённага падпарадкавання | | мяжа дзяржавы |
| ○ | гарадскія пасёлкі | | мяжа вобласці |
| • | цэнтры сельскіх саветаў | ---- | мяжа раёна |

аўтадарогі

1 цэнтр Батаеўскага сельскага савета

2 цэнтр Вялікаліпаўскага сельскага савета

в. Буда), самая нізк. – 146 м (урэз р. Беседзь). Даліны рэк добра распрацаваныя. Агульн. нахіл з Пн на Пд да даліны р. Беседзь. 95% тэр. на выш. 160–180 м, 1,0 % – больш за 180 м, 4,0% ніжэй за 160 м н.у.м. Глыб. расчлян. рэльефу да 5 – 7 м/км². Рад.: трэпелу (2; толькі у р-не; 180 млн т), шкл. пяскоў (2), торфу (38; 3,0 млн т; Ягаднае, Лобня, Ржачча,Ваўчынае і інш.), даламітаў (2; 1,14 млн. т; Горня, Шаладонаўка), буд. пяскоў, глін і суглінк. мелу, сапрапелю. Клімат умеран.-кантынент., найб. кантынент. на Беларусі. Сяр. т-ры: студз. – 8,0°С, ліпеня +18,5°С. Ападкаў 593 мм у год. Вегет. перыяд 185 сут. (метэапаказч. Крычаўскай метэаст.). Гал. р. Беседзь з прыт.: Еленка (справа), Альшоўка, Жадунь (злева). Гушч. натур. рачной сеткі 0,4 км/км². 10 сажалак. Святое возера. Пад балотамі 349 га. Глебы с.-г. угоддзяў (%): дзярн.-падзол.– 26,1, дзярн.-падзол. забал. – 62,0, дзярн. забал. – 5,8,ноймав. – 2,7, тарф.– бал.–2,5. Паводле грануламетр. скл. (%): суглін. – 15,2, супясч. – 73,3, пясч. – 8,5, тарф. – 2,6. Дэфляц. небяспечн. зямель с.-г. угоддзяў – 18,8%, эрадав. – 0,7%. Сяр. банітэт глебаў с.-г. угоддзяў – 32 бала. Асуш. 12 тыс. га с .-г. зямель, арашаем. – 402 га. Пад лесам – 32%. Лясы (%): хваёв. – 36,1, ялов. – 17,3, дуб. – 8,0, асін. – 10,4, бяроз. – 21,3, чорнаальхов. – 5,8, ясенев. – 0,6. Балот 38 (2,9 тыс. га). Агульн. пл. лугоў 19 тыс. га (сухадолы – 34,9, нізін. – 42,1, заліўн – 23,0%). Значн. зап. журавін (балоты Лобня, Зайцаў кут, Ягаднае, Шведава, Бачкова, Барок, Арол, Пустая, Саснювае балота). У р-не: лось, тхор, дзік, воўк, казуля, норка, выдра, куніца, бабёр, лісіца, заяц бяляк і русак, вавёрка, цецярук, шэрая курапатка. У Чырвон. кнізе – чорны бусел (ур. Гатнае, Дзеўе, Шчыр), барсук, буры мядзведзь (ур. Зайцаў) (кут). Прыродаахоўв. тэр.: 5 зак. і 10 п.п. мясц. знач. З.а. мясц. знач. Трасцянка, Іванаўская Рошча, Хоцімскае возера. Антрапаген. асвоен. краявідаў – 62,7%. У р-не 13,1 тыс. жых. Мужч. – 47%, жан. – 53. Гарадское нас. – 54,2%, сельскае – 45,8. Сяр. шчыльн.–14,6 чал./км². Нац. скл. (перапіс 2009, %): беларусы – 92,0, руск. – 6,9, укр. – 0,7, армяне – 0,2. Пад с.-г. угоддзямі – 57,3%. Спецыяліз. с.-г.: мяса-мал. жывёлагад., вытворч. бульбы, карм., збож. культур. 9 СВК ( "III Інтэрнацыянал", "Кастрычнік-Бярозкі", "Батаева", "Ліпаўка"), ААТ ("Бабуліна Крынка", "Сельгастэхніка", "Сельгасхімія"), райветст., 11 аграсядз. Да 1917 г. – прадпр.: Батаеўская шклян. мануфактура (1799 – 1900 г.), Бярозкаўскі лесапільны з-д, Ерашоўская экіпажн. майстэр. (1884 – 1917), Хоцімскія льнотрапальн. з-ды (Гутнера, Маневіча, Тамаркіна); Чарняўская цукр. мануфактура (1852 – 1862 гг.). У р-не прадпр.: харч. ААТ "Хоцімскі масларob. з-д" (мал. прад., сыры, казеін; макарона), к-т каапраму (хлебабул. вырабы, безалкаг. напоі, каўбасы, рыба) – усе ў г.п. Хоцімск, да 2012 г. спіртз-д РУП "Клімавіцкі ЛГЗ" (а/г Забялышан), крухм. з-д (в. Ельня), цэх перапрац. мяса (а/г Бярозкі); лёгк. – ільноз-д, шв. цэх (г.п. Хоцімск), дрэваапрац. галін, буд. матэр. – АБЗ (в. Юзяфоўка), цагельні. Аўтадарогі: Хоцімск – Чэрыкаў – Магілёў, Хоцімск – Касцюковічы – Краснаполле, Хоцімск – Клімавічы – Крычаў; Хоцімск – Ветка, Хоцімск – Сураж. У р-не 25 мед. устаноў, 16 устаноў адук. і выхав., СПТВ-215, 50 устаноў культ. Гіст.-краязн. музей. Янапольскі парк. Помн.: жылы дом (пач. XX ст.), Свята-Троіцкая царква (г.п. Хоцімск), вятрак (в. Зелянец), Свята-Іаанаўская царква (а/г Забялышан). Радз.: М. Абраменкі, дзярж. дзеяча; Ф. Азаранкі, геолага, першаадкр. бел. нафты; Г. Анічэнкі, географа, к.г.н; У. Анічэнкі, мовазнаўца, д.ф.н., праф.; М. Базылева, эканаміста, д.э.н.; Б. Белавусава, чл. атрада касманаўтаў; В. Брайцава, акад. АМН СССР; І. Брайцава, д.ф.-м.н., праф.; Я. Брайцава, І. Падабеда, пісьменнікаў; В. Васільчанкі, ген.-лейт.; П. Дзмітрачкова, гісторыка, праф.; У. Драздова, ген.-маёра; Н. Ерашовай, географа, к.г.н.; І. Жукава, д.б.н., іхціёлага; А. Зарыцкага, М. Карпенкі, А. Мінкіна, П. Прыходзькі, паэтаў; В. Казлова, ген.-маёра МУС; Ф. Каралёва, д.п.н., акад. АПН РСФСР, СССР; Е. Касценіча, д.м.н., афтальмолага; М. Маскалёва, контрадмір.; І. Сідарэнкава, д.б.н., біяхіміка; І. Сурты, дзярж. дзеяча, аднаго з заснав. сіст. аховы здароўя; І. Холалева, Лаўр. Дзярж. прэміі СССР; В. Цішчанкі, д.э.н., праф.; І. Юркіна, ген.-маёра КДБ; Н. Ермаковай, старш. Нацбанка РБ і інш. Газета "Шлях Кастрычніка". (Хоц.)

**ХОЦІМСКІ С/С**, с/с Касцюковіцкага р-на, у 1924 – 1954 гг. (Касц.)

**ХОЦІМСКІ С/С**, с/с Хоцімскага р-на, у 1924 – 1926 гг. Пераўтвор. у Хоцімскі м/с 24.09.1926 г. (Хоц.)

**ХОЦІНА**, ур., захмызаван. с.-г. угоддзі, за 1,5 км на У ад в. Пачапы Краснапольскага р-на. Кург. могільнік. (Краснап.)

**ХОЦІНКА**, з.а., мясц. знач., у Слаўгарадскім і Чавускім р-нах (Пд), у 1981 – 1986 гг., па р. Хоцінка. Скасав. у сувязі з радыяц. забруджв. тэр. Чавускага р-на (Чав.)

**ХОЦІНКА**, р., у Слаўгарадскім і Чавускім р-нах, пр. прыт. р. Раста (бас. р. Проня). Даўж. 18 км. Пл. вдзб. 106 км² (у межах Чачорскай раўн.), 47% пад лесам. Выток – воз. Кульшыцкае Слаўгарадскага р-на, вусце на Пд ад в. Доўгі Мох Чавускага р-на. Сяр. нахіл – 0,8‰. Рэчышча ў верх. і сяр. цяч. каналізав. (Слаўг., Чав.)

**ХОЦІШЧ**, в. Гл. в. Хоцішча Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ХОЦІШЧА**, в., да 1982 г. у Кульшыцкім с/с Слаўгарадскага р-на. Ліквідавана. Вар. назваў – в. Хоцішч, Хотышча, Хотышч; Хотышча, Хацімка. У 1910 – 282 жых. (Слаўг.)

**ХОЦІШЧА**, р., у Слаўгарадскім і Быхаўскім р-нах, левы прыт. р. Ухлясць (бас. р. Дняпро). Даўж. 6,6 км. Выток на ПнЗ в. Кульшычы Слаўгарадскага р-на, вусце на мяжы з Быхаўскім р-нам. Вар. назваў – р. Хацімка, Хотышча. (Бых., Слаўг.)

**ХОЦІШЧА**, ур., узв., захмызав. с.-г. угоддзі, 3,5 км на ПдЗ ад Іваншчавічы Слаўгарадскага р-на, на Пн ад р. Хоцішча, паміж двума руч. Пл. каля 600 га. (Слаўг.)

**ХРАЛІШЧАВА**, в., Рубежскі с/с Круглянскага р-на, 13 двароў, 14 жых. ф., фермер. гасп. У. Крукоўскага. Кург. могільнік, (Кругл.)

**ХРАЛОЎКА**, в., старажытн. назва в. Фралоўка Сялецкага с/с Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ХРАМОЎСКІ ХУТАР**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Кунцы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ХРАНУЛІНА**, воз., у бас. руч. Чорны, на У ад в. Клімавічы Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ХРАПЫ**, в., Цяцерынскі с/с Круглянскага р-на, 11 двароў, 27 жых. ф. Спалена фашыстамі ў 1944 г. Пасля вайны адноўлена. (Кругл.)

**ХРОЛАВА БАЛОТА**, балота, на ПнЗ ад в. Улужжа Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ХРОМКІН ЕЛЬНІК**, ур., лясное, каля в. Царковішча Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ХРЫНАВЕЦ**, руч., пр. прыт. р. Асцёр (бас. р. Сож). Даўж. 4,2 км. Выток за 2 км на ПнЗ ад в. Куляшоўка Клімавіцкага р-на. Вар. назвы – Хрэнавец. (Клім.)

**ХРЫПЯЛЁВА**, в., Вендаражскі с/с Магілёўскага р-на, вядом. з XVI ст., 25 двароў, 57 жых. (Маг.)

**ХРЫСТАФОРАЎКА**, в., да 1920-х гг. у Старынскім с/с Слаўгарадскага р-на. Ліквідавана. (Слаўг.)

**ХРЫСТАФОРАЎКА**, фальв., да 1920-х гг. у Старынскім с/с Слаўгарадскага р-на. Ліквідаваны. (Слаўг.)

**ХРЫСТЫ**, зак., мясц. знач., гідралаг., з 1993 г., на тэр. Усакінскага лясн., на Пд ад чыг. ст. Вонічы, за 0,5 км на ПнЗ ад в. Жардзішча Клічаўскага р-на. Пл. 455 га. Зап. 2920 тыс. т торфу. (Кліч.)

**ХРЫСЦІШЧА**, в., да 1951 г. у Клетненскім с/с Глускага р-на. Ліквідавана. (Глуск.)

**ХРЫСЦІШЧА**, ур., лясное, за 1 км на ПдЗ ад в. Даколь Глускага р-на. (Глуск.)

**ХРЭЛЕВА**, в., Ганчанскі с/с Клічаўскага р-на, 1 двор, 1 жых. (Кліч.)

**ХРЭНАВЕЦ**, руч. Гл. руч. Хрынавец Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ХРЭСЦІК**, ур., лясное, на ўскр. в. Брожа Бабруйскага р-на. (Бабр.)

**ХРЭСЦІШЧА**, ур., леса-балотнае, паміж вв. Трылесін, Свяцілавічы і р. Запакулка Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ХРЭШЧЫК**, ур., с.-г. угоддзі, на перакрыжав. дарог Забор'е – Палуж, Краснаполле – Палуж, каля в. Забор'е Краснапольскага р-на. (Краснап.)

**ХУДАБЫЧКА**, р., левы прыт. р. Сож (бас. р. Дняпро). Даўж. 15 км. Выток за 1 км на Пн ад а/г Красная Буда Крычаўскага р-на, вусце на ПдУ ускр. г. Крычаў. Пл. вдзб. 64 км², пад лесам 22%. Сяр. нахіл водн. пав. 1,6‰. Рэчышча частк. (у ніж. цяч.) на працяг. 5,5 км каналізав. Гал. пр. – руч. Каранец (злева). (Крыч.)

**ХУДОБЫЯ**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Царковішча Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ХУСНЫ ПЕРАКАТ**, перакат, на р. Бярэзіна, на Пн ад в. Перасова Бабруйскага р-на. (Бабр.)

**ХУТАР БЕЛАГА**, ур., лясное, за 1 км на ПдУ ад в. Лядзешня Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ХУТАР ВАРАНЦОВА**, ур., с.-г. угоддзі, ПнЗ ад воз. Безымяннае, каля б. п. Сіліна Поле Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ХУТАР ВАРАНЦОЎШЧЫНА**, ур. Гл. ур. Варанцоўшчына Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**ХУТАР ЖАРЫКАЎ**, ур., лясное, за 1 км на Пн ад в. Васілёўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ХУТАР ЛЯРСКАГА**, ур., на бер. р. Каменка, на З ад шашы Чавусы – Чэрыкаў, паміж р. Каменка і ўр. Канязькаў Лес Чавускага р-на. (Чав.)

**ХУТАР МЯДОВАЯ ПАЛЯНА**, х. Гл. х. Мядовая Паляна Добраўскага с/с Горацкага р-на. (Гор.)

**ХУТАР ХАЙНОЎСКІ**, ур., лясное, за 1,4 км на ПдУ ад в. Гусарка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ХУТАР**, в., да 1930-х гг. у Любоніцкім с/с Клімавіцкага р-на. Ліквідавана. (Кір.)

**ХУТАР**, в., да 1968 г. у Забалацкім с/с Мсціслаўскага р-на. Ліквідавана. (Мсц.)

**ХУТАР**, в., Холстаўскі с/с, 40 двароў, 73 жых. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 15 да 40 Кі/км$^2$. (Бых.)

**ХУТАР**, п. Гл. п. Малыя Боркі Быхаўскага р-на. (Бых.)

**ХУТАР**, п., Пн частка в. Дуброва Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ХУТАР**, п., частка в. Гаўрыленка Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ХУТАРОК**, п., частка б. в. Новая Ельня Краснапольскага р-на. (Краснап.)

**ХУТАРСКОЕ ПОЛЕ**, ур., с.-г. угоддзі, на З ад в. Пацава Слабада Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ХУТАРШЧЫНА**, ур., леса-балотнае, на ПнУ ад б. в. Беразякі Першыя Краснапольскага р-на. (Краснап.)

**ХУТАРЫ ВЯЛІКІЯ**, в., назва в. Вялікія Хутары Краснапольскага р-на ў XIX ст. (Краснап.)

**ХУТАРЫ МАЛЫЯ**, в., назва в. Малыя Хутары Краснапольскага р-на ў XIX ст. (Краснап.)

**ХУТАРЫ**, в., да 1968 г. у Раздзельскім с/с Мсціслаўскага р-на. Ліквідавана. (Мсц.)

**ХУТАРЫ**, ур., лясное, за 5,5 км на ПнЗ ад в. Судзілы Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ХУТАРЫ**, ур., лясное, тры бярозавых гаі, за 3 – 4 км на ПнУ ад п. Ясная Паляна (Нецкаў), на м. б. хх. Косценічаў, Рывоненкаў, Антонаўскі Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**ХУТАРЫ**, ур., с.-г. угоддзі, за 2 км на У ад в. Вялікая Рубанаўка Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**ХУТАРЫ**, ур., с.-г. угоддзі, за 3 км на У ад в. Рубанаўка Мсціслаўскага р-на, на мяжы з Расіяй. (Мсц.)

**ХУТАРЫ**, ур., с.-г. угоддзі, на ПнУ ад в. Саннікі Круглянскага р-на. (Кругл.)

# Ц

**ЦАГЕЛЬНЫ ЗАВОД**, п., частка г. Чавусы. Раней – Пасёлак Чавускага цагельнага завода. Гл. ур. Кар'еры Чавускага р-на. (Чав.)

**ЦАГЕЛЬНЫ ЗАВОД**, ур., с.-г. угоддзі, за 1 км на Пд ад в. Дымава Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ЦАГЕЛЬНЫ РОЎ**, роў, за 4 км на Пн ад г. Чэрыкаў. Праяўлен. цагл.-чарапічн. сыравіны. (Чэр.)

**ЦАГЕЛЬНЯ ШЧОКАТАЎСКАЯ**, рад., глін, за 0,5 км на З ад в. Шчокатава Дрыбінскага р-на, на Пн ад дарогі Магілёў – Мсціслаў. Выпрацавана. (Дрыб.)

**ЦАГЕЛЬНЯ ШЧОКАТАЎСКАЯ**, ур., с.-г. угоддзі, за 0,5 км на З ад в. Шчокатава Дрыбінскага р-на, на Пн ад дарогі Магілёў – Мсціслаў. (Дрыб.)

**ЦАГЕЛЬНЯ**, кар'еры ў лесе, за 1 км на ПнЗ ад в. Радуча Чавускага р-на. (Чав.)

**ЦАГЕЛЬНЯ**, п., ПнЗ частка в. Дудаковічы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ЦАГЕЛЬНЯ**, ур., лясное, за 3 км на У ад в. Сідараўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ЦАГЕЛЬНЯ**, ур., с.-г. угоддзі, луг, на У ўскр. в. Асіповічы Горацкага р-на. (Гор.)

**ЦАГЕЛЬНЯ**, ур., с.-г. угоддзі, на Пн ад г.п. Хоцімск. Праяўлен. цаг.-чарапічн. сыравіны. (Хоц.)

**ЦАГЕЛЬНЯ**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Буда Горацкага р-на. (Гор.)

**ЦАГЕЛЬНЯ**, ур., с.-г.угоддзі, за 0,5 км на Пн ад а/г Маслакі Горацкага р-на. (Гор.)

**ЦАГЕЛЬНЯ**, ур., хмызовае, за 4 км на ПнЗ ад а/г Ціманава Клімавіцкага р-на. Праяўленне цаг.-чарапічн. сыравіны. (Клім.)

**ЦАГЕЛЬНЯ**, яр, паміж вв. Клімавічы і Чарнаручча Шклоўскага р-на. Часов. водн. патокі ў руч. Рабінаўка (Цаглянка). (Шкл.)

**ЦАГЛЯНКА**, п., частка а/г Філатава Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ЦАГЛЯНКА**, руч. Гл. руч. Рабінаўка Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ЦАЛАВАЛЬНІК**, п., да 1920 – 1930-х гг. у Маляціцкім с/с Крычаўскага р-на. Далуч. да а/г Маляцічы. (Крыч.)

**ЦАЛІНА**, п., ПнЗ частка в. Казулічы Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ЦАЛІНА**, п., частка б. в. Новая Ельня Краснапольскага р-на. (Краснап.)

**ЦАЛІНА**, ур., с.-г. угоддзі, у а/г Філатава Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ЦАЛЯНКА**, в., да 1967 г. у Лапіцкім с/с Асіповіцкага р-на. Ліквідавана. (Асіп.)

**ЦАЛЯНСКАЯ БУДА**, в. Гл. в. Буда Лапіцкага с/с Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**ЦАР-ДУБ**, дубы-волаты, у Хамутоўскім Лесе Круглянскага р-на. Да II пал. ХХ ст. група дубоў па 150 – 250 год. (Кругл.)

**ЦАРКАВІШЧА ГАРА**, гара. Гл. ур. Царкавішча Бабруйскага р-на. (Бабр.).

**ЦАРКАВІШЧА**, в., да 1964 г. Перайменав. у в. Акцябрына Бялыніцкага р-на. Гл. в. Акцябрына. (Бял.)

**ЦАРКАВІШЧА**, в., у XVIII ст. – 1922 г. у Бялыніцкім р-не. З 1922 – в. Калінаўка Бялыніцкага р-на. Гл. в. Калінаўка. (Бял.).

**ЦАРКАВІШЧА**, зак., мясц. знач., гідралаг., за 0,5 км на У ад в. Бязворычы Мсціслаўскага р-на, з 1994 г. Пл. 9,2 га. Водаахоўн. знач., тарфянік, рэгулятар стоку. (Мсц.)

**ЦАРКАВІШЧА**, п., частка в. Машавое Касцюковіцкага р-на. Сядз. з крамай. Вар. назвы – ур. Цвінтар. (Касц.)

**ЦАРКАВІШЧА**, пагорак, у а/г Галоўчын Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ЦАРКАВІШЧА**, пагорак, у в. Рыжая Бабруйскага р-на. (Бабр.)

**ЦАРКАВІШЧА**, ур. Гл. ур. Вышыня 215,5 Горацкага р-на. (Гор.)

**ЦАРКАВІШЧА**, ур., с.-г. угоддзі, на лев. бер. р. Дзяражня, у ц. в. Брацькавічы Касцюковіцкага р-на. Гарадзішча. Да 1917 г. – царква. (Касц.)

**ЦАРКАВІШЧА**, ур., с.-г. угоддзі, у а/г Галоўчын Бялыніцкага р-на. Гарадзішча. (Бял.)

**ЦАРКАВІШЧА**, ур., с.-г. угоддзі, у а/г Падлужжа Глускага р-на. Да 1920-х гг. – Мікольская царква. Гл. Мікольшчына. (Глуск.)

**ЦАРКАВІШЧА**, ур., хмызовае, на ПдУ а/г Сава Горацкага р-на. (Гор.)

**ЦАРКАВІШЧАНСКІ С/С**, с/с Бялыніцкага р-на, у 1924 – 1929 гг. назва Калінаўскага с/с. (Бял.)

**ЦАРКАВІШЧАНСКІ С/С**, с/с Касцюковіцкага р-на, у 1924 – 1936 гг. Перайменав. у Пралетарскі с/с. (Касц.)

**ЦАРКВЯНІШЧА**, пагорак, у а/г Паўлавічы Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ЦАРКОВІШЧА**, в., Гарадзішчанскі с/с Шклоўскага р-на, вядом. з XVIII ст., 16 двароў, 21 жых., фермер. гасп. "Бяроза". У кан. XIX ст. – в. Чудзенка. (Шкл.)

**ЦАРКОВІШЧА**, в., да 1917 г. у Пралетарскім с/с Касцюковіцкага р-на. Перайменав. у в. Пралетарская. (Касц.)

**ЦАРКОВІШЧА**, в., Дамамерыцкі с/с Клімавіцкага р-на, 28 двароў, 55 жых. (Клім.)

**ЦАРКОВІШЧА**, в., Каменналаўскі с/с Шклоўскага р-на, вядом. з 1777 г., 21 двор, 46 жых. Гарадзішча, кург. могільнік, старажытн. стаянка. (Шкл.)

**ЦАРКОВІШЧА**, воз., карставае, ва ўр. Царковішча Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ЦАРКОВІШЧА**, п., узв. частка У ўскр.у а/г Маслакі Горацкага р-на. У XIX – пач. XX стст. царква Прсв. Багародзіцы. (Гор.)

**ЦАРКОВІШЧА**, п., частка в. Кунцы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ЦАРКОВІШЧА**, пагорак, ва У частцы в. Дудаковічы Круглянскага р-на. Пакроўская царква (раней касцёл). (Кругл.)

**ЦАРКОВІШЧА**, пагорак, каля канторы, у ц. а/г Любонічы Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ЦАРКОВІШЧА**, ур. Гл. ур. Гарадзец Горацкага р-на. (Гор.)

**ЦАРКОВІШЧА**, ур. Гл. ур. Гарадок, у в. Плешчыцы Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ЦАРКОВІШЧА**, ур. Гл. ур. Святая Крыніца, Блакітная Крын., (Слаўг.)

**ЦАРКОВІШЧА**, ур., забалоч. с.-г. угоддзі, з воз., паміж а/г Ржаўка і в. Прыволле Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ЦАРКОВІШЧА**, ур., лясное, на лев. бер. р. Проня, за 1,5 км на З ад в. Карэбы, за 1км на У ад в. Галавічы Дрыбінскага р-на. Кург. могільнік. (Дрыб.)

**ЦАРКОВІШЧА**, ур., с.-г. угоддзі, на З ад в. Чырчын Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ЦАРКОВІШЧА**, ур., с.-г. угоддзі, на лев. бер. р. Пціч, за 0,5 км на Пд ад в. Гарадзішча Завалочыцкага с/с Глускага р-на. (Глуск.)

**ЦАРКОВІШЧА**, ур., с.-г. угоддзі, у а/г Баронькі Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ЦАРКОВІШЧА**, ур., с.-г. угоддзі, у ц. а/г Антонаўка Чавускага р-на. (Чав.)

**ЦАРКОВІШЧА**, частка г.п. Глуск. У буд. царквы – рэстаран. (Глуск)

**ЦАРКОЎКА КАНАЛ**, канал. Гл. р. Царкоўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ЦАРКОЎКА КАНАЛ**, р. Гл. р. Царкоўка, Цэркаўка. (Клім.)

**ЦАРКОЎКА, КАНАЛ ЦАРКОЎКА ЦАРКОЎКА КАНАЛ, ЦЭРКАЎКА**, р. левы прыт. р. Сасноўка (бас. р. Сож) у Клімавіцкім р-не. Даўж. 6,3 км. Выток за 1,2 км на З ад в. Круглае, вусце за 1 км на ПнУ ад в. Царковішча. Рэчышча каналізав. (Клім.)

**ЦАРКОЎНАЕ ДВОРЫШЧА**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Пацава Слабада Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ЦАРКОЎНАЕ**, воз., бас. р. Ваўчанка, на ПнЗ ад в. Сычкава Бабруйскага р-на. (Бабр.)

**ЦАРКОЎНАЯ ЛУЖА**, ур., с.-г. угоддзі, на м. б. в. Гарадок Хоцімскага р-на (да 1975 г.). Гарадзішча. (Хоц.)

**ЦАРКОЎНЫ ПРУДОК**, в. Гл. в. Прудок Чавускага р-на. (Чав.)

**ЦАРКОЎНЫ ПРУДОК**, ур., с.-г. угоддзі, млын, на запрудзе р. Каменка, каля царквы, у в. Прудок Чавускага р-на. (Чав.)

**ЦАРКОЎНЫ**, п., да 1975 г. у Сухарэўскім с/с Магілёўскага р-на. Ліквідаваны. (Маг.)

**ЦАРКОЎШЧЫНА**, ур., лясное, на З ад в. Слабада Горацкага р-на. (Гор.)

**ЦАРОВА БАЛОТА**, ур., забалоч. с.-г. угоддзі, в. Кішчыцы Дрыбінскага р-на. (Дрыб.)

**ЦАРОВА КРЫНІЦА**, крын., за 3 км на Пд ад в. Бярозаўка Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ЦАРОЎ КАЛОДЗЕЗЬ**, ур., с.-г. угоддзі, луг, з крын., на У ад б. в. Заглiннае Слаўгарадскага р-на, на пр. бер. р. Сож. (Слаўг.)

**ЦАРСКІ ДВАРЭЦ**, ур., хмызовае, у в. Глыбокавічы Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ЦАРСКІ ПАСЁЛАК**, неафіц. назва часткі г.п. Круглае. Р-н новабудоўлі. (Кругл.)

**ЦАРСКІ ШЛЯХ**, назва дарогі Краснаполле – Палуж, у Краснапольскім р-не. (Краснап.)

**ЦАРСКІЯ ВАРОТЫ**, ур., с.-г. угоддзі, за 0,15 км на ПнУ ад в. Высокае Чавускага р-на. Гарадзішча. (Чав.)

**ЦАРЭЎСК**, в., да 1964 г. у Рубежскім с/с Круглянскага р-на. Перайменав. у в. Някрасава. Гл. в. Някрасава. (Кругл.)

**ЦАТУНЬ**, р. Гл. р. Сатунь Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ЦАТУНЯ**, в. Гл. в. Міхайлоў Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ЦВЕРДАВА, ЦВЕРДАЎ**, в., Чарнаборскі с/с Быхаўскага р-на, 50 двароў, 106 жых., крама. Вар. назваў – в. Тавердаў, Цвёрдава. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². (Бых.)

**ЦВІНТАР**, ур. Гл. ур. Гарадзец, у г. Крычаў. (Крыч.)

**ЦВІНТАР**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Машавое Касцюковіцкага р-на. На м. царквы – крама, на м. кург. могільніка – дз. сад. (Касц.)

**ЦВІНТАР**, ур., с.-г. угоддзі, у ц. в. Красавічы Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ЦВІРКАВА**, в. Гл. в. Цвыркава Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ЦВЫРКАВА**, в., Каменналаўскі с/с Шклоўскага р-на, вядом. з 1669 г. як с. Цвыркаў, 32 двары, 50 жых., фермер. гасп. "Дунаева". (Шкл.)

**ЦВЫРКАЎ**, с. Гл. в. Цвыркава Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ЦВЯТКОЎ**, п., да 1950-х гг. у Горацкім р-не. Ліквідаваны. (Гор.)

**ЦЕЙКАВІЧЫ**, в., Мышкавіцкі с/с Кіраўскага р-на, вядом. з XVI ст., 68 двароў, 147 жых., крама, к-с БРЖ. У 1560 г. с., у 1909 г. – 227 жых. (Кір.)

**ЦЕЙКАЧЫ**, в., назва в. Цейкавічы Кіраўскага р-на ў XIX ст. (Кір.)

**ЦЕЛЯШОВА**, в., да 1940 г. у Ракшынскім с/с Мсціслаўскага р-на. Далуч. да в. Рудодзіма. (Мсц.)

**ЦЕЛЯШОВА**, в., да 1960-х гг. у Капачоўскім с/с Мсціслаўскага р-на. Ліквідавана. (Мсц.)

**ЦЕЛЯШОЎКА**, в. Гл. а/г Целяшы Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ЦЕЛЯШОЎКА**, в., Паршынскі с/с Горацкага р-на, 15 двароў, 25 жых. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. (Гор.)

**ЦЕЛЯШОЎСКІ С/С**, с/с Слаўгарадскага р-на, у 1924 – 1965 гг. Утвор. 20.08.1924 г. у Прапойскім р-не Магілёўскай акр., з 26.07.1930 у Прапойскім р-не, з 20.02.1938 у Прапойскім р-не Магілёўскай вобл., з 23.05.1945 г. у Слаўгарадскім р-не. Ліквідаваны 30.11.1961 г. Тэр. с/с далуч. да Гіжэнскага с/с, з 25.12.1962 у Чавускім р-не, 22.11.1963 г. перайменав. у Целяшоўскі с/с Чавускага р-на, з 06.01.1965 у Слаўгарадскім р-не. 15.01.1965 г. перайменав. у Гіжэнскі с/с. (Слаўг.)

**ЦЕЛЯШЫ**, а/г, Гіжэнскі с/с Слаўгарадскага р-на, вядом. з XVIII ст., 104 двары, 278 жых., п/а, аддз. ААБ "Беларусбанк", АТС, ФАП, шк., СДК, б-ка, трэнажорн. зала, КПП, крама, ф. 2 бр. магілы сав. воінаў, помн. землякам. Ц. с/с у 1924 – 1965 гг. Вар. назваў – Цялегі (1776), Целяшоўка (1864). Радз. В. Ракава, паэта. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 5 да 15 Кі/км². (Слаўг.)

**ЦЁМНАЕ**, в., да сяр. XX ст. у Добасненскім с/с Кіраўскага р-на. Ліквідавана. (Кір.)

**ЦЕМНАЛЕСКІ С/С**, с/с Дрыбінскага р-на, на У р-на, у 1966 – 2011 гг. Утвор. 20.06.1966 г. у Горацкім р-не, з 1989 г. у Дрыбінскім р-не. Ліквідаваны 21.01. 2011 г. Тэр. с/с далуч. да Міхееўскага с/с. (Дрыб.)

**ЦЕМНАЛЕССЕ**, в., Каменскі с/с Чавускага р-на, вядом. з XVIII ст., 6 двароў, 6 жых. У 1785 г. – с., 15 двароў, млын. У 1909 – 114 жых., у 1940 – 280 жых. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. (Чав.)

**ЦЕМНАЛУГ**, ур., с.-г. угоддзі, у лесе, на З ад в. Міхайлавічы Горацкага р-на. (Гор.)

**ЦЁМНАЯ ГРЫВА**, дзюн. грыва, на лев. бер. р. Проня, пры сутоку з р. Сож, за 0,3 км на У ад Замкавай Гары Слаўгарадскага р-на. Старажытн. стаянкі. (Слаўг.)

**ЦЁМНЫ ВІР**, вір, на завароце р. Ала, у а/г Паўлавічы Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ЦЁМНЫ ЛЕС ПУШЧА**, л.м. Гл. л. м. Цёмны Лес. (Дрыб., Мсц., Чав.)

**ЦЁМНЫ ЛЕС**, в., Міхееўскі с/с Дрыбінскага р-на, 180 двароў, 432 жых., п/а, аддз. ААБ "Беларусбанк", ФАП, БШ, д/с "Рамонак", СДК, б-ка, КПП, крама, лясн., ф. Чыг. ст. Цёмны Лес. (Дрыб.)

**ЦЁМНЫ ЛЕС**, л.м., на ПнЗ Мсціслаўскага р-на, на У Дрыбінскага, ПнУ Чавускага р-наў. Узгадв. пры Кацярыне II як найбуйн. л.м. у губ. (Дрыб., Мсц., Чав.)

**ЦЁМНЫ ЛЕС**, ур., лясное, на З ад п. Пралетарскі Бабруйскага р-на. (Бабр.)

**ЦЁМНЫ ЛЕС**, ур., лясное, ялов. лес, на ПнЗ ад в. Асіповічы Горацкага р-на, на Пн ад ур. Закрынічча, Ашуркі, на У ад сутоку Дражні і Басі, паміж ур. Бурмакі і Петрачыхін Лес. (Гор.)

**ЦЁМНЫ ЛЕС**, чыг. ст., на чыг. Крычаў – Орша, у скл. в. Цёмны Лес Дрыбінскага р-на. Вакзал. (Дрыб.)

**ЦЁМНЫ РОЎ**, роў, у лесе, на Пн ад в. Немерка Дрыбінскага р-на. (Дрыб.)

**ЦЕМРАВІЦКІ С/С**, с/с Чавускага р-на, у 1964 – 2009 гг., на ПнЗ р-на. Утвор. 25.12.1964 г. 23.12.2009 г. пераўтвор. у Сласцёнаўскі с/с. У 2003 г. – СВК: "Зара" (в. Пілешчына), "50 год БССР" (а/г Сласцёны), "Перадавік" (а/г Васькавічы). 26 снп, 671 двор, 1446 жых. (Чав.)

**ЦЕМРАВІЧЫ**, в., Сласцёнаўскі с/с Чавускага р-на, вядом. з 1604 г., 39 двароў, 91 жых., ФАП, ф. 2 бр. магілы сав. воінаў. У 1604 г. – с., 19 двароў, у 1897 – 80 двароў, 502 жых., хлебазап. крама, у 1940 – 430 жых. Спалена фашыстамі ў 1941 г. Пасля вайны адноўлена. У 1972 г. – лесапільня. У 1945 г. далуч. п. Цемравічы, у 1976 г. – в. Пярэспа. Ц. с/с у 1924 – 2009 гг. (Чав.)

**ЦЕМРАВІЧЫ**, п., да 1945 г. у Цемравіцкім с/с Чавускага р-на. Далуч. да в. Цемравічы. (Чав.)

**ЦЕМРАЎСКІ БЯРЭЗНІК**, ур., лясное, каля в. Цемравічы Чавускага р-на. (Чав.)

**ЦЕМРЫНКА**, руч., левы прыт. р. Аслік (бас. р. Друць). Даўж. 5 км. Выток за 1 км на

ПнЗ ад в. Алешкавічы, вусце – за 1 км на Пн ад в. Майск Бялыніцкага р-на.

**ЦЕМШАВОЕ ПОЛЕ**, ур., с.-г. угоддзі, за 0,2 км на У ад в. Сіманавічы Глускага р-на. Селішча. (Глуск)

**ЦЕНЬСЯГАЕ**, л. м., паміж а/г Каменічы і а/г Градзянка Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**ЦЁПЛАЕ**, в., Антонаўскі с/с Чавускага р-на, вядом. з 1560 г., 31 двор, 52 жых. Кург. могільнік, старажытн. стаянка. У 1897 г. – 566 жых., шк., царква, хлебазап. крама. і піцейны дом, у 1940 – 760 жых. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. Радз. У. Рагуцкага, паэта. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². (Чав.)

**ЦЁПЛАЕ**, п., да 1940-х гг. у Горацкім р-не. Ліквідаваны. (Гор.)

**ЦЁПЛАЕ**, фальв., да 1920-х гг. у Дужаўскім с/с Чавускага р-на. Ліквідаваны. У 1897 г. – 1 двор, 12 жых. (Чав.)

**ЦЕРАБАМІРКА**, р. Гл. р. Чарабамірка Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ЦЕРАБЕЖ**, ур., с.-г. угоддзі, поле СВК імя С. Будзённага, каля в. Лянёўка Клічаўскага р-на. Пл. 12,4 га. (Кліч.)

**ЦЕРАБЕЖАК**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Сялец Глускага р-на. (Глуск.)

**ЦЕРАБЕЖЫ**, ур., с.-г. угоддзі, у сутоку руч. Крывавы і р. Бярэзіны, на пр. бер. руч. Крывавы Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**ЦЕРАБОЛЬ**, в., да 1977 г. у Каўбчанскім с/с Клічаўскага р-на. Ліквідавана. (Кліч.)

**ЦЕРАБОЛЬ**, р., левы прыт. р. Ольса (бас. р. Бярэзіна). Даўж. 15.2 км. Выток за 14 км на ПнУ ад а/г Коўбча, вусце за 6 км на ПдУ ад а/г Коўбча Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**ЦЕРАБОЛЬ**, р., левы прыт. р. Ольса (бас. р. Дняпро). Даўж. 12 км. Выток за 6 км на ПнЗ ад п. Лясны, вусце за 1 км на У ад в. Ганаратаў Клічаўскага р-на. Пл.вдзб. 35 км², пад лесам 91%. У вярхоўі – балота Астравы-Дулебы (ур. Вялікае Дулебскае). (Кліч.)

**ЦЕРАБОЛЬ**, ур., лясное, за 0,5 км на ПнУ ад в. Усакіна Клічаўскага р-на. Вайсков. могілкі. (Кліч.)

**ЦЕРАБУЦКІ І КАНАЛ, ЦЕРАБУЦКІ ПЕРШЫ КАНАЛ**, канал, меліярац., пр. прыт. р. Пціч (бас. р. Прыпяць), у Старадарожскім і Асіповіцкім р-нах. Даўж. 6,6 км. Выток у Старадарожскім р-не, вусце за 1 км на ПдЗ ад в. Жыцін Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**ЦЕРАБЫТЫ**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Негаўля Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ЦЕРАСПОЛЛЕ**, х., у Кручанскім с/с Круглянскага р-на. Ліквідаваны. Вар. назвы – Янава. (Кругл.)

**ЦЕРАХАВЫ ПРУДЫ**, фальв., да 1920-х гг. у Заходскім с/с Шклоўскага р-на. Ліквідаваны. (Шкл.)

**ЦЕРАХАЎ БОР**, в., Доўгаўскі с/с Клічаўскага р-на, 8 двароў, 10 жых. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². (Кліч.)

**ЦЕРАХАЎ МОХ**, ур., лясное, на Пд ад л.м. Табары Горацкага р-на. (Гор.)

**ЦЕРАХОЎКА**, в., Свенскі с/с Слаўгарадскага р-на, 55 двароў, 105 жых., дом сац. пасл. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 5 да 15 Кі/км². (Слаўг.)

**ЦЕРАХОЎКА**, зак., гідралаг., мясц. знач. з 1995 г., за 5,5 км на ПдЗ ад в. Савічы, за 3 км на ПнУ ад в. Даманава II Бабруйскага р-на. Пл. 129 га. (Бабр.)

**ЦЕРАХОЎКА**, п., да 1975 г. у Саматэвіцкім с/с Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ЦЕРАХОЎКА**, рад., торфу, ва ўр. Церахоўка Бабруйскага р-на. Пл. 129 га. Зап. торфу 123 тыс. т. Не распрацоўв. (Бабр.)

**ЦЕРАХОЎКА**, ур. Гл. ур. Церахоўскае Поле Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ЦЕРАХОЎКА**, ур., леса-балотнае, за 5,5 км на ПдЗ ад в. Савічы, за 3 км на ПнУ ад в. Даманава II Бабруйскага р-на. Пл. 150 га. У натур. стане. (Бабр.)

**ЦЕРАХОЎСКАЕ ПОЛЕ**, ур., захмызав. с.-г. угоддзі, на м. б. п. Церахоўка Касцюковіцкага р-на. Вар. назвы – ур. Церахоўка. (Касц.)

**ЦЕРАХОЎСКАЯ ДАРОГА**, дарога Церахоўка-Мікольск Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ЦЕРВА**, руч., пр. прыт. р. Удога (бас. р. Сож). Даўж. 3,1 км. Выток на Пн ад в. Касары, за 2,5 км на ПдЗ ад в. Ляхі, вусце – на ПнЗ ад в. Забачаў Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**ЦЕСА**, ур. Гл. ур. Цяса, Ціеса, Цяса Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ЦЕХА**, р., б. пр. прыт. р.Друць, з вусцем у а/г Цяхцін Бялыніцкага р-на. Не існуе. (Бял.)

**ЦЕХАНІЧЫ**, в., Пралетарскі с/с Касцюковіцкага р-на, вядом. з XIX ст., 13 двароў, 20 жых. (Касц.)

**ЦЕХНАВЕЦ**, ур., леса-балотнае, за 3,9 км на ПнУ ад в. Кульшычы Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ЦЕЦЕРАЎ**, ур., с.-г. угоддзі, луг, на лев. бер. Дняпра, паміж воз. Выхадское і вусцем р. Паўна Магілёўскага р-на. (Маг.)

**ЦЕЦЕРАЎНІК**, в., Сухарэўскі с/с Магілёўскага р-на, 2 двары, 2 жых. (Маг.)

**ЦЕЦЕРУКОЎ НАДЗЕЛ**, ур., лясное, на 3 ад в. Сіманавічы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ЦЕЧКА**, багністае балота, каля лугу, на ўскр. а/г Антонаўка Чавускага р-на. (Чав.)

**ЦЕЧКІ**, в., да 1994 г. у Вяйнянскім с/с Магілёўскага р-на. Ліквідавана. (Маг.)

**ЦЕШАМ'Е**, в., Чарнаборскі с/с Быхаўскага р-на, 2 двары, 2 жых. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². (Бых.)

**ЦЕШЫНА**, ур., с.-г. угоддзі, за 0,8 км на ПдУ ад в. Сялец Чавускага р-на, за 0,6 км на ПдЗ ад вусця р. Радуча. Вар. назвы – Курганне. (Чав.)

**ЦІВАНКА**, ур., с.-г. угоддзі, луг, на пр. бер. р. Друць каля в. Улужжа Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ЦІВЕЦКАЕ**, в., да 2000 г. у Мхініцкім с/с Краснапольскага р-на. Ліквідавана. (Краснап.)

**ЦІЕСА**, в., да сяр. 1990-х гг. у Мышкавіцкім с/с Кіраўскага р-на. Ліквідавана. (Кір.)

**ЦІЕСА**, ур., с.-г. угоддзі, на ПнУ ад в. Папоўшчына Кіраўскага р-на. Месца знах. скарбу. (Кір.)

**ЦІМАНАВА**, а/г, ц. с/с і КУСП "Племз-д "Ціманава" Клімавіцкага р-на, 750 двароў, 1918 жых., п/а, аддз. ААБ "Беларусбанк", АТС, урач. амбул., СШ, філ. дз. шк. мастац., д/с "Журавушка", СДК, б-ка, сац.-пед. ц., лазня, цырульня, КПП, кавярня "Бістро", 10 крам, ф. Помн. землякам. Старажытн. стаянка, селішча, 2 кург. могільнікі. У 1900 – 1914 гг. – вінакурня. Да 1924 г. – ц. вол. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. П. перасял. Да рц – 6, да чыг. ст. Клімавічы – 5 км. (Клім.)

**ЦІМАНАВА-ДВАРЭЦ**, ур., с.-г. угоддзі, поле СВК імя К. Маркса Клічаўскага р-на. Пл. 156,7 га. (Кліч.)

**ЦІМАНАЎСКАЕ ВАДАСХОВІШЧА**, вдсх., у вусці і ніж. цяч. р. Перавалочня (бас. р. Дняпро) Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ЦІМАНАЎСКАЕ**, ур., с.-г. угоддзі, за 1,3 км на Пн ад а/г Лобжа Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ЦІМАНАЎСКІ С/С**, с/с Клімавіцкага р-на, у ц. р-на. Утвор. 20.08.1924 г. у Клімавіцкім р-не Калінінскай акр., з 09.06.1927 у Клімавіцкім р-не Магілёўскай акр., з 26.07.1930 у Клімавіцкім р-не, з 20.02.1938 у тым жа р-не Магілёўскай вобл. КУСП "Племз-д "Ціманава" (а/г Ціманава). 14 снп, 942 двары, 2240 жых. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 5 да 15 Кі/км² – 2 снп. У 1993 г. далуч. частка скасав. Савініцкага с/с. (Клім.)

**ЦІМАФЕЕЎ ЛЕС**, ур., лясное, на пр. бер. р. Проня, на ПдУ ад в. Сялец Чавускага р-на. Пл. каля 150 га. (Чав.)

**ЦІМАФЕЕЎКА**, ур., захмызаван., за 6 км на Пн ад а/г Верамейкі, каля вв. Новая і Старая Беліца Чэрыкаўскага р-на. Праяўлен. цагл.-чарапічн. сыравіны. (Чэр.)

**ЦІМАШОНКАВЫ ПАЛЯДКІ**, ур., с.-г. угоддзі, у лесе, каля в. Гаўрыленка Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ЦІМЕНЬ**, р., пр. прыт. р. Ольса (бас. р. Бярэзіна). Даўж. 10 км. Выток ва ўр. Цімень, на Пд ускр. в. Ганаратава, вусце за 1 км на ПдУ ад в. Закущце Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**ЦІМЕНЬ**, ур., леса-балотнае, за 4 км на Пн ад в. Турчылаў Клічаўскага р-на. Выток руч. Цімень. (Кліч.)

**ЦІМОХАВА КРЫНІЦА**, крын., за 0,1 км на ПнЗ ад в. Дуброўка Чавускага р-на, паміж ур. Цімохаў Курган і Тарасаў Курган. (Чав.)

**ЦІМОХАЎ АЛЕШНІК**, ур., хмызовае, за 1,5 км на ПнЗ ад в. Забор'е Краснапольскага р-на. Пл. каля 1,5 га. (Краснап.)

**ЦІМОХАЎ КУРГАН**, пагорак, за 0,1 км на ПнЗ ад в. Дуброўка Чавускага р-на. (Чав.)

**ЦІМОХАЎ МОСТ**, ур., с.г. угоддзі, каля маста, праз руч. у а/г Звянчатка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ЦІМОХАЎ ПАЛЯДАК**, ур., с.-г. угоддзі, сенажаць у лесе, на ПдЗ ад в. Вепрын Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**ЦІМОХАЎ**, фальв., да 1920-х гг. у Благавіцкім с/с Чавускага р-на. Ліквідаваны. У 1897 г. – 1 двор, 14 жых. (Чав.)

**ЦІМОХАЎКА**, в., Аўсянкаўскі с/с Горацкага р-на, 19 двароў, 32 жых., б.а. "Купалінка", крама, ф. Спалена фашыстамі ў 1941 г. Пасля вайны адноўлена. (Гор.)

**ЦІМОХАЎКА**, в., да 1980-х гг. у Кручанскім с/с Круглянскага р-на. Ліквідавана. Радз. К. Паўлянковіч, Гер. Сац. працы. (Кругл.)

**ЦІМОХАЎКА**, в., Каменскі с/с Чавускага р-на, вядом. з XVII ст., 23 двары, 30 жых., ф. Бр. магіла сав. воінаў. У 1742 г. – 1 двор, карчомка, у 1897 – 173 жых. (Чав.)

**ЦІМОХАЎКА**, ур., лясное, на У в. Поўстка Глускага р-на. (Глуск.)

**ЦІМОШКАВА**, в., да 1976 г. у Ракшынскім с/с Мсціслаўскага р-на. Далуч. да в. Чарнавусы. (Мсц.)

**ЦІМОШКІ**, в., Мілаславіцкі с/с Клімавіцкага р-на, 1 двор, 1 жых. (Клім.)

**ЦІМОШЧЫН РОЎ**, ур., с.-г. угоддзі, на Пд ад в. Боўсевічы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ЦІНА**, р., б. пр. прыт. р. Друць, з вусцем у а/г Цяхцін Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ЦІНЦЬЕЎСКАЯ ГАРА**, пагорак, на пр. бер. р. Беседзь, каля вусця р. Еленка, на Пд а/г Бярозкі Хоцімскага р-на. Стаянка эпохі неаліту, селішча. (Хоц.)

**ЦІНЬКАВА**, в. Гл. в. Цінькаў Крычаўскага р-на. (Крыч.)

**ЦІНЬКАЎ**, в., Бацвінаўскі с/с Крычаўскага р-на, вядом. з XVIII ст., 17 двароў, 34 жых., дом сац. пасл. Старажытн. селішча. Назва ў XIX ст. – в. Янаўка. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². (Крыч.)

**ЦІНЬКАЎШЧЫНА**, в., Чэрнеўскі с/с Дрыбінскага р-на, 5 двароў, 7 жых. (Дрыб.)

**ЦІПЯТКОЎ ГАЙ**, ур., с.-г. угоддзі, луг, у а/г Антонаўка Чавускага р-на. (Чав.)

**ЦІТАВА ДУБ'Ё**, ур., лясное, каля в. Радуцічы Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**ЦІТАЎ ВІР**, зімав. яма, на р. Вепрынка, каля в. Збышын Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ЦІТАЎ КЛІН**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Урэчча Другое Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ЦІТАЎ РОЎ**, роў, на З ад в. Папоўцы Чавускага р-на. (Чав.)

**ЦІТАЎКА**, в., да 1993 г. у Ціманаўскім с/с Клімавіцкага р-на. Адселена. (Клім.)

**ЦІТАЎКА**, в., Мілаславіцкі с/с Клімавіцкага р-на, 23 двары, 39 жых.. Ц. с/с у 1927 – 1954 гг. (Клім.)

**ЦІТАЎКА**, р. Гл. р. Лясная Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ЦІТАЎКА**, р., старажытн. назва р. Лясная Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ЦІТАЎКА**, рад., торфу, на балоце Няропля Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ЦІТОЎКА**, мкр-н, на У г. Бабруйск. Зверагасп. (Бабр.).

**ЦІТОЎСКІ С/С**, с/с Клімавіцкага р-на, у 1927 – 1954 гг. Утвор. 20.08.1924 г. у Клімавіцкім р-не Калінінскай акр. як Склімінскі с/с, з 09.06.1927 у Клімавіцкім р-не Магілёўскай акр., у 1927 перайменав. у Цітоўскі с/с, з 26.07.1930 у Клімавіцкім р-не, з 20.02.1938 у Магілёўскай вобл. У 1954 г. далуч. да Мілаславіцкага с/с. (Клім.)

**ЦІЎНАВІЧЫ**, в., Сычкаўскі с/с Бабруйскага р-на, 35 двароў, 52 жых. (Бабр.)

**ЦІХАГА БАЛОТА**, балота, за 2,5 км на З ад в. Усакіна Клічаўскага р-на. Вар. назваў – балота Ціхага, Ціхага. (Кліч.)

**ЦІХАГА**, балота. Гл. Ціхага Балота. (Кліч.)

**ЦІХАНАВЫ ПАЛЯДКІ**, ур., с.-г. угоддзі, на У в. Забычанне Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ЦІХАНАЎ ХУТАР**, ур., с.-г. угоддзі, за 1 км на У ад а/г Родня Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ЦІХАНАЎКА**, дарога Сасноўка – Шклоў Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ЦІХАНАЎШЧЫНА**, ур., с.-г. угоддзі, за 2 км на ПнУ ад в. Патаронаўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ЦІХАНЬ І, ЦІХАНЬ ПЕРШАЯ**, в., да 1975 г. у Забялышынскім с/с Хоцімскага р-на. З 1975 г. – в. Ціхань. (Хоц.)

**ЦІХАНЬ ІІ, ЦІХАНЬ ДРУГАЯ**, в., да 1975 г. у Забялышынскім с/с Хоцімскага р-на. З 1975 г. – в. Ціхань. (Хоц.)

**ЦІХАНЬ**, п. Гл. в. Ціхань Хоцімскага р-на. (Хоц.)

**ЦІХАНЬ**, в., Забялышынскі с/с Хоцімскага р-на, вядом. з XVIII ст., 12 двароў, 13 жых., дом сац. паслуг. У 1910 – 1975 гг. – в. Ціхань І, з 1975 г. в. Ціхань. У 1910 г. – 621 жых. (Хоц.)

**ЦІХІ ВІР**, зімав. яма, на р. Вабіч, каля в. Сныткі Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ЦІХНАВЕШЧЫНА**, ур., леса-балотнае, на З ад балота Чыстая Лужа Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ЦІХОНІН ХУТАР**, ур., с.-г. угоддзі, за 2 км на Пд ад в. Казусёўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ЦІШ**, п., да 1990-х гг. у Баханскім с/с Слаўгарадскага р-на. Ліквідаваны. (Слаўг.)

**ЦІШКОЎШЧЫНА**, ур., с.-г. угоддзі, у а/г Чэрнеўка Дрыбінскага р-на. (Дрыб.)

**ЦІШОЎКА**, в., Буйніцкі с/с Магілёўскага р-на, ц. ААТ "Цішоўка", 464 двары, 1060 жых., п/а, СШ, дз. шк. мастац., 2 крамы, гандл. павільён, ф. Помн. землякам. У 1873 – 1887 гг. – запалк. ф-ка. Да чыг. ст. Буйнічы ІІ, да рц – 5 км. (Маг.)

**ЦІШОЎКА**, в., у 1920 – 1990-х гг. у Старасельскім с/с Шклоўскага р-на. Ліквідавана. (Шкл.)

**ЦІШОЎКА**, п., да 1969 г. у Цішоўскім (Буйніцкім) с/с Магілёўскага р-на. Перайменав. у п. Ямніцкі. Гл. п. Ямніцкі. (Маг.)

**ЦІШОЎКА**, ур., лясное, паміж вв. Шчацінка і Навабрашчына Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ЦІШОЎСКІ С/С**, с/с на З Магілёўскага р-на, у 1924 – 1990-х гг. Утвор. 20.08.1924 г. у Магілёўскім р-не. У 1924 – 1930 гг. у скл. р-на Магілёўскай акр., з 20.02.1938 г. у Магілёўскай вобл. У кан. 1990-х гг. с/с пераўтвор. у Буйніцкі с/с. (Маг.)

**ЦМЫГАВА**, вдсх., на руч. бас. р. Кострычка, у ц. в. Усохі Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**ЦЫБІКАЎ МОСТ**, ур., лясное, за 0,2 км на ПдУ ад в. Пятроўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ЦЫБУЛЬСКІ ХУТАР**, ур., с.-г. угоддзі, за 0,3 км на У ад в. Асмолавічы Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ЦЫГАНІХІН ХУТАР**, ур., с.-г. угоддзі, каля ўр. Бейзераў Хутар Горацкага р-на. (Гор.)

**ЦЫГАНІХІНА ПОЛЕ**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Вепрын Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**ЦЫГАНКА**, воз., старык, у пойме лев. бер. р. Бярэзіна, за 4,5 км на З ад в. Віркоў Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**ЦЫГАНКА**, воз., старык, у пойме лев. бер. р. Бярэзіна, за 4.5 км на З ад в. Віркаў Бабруйскага р-на. (Бабр.)

**ЦЫГАНКА**, перакат р. Бярэзіна, на мяжы Клічаўскага і Асіповіцкага р-наў, на З ад в. Віркаў Клічаўскага р-на. (Асіп., Кліч.)

**ЦЫГАНКОЎ РАВОК**, ур., с.-г. угоддзі, за 3 км на Пн ад в. Ходаравічы Горацкага р-на. (Гор.)

**ЦЫГАНОВА БАЛОТА**, ур., забалоч. с.-г. угоддзі, у а/г Каменка Чавускага р-на. (Чав.)

**ЦЫГАНОВА БАЛОТА**, ур., леса-балотнае, за 6 км на Пд ад в. Краснае Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**ЦЫГАНОЎКА**, мкр-н, старажытн. частка г. Клімавічы за руч. Калініца, вул. Піянерская і зав. Піянерскі. (Клім.)

**ЦЫГАНОЎКА**, слабада г. Клімавічы. Гл. мкр-н Цыганоўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ЦЫГАНОЎШЧЫНА**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Царковішча Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ЦЫГАНСКІ ЛОГ**, лог, на ПдЗ ад в. Цёмны Лес Дрыбінскага р-на. (Дрыб.)

**ЦЫГАНСКІ МОСТ**, курганы, за 4 км на У ад а/г Бацэвічы і в. Зарэчча Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**ЦЫГАНСКІ НЫРОК**, частка р. Пціч, у а/г Падлужжа Глускага р-на. (Глуск.)

**ЦЫГАНСКІ**, п., частка чыг. ст. Нясята Клічаўскага р-на. (Кліч.).

**ЦЫГАНСКІЯ ДУБЫ**, л.м., за 0,7 км на ПнУ ад в. Буда Высакоўская Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ЦЫКУНОВА**, ур., с.-г. угоддзі, за 3 км на У ад а/г Мілаславічы Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ЦЫКУНЫ, БОР ЦЫКУНЫ**, ур., лясное, у міжрэччы рр. Алешня і Чарняўка, на ПдЗ в. Саматэвічы Касцюковіцкага р-на, на мяжы з Бранскай вобл. Расіі. (Касц.)

**ЦЭЗАРОВА**, в., Градзянскі с/с Асіповіцкага р-на, 19 двароў, 56 жых., крама, ф., аграсядз. "13-ы кардон". (Асіп.)

**ЦЭЛЬ**, в., Пратасевіцкі с/с Асіповіцкага р-на, вядом. з XVI ст., 42 двары, 55 жых., п/а, ФАП, СШ, філ. дз. шк. мастац., 2 крамы, 2 кацельні, цэх ААТ "Вяснянка", в/ч. 2 бр. магілы сав. воінаў, селішча. (Асіп.)

**ЦЭЛЬ**, прып. п., на чыг. Асіповічы – Градзянка, у скл. в. Цэль Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**ЦЭЛЬСКАЕ**, рад., торфу, на балоце Цэльская л.д. Асіповіцкага р-на. Зап. торфу 13,4 млн т. (Асіп.)

**ЦЭЛЬСКАЯ ЛЯСНАЯ ДАЧА**, балота, нізіннае, у Асіповіцкім і Пухавіцкім р-нах, у вдзб. р. Сіняя (бас. р. Свіслач), на ПнЗ ад

в. Цэль. Пл. 7,2 тыс. га. Укл. масівы Шаманшчына, Загуменне, Вялікі Луг і інш. Зап. торфу. Больш. частка асуш. На неасуш. частцы (2,9 тыс. га) – лес. (Асіп.)

**ЦЭЛЬСКАЯ ЛЯСНАЯ ДАЧА**, зак., мясц. знач., гідрал., з 1993 г., на частцы балота Цэльская л.д., на ПдЗ ад в. Цэль Асіповіцкага р-на. Пл. 1,26 тыс. га. (Асіп.)

**ЦЭЛЬСКІ ЛЕС**, л.м., хваёв.-бяроз., у вдзб. р. Сіняя, на Пд ад в. Цэль Асіповіцкага р-на. Пл. 2,9 тыс. га. (Асіп.)

**ЦЭМЕНТНІКАЎ**, п. Гл. п. Пасёлак цэментнага завода Крычаўскага р-на. (Крыч.)

**ЦЭНТР**, в., да XX ст. у Мсціслаўскім р-не. Ліквідавана. (Мсц.)

**ЦЭНТР**, р-н, архітэкт.-забуд. р-н г. Бабруйска. (Бабр.)

**ЦЭНТР**, р-н, архітэкт.-забуд. р-н г. Магілёў. (Маг.)

**ЦЭНТРАЛЬНА-БЕРАЗІНСКАЯ РАЎНІНА**, раўн., займае У частку Мінскай, З Магілёўскай, Пн Гомельскай абл. На тэр. Клічаўскага, Кіраўскага, частк. Бялыніцкага, Круглянскага, Магілёўскага, Быхаўскага, Бабруйскага, Асіповіцкага р-наў. Пл. – 28. 1 тыс. км². Праціг з Пн на Пд на 165 км, з З на У ад 90 да 170 км. Рэльеф сфарм. пад уздзеян. Сожскага ледавіка і яго талых водаў. Трапл. размытыя канц. градав. марэны, найб. выразныя каля г. Бабруйск і г. Асіповічы. Пав. слабапарэз. далінамі. Нахіл з Пн на Пд. 87% тэр. на выш. 140–180 м н.у.м. Выш. кропка 196 м – на ПдУ ад в. Кострыцкая Слабодка Кіраўскага р-на. Клімат умер.-кантынент., пераходны ад марскога да кантынент. Найбуйн. р.: Бярэзіна з Ольсай, Друць з правым прыт. Вепрынка, Хмелінка, Белая; Ала; Добасна; Кострычка. Чыгірынскае вдсх. на р. Друць. Пад лесам – 40%. Рад. глін, суглін., пяскоў, мін. вод, сапрапелю, торфу. (Асіп., Бабр., Бых., Бял., Кір., Кліч., Кругл., Маг.)

**ЦЭНТРАЛЬНА-БЯРЭЗІНСКАЯ РАЎНІНА**, раўн. Гл. Цэнтральна-Беразінская раўн. (Асіп., Бабр., Бых., Бял., Кір., Кліч., Кругл., Маг.)

**ЦЭНТРАЛЬНАЯ КАНАВА**, канава, меліярац., пр. прыт. р. Пціч (бас. р. Прыпяць). Даўж. каля 1,5 км. Выток і вусце каля а/г Дараганава Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**ЦЭНТРАЛЬНЫ РАЁН**, адм. гарадскі р-н, у 1980 – 2002 гг. у г. Магілёў, на правабярэжжы г. Магілёў, Ц, З, ПдЗ часткі. Пл. 38,8 км². Далуч. да Ленінскага р-на. (Маг.)

**ЦЭПІКАЎ КАЛОДЗЕЖ**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Кішчыцы Дрыбінскага р-на (Дрыб.)

**ЦЭРКАЎКА**, канал. Гл. р. Царкоўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ЦЮЛІКАВА ЛУЧКА**, ур., с.-г. угоддзі, за 2 км на ПдЗ ад в. Сабалёўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ЦЮМЕНСКАЕ ВОЗЕРА**, воз., у бас. р. Беседзь, за 1 км на ПнУ ад в. Вялікі Бор Касцюковіцкага р-на. Вар. назвы – Цяменскае. (Касц.)

**ЦЮМЕНСКАЕ**, воз., у бас. р. Сож, на ПнУ ад в. Вялікі Бор Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ЦЮРЫНКА**, канал. Гл. р. Цюрынка Глускага р-на. (Глуск.)

**ЦЮРЫНКА**, р., пр. прыт. р. Даколька (бас. р. Пціч). Даўж. 5,6 км. Выток за 1 км на ПнЗ ад в. Вайцяхова, вусце каля в. Клетнае Глускага р-на. Рэчышча каналізав. Вар. назвы – канал Цюрынка. (Глуск.)

**ЦЯЖОБКІ**, ур. Гл. ур. Цяжоўкі Чавускага р-на. (Чав.)

**ЦЯЖОБНАЕ**, воз., старык, у рэчышчы лев. бер. р. Сож, за 2 км на ПдУ ад п. Першакрычаўскі Крычаўскага р-на. Даўж. каля 1 км. (Крыч.)

**ЦЯЖОЎКІ**, ур., старажытн. стаянка, на І надпоймав. тэрасе пр. бер. р. Бася, у луцэ, каля лазні Чавускага ільноз-да. Вар. назвы – ур. Цяжобкі Чавускага р-на. (Чав.)

**ЦЯЛЕГІ**, в. Гл. а/г Целяшы Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ЦЯЛУША ІІ, ЦЯЛУША ДРУГАЯ**, в., у скл. а/г Цялуша Бабруйскага р-на. (Бабр.)

**ЦЯЛУША**, а/г, ц. с/с і філ. "Харчавік-Агра" ААТ "Чырвоны харчавік" Бабруйскага р-на, 227 двароў, 521 жых., п/а, аддз. ААБ "Беларусбанк", АТС, радыёвузел, б-ца, апт., ветуч-к, д/с-СШ, філ. дз. муз. шк., СДК, б-ка, КПП, крама, ф. Бр. магіла сав. воінаў, магіла Н. Варанцовай-Вельямінавай (унучкі А. Пушкіна), абеліск, мемар. дошка ў гонар падпольшчыкаў, царква – помн. архітэкт. (XIX – XX ст., цаглян.). Радз. В. Лаўрыновіча, паэта. Да рц – 19, да чыг. ст. Цялуша – 4 км. (Бабр.)

**ЦЯЛУША**, р., левы прыт. р. Вір (бас. р. Бярэзіна). Даўж. 6 км. Выток на Пд а/г Цялуша, вусце ва ўр. Абалонняе Бабруйскага р-на. (Бабр.)

**ЦЯЛУША**, чыг. ст., на чыг. Бабруйск–Жлобін, у скл. а/г Цялуша Бабруйскага р-на. Ц. Кавалёўскага с/с у 1938 – 1982 гг. (Бабр.)

**ЦЯЛУШСКАЯ ЛЯСНАЯ ДАЧА**, л.д., на ПдУ р-на, на З і ПдЗ ад а/г Цялуша Бабруйскага р-на, на лев. бер. р. Бярэзіна. Пл. 14000 га. Хваёв. лясы (76%), ельнікі (3), чорнаалешнікі (6). Маляўн. Краявіды прыдатн. для адпач., турызму. (Бабр.)

**ЦЯЛУШСКІ С/С**, с/с на У Бабруйскага р-на. Утвор. 21.08.1924 г. у Бабруйскім-2 р-не, з 04.08.1927 у Бабруйскам р-не Бабруйскай акругі, з 20.07.1930 у Бабруйскім р-не, з 20.02.1938 у Бабруйскам р-не Магілёўскай вобл. З 20.09.1944 г. у Бабруйскім р-не Бабруйскай вобл., з 08.01.1954 у Бабруйскім р-не Магілёўскай вобл. Філ. "Харчавік-Агра" ААТ "Чырвоны харчавік" (а/г Цялуша). 11 снп, 689 двароў, 1467 жых. (Бабр.)

**ЦЯЛУШСКІ**, канал, меліярац., левы прыт. р. Беліца (бас. р. Дняпро). Даўж. 5,6 км. Выток за 0,6 км на З ад в. Міхалёва III, вусце за 1 км на З ад а/г Цялуша Бабруйскага р-на. (Бабр.)

**ЦЯЛЯТКАВА**, в., Сялецкі с/с Мсціслаўскага р-на, 5 двароў, 7 жых. У 1897 г. – 167 жых. Радз. Г. Бубнава, паэта, перакладчыка. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. (Мсц.)

**ЦЯЛЯТКАВА**, маёнтак, да 1917 г. у Сялецкім с/с Мсціслаўскага р-на. Ліквідаваны. У 1909 г. – 1 двор, 9 жых.. (Мсц.)

**ЦЯЛЯТКАВА**, фальв., да 1917 г. у Сялецкім с/с Мсціслаўскага р-на. Ліквідаваны. У 1909 г. – 2 двары, 9 жых. (Мсц.)

**ЦЯЛЯТКАЎСКАЕ ПОЛЕ**, ур., с.-г. угоддзі, каля в. Цяляткава Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**ЦЯЛЯЧЫ РОЎ**, яр, у Пн частцы г. Мсціслаў, вых. у даліну р.Віхра. Вапнякі, крэйда. Крын. Здаровец (Здаровец, Здаравец). Гл. ур. Цялячыя Равы. (Мсц.)

**ЦЯЛЯЧЫЯ РАВЫ**, яры, паміж в. Лютня і г. Мсціслаў. (Мсц.)

**ЦЯМЕНСКАЕ**, возера. Гл. Цюменскае возера. (Касц.)

**ЦЯМНЫЯ**, в., Ляснянскі с/с Круглянскага р-на, 8 двароў, 14 жых. (Кругл.)

**ЦЯМША**, ур., с.-г. угоддзі, У частка в. Сіманавічы Глускага р-на. 2 курганы. (Глуск.)

**ЦЯМШАВА ПОЛЕ**, ур., с.-г. угоддзі, на У ўскр. в. Сіманавічы Глускага р-на, на пр. бер. р. Пціч, на Пн ад шашы Бабруйск – Слуцк. Селішча. (Глуск.)

**ЦЯНЁЎКА**, зак., мясц. знач., гідралаг., з 1994 г., за 0.1 км на ПнЗ ад в. Моціна Клічаўскага р-на. Пл. 14 га. (Кліч.)

**ЦЯПЛУХАЎСКАЕ**, рад., пяскоў, каля Пд ускр. в. Цяплухі Асіповіцкага р-на. Паклад звяз. з адклад. Сожскага ледавіка. Зап. 4,1 млн м³. Не распрацоўв. (Асіп.)

**ЦЯПЛУХІ**, в., Вяззеўскі с/с Асіповіцкага р-на, вядом. з XVI ст., 95 двароў, 187 жых., клуб, крама, кавярня "Транзіт" ПГУП "ПВС Транзіт", выратав. ст. Кург. могільнік. (Асіп.)

**ЦЯПЛУХІ**, в., да 1940- х гг. у Горацкім р-не. Ліквідавана. (Гор.)

**ЦЯРОБКІ**, ур., с.-г. угоддзі, за 3 км на ПнЗ ад в. Буда Высакоўская Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ЦЯРПІЛАЎКА**, в., да 1964 г. у Чарняўскім с/с Хоцімскага р-на. Перайменав. у в. Аляксандравічы. Гл. в. Аляксандравічы. (Хоц.)

**ЦЯРПІЛАЎКА**, в., да 1990-х гг. у Клімавіцкім р-не. Ліквідавана. (Клім.)

**ЦЯРПІЛАЎКА**, рад., маргелю, каля в. Аляксандраўка Хоцімскага р-на. Не распрацоўв. (Хоц.)

**ЦЯРПІЛАЎКА**, ур., с.-г. угоддзі, за 2 км на ПдУ ад в. Іванава Слабада Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ЦЯРЭНІ**, в., Ракшынскі с/с Мсціслаўскага р-на, 7 дварoў, 22 жых. У 1897 г. 27 двароў, 186 жых. (Мсц.)

**ЦЯРЭШКАВА**, в., Хімоўскі с/с Бабруйскага р-на, 14 двароў, 30 жых., ф. (Бабр.)

**ЦЯРЭШЧЫНА**, ур., лясное, на З ад в. Баронькі Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ЦЯСА**, в. Гл. в. Цieса Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ЦЯСЛЯНКА**, р., левы прыт. р. Свіслач (бас. р. Бярэзіна). Даўж. 7 км. Выток каля в. Крычовец, вусце ў а/г Лапічы Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**ЦЯСНОВА**, в., Клетненскі с/с Глускага р-на, вядом. з XIX ст. як с. Цясноў, 24 двары, 40 жых., ф., СТФ (Глуск.)

**ЦЯСНОЎ**, с. Гл. в. Цяснова Глускага р-на. (Глуск.)

**ЦЯХЦІН**, а/г, ц. с/с і ААТ "Новая Друць" Бялыніцкага р-на, вядом. з XVII ст., 321 двор, 877 жых., п/а, АТС, аддз. ААБ "Беларусбанк", урач. амбул., апт., ветуч-к, СШ-д/с, СДК, б-ка, КПП, лясн., 2 крамы, цяплічн. гасп., крухм. з-д, ф. Аграсядз. "Мічуркі", "У Фядоры Данілаўны". Бр. магіла партызан, помн. землякам. Радз. А. Цумарава, юрыста, ген.-маёра. Да рц – 20, да чыг. ст. Друць – 20 км. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км$^2$. (Бял.)

**ЦЯХЦІНСКІ С/С**, с/с Бялыніцкага р-на, на ПдУ р-на, 16191 га. Утвор. 05.12.1965 г. ААТ "Новая Друць", крухм. з-д (а/г Цяхцін). 24 снп, 707 двароў, 1564 жых. (Бял.)

**ЦЯЦЕРЖЫН**, мяст., назва Цяцерына Круглянскага р-на ў апісанні губерні Зяблоўскага, 1810 г. (Кругл.)

**ЦЯЦЕРЫНА**, а/г, ц. с/с і СПУП "АСБ "Цяцерына" Круглянскага р-на, вядом. з 1430 г., 185 двароў, 485 жых., п/а, аддз. ААБ "Беларусбанк", АТС, б-ца, урач. амбул., СШ, д/с, філ. дз. шк. мастац., ц. культуры, б-ка, КПП, крама, закусачная, ГЭС. Ц. паляўн. гасп. "Цяцерына". Гарадзішча (ур. Шведская Гара). Бр. магіла сав. воінаў і партызан, помн. землякам. У 1860-х гг. – 161 жых. (140 – яўрэі), 2 царквы, яўр. малельня, 2 пастаял. двары, вінакурня, бровар, штогадовы кірмаш. Да 1924 г. – мяст., ц. вол. Радз. П. Ганчарова, ген.-палк., д.м.н., праф. Спалена фашыстамі ў 1944 г. Пасля вайны адноўлена. Да рц – 9, да чыг. ст. Талачын – 31 км. (Кругл.)

**ЦЯЦЕРЫНА**, ур., с.-г. угоддзі, на Пд ад вв. Новае Жыцце і Буросава Хоцімскага р-на, па руч. Цяцерынка – адз. з вытокаў р. Сплавень. (Хоц.)

**ЦЯЦЕРЫНА**, ур., с.-г. угоддзі, на Пд ад вв. Новае Жыцце і Буросава Хоцімскага р-на. (Хоц.)

**ЦЯЦЕРЫНКА**, руч., пр. прыт. р. Сплавень (бас. р. Беседзь). Даўж. 4 км. Выток паміж вв. Буросава і Новае Жыццё, вусце на ПдЗ ад в. Буросава Хоцімскага р-на. (Хоц.)

**ЦЯЦЕРЫНСКАЕ**, вдсх., на р. Друць, паміж г.п. Круглае і а/г Цяцерына, у межах Цэнтральна-Бярэзінскай раўн., з 1955 г., плаціннае, ГЭС. Пл. 460 га. Даўж. 9,5 км, шыр. да 0,8 км. Найб. глыб 8,8 м, сяр. – 1,8. Аб'ём вады 8,32 млн м$^3$. Пл. вдзб. 818 км$^2$, пад лесам 19%. Выкарыст. у мэтах энергет., рыбагад., рэкрэац. ЗАТ "Эксперыментальны рыбгасп. "Азёрны". (Кругл.)

**ЦЯЦЕРЫНСКАЕ**, рад., пясч.-жвір. матэр., у а/г Цяцерына Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ЦЯЦЕРЫНСКАЯ КРЫНІЦА**, крын., з жалезістай вадой, у а/г Цяцерына Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ЦЯЦЕРЫНСКІ С/С**, с/с Круглянскага р-на, на Пд р-на. Утвор. 20.08.1924 г. у Круглянскім р-не Аршанскай акр., з 26.07.1930 у Круглянскім р-не, з 25.07.1931 у Бялыніцкім р-не, з 12.02.1935 у Круглянскім р-не, з 20.02.1938 у тым жа р-не Магілёўскай вобл. з 16.09.1954 у Бялыніцкім р-не, 11.04.1960 ліквідаваны; зноў утвор. 18.03.1966, з 30.07.1966 у Круглянскім р-не. СПУП "АСБ Цяцерына" (а/г Цяцерына), ЗАТ "Эксперыментальны рыбгас "Азёрны". 24 снп, 573 двары, 1270 жых. (Кругл.)

# Ч

**ЧАБАЛДОСАЎ МОСТ**, л.м., за 3 км на ПдУ ад а/г Звянчатка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ЧАБАНАВА ЛАГЧЫНА**, ур., забалоч. с.-г. угоддзі, каля в. Шчокатава Дрыбінскага р-на. (Дрыб.)

**ЧАБАТАРШЧЫНА**, п., частка а/г Галоўчын Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ЧАВУСАЎШЧЫНА**, ур., леса-балотнае, за 1,9 км на ПнУ ад в. Вілейка, на ПнЗ ад г. Чавусы, на ПдЗ в. Забалацце. (Чав.)

**ЧАВУСКІ Г/С**, г/с Чавускага р-на, у ц. р-на, у 1926 – 1999 гг. (Чав.)

**ЧАВУСКІ ГАРАДСКІ ПАРК**, п. п., мясц. знач., з 1992 г., батан., у ц. г.Чавусы. Пл. 2,6 га. Гл. парк Чавускі. (Чав.)

**ЧАВУСКІ ПАРК**, парк, у г. Чавусы, спач. пейзажны, пасля рэканстр. – рэгулярны. Пл. 2,6 га. Закладз. у 1884 г. Пераваж. мясц. пароды: дуб звыч., таполя бел., ліпа драбналіст., клён вастралісты, ясень звыч., бяроз. павісл., граб звыч. З 1992 г. – п.п. мясц. знач. (Чав.)

**ЧАВУСКІ Р/С**, р/с Чавускага р-на, з 1999 г. СВК "Юны камунар" (в. Забалацце). 1 г., 7 снп, 206 двароў, 789 жых. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км² – 6 снп. (Чав.)

**ЧАВУСКІ РАЁН**, адм. сельскі р-н, у Ц частцы вобл., на У ад г. Магілёў, у міжрэччы рр. Раста і Проня, з 1924 г., 1471 км², 21,2 тыс. чал., з ц. – г. раён. падпарадкав. – Чавусы. Утвор. 17.07.1924 г. У 1924 – 1930 гг. у Магілёўскай акр. З 15.01.1938 г. у Магілёўскай вобл. У р-не: г. Чавусы, 8 с/с (Антонаўскі, Асінаўскі, Ваўкавіцкі, Вайнілаўскі, Гарбавіцкі, Каменкаўскі, Радамльскі, Сласцёнаўскі), 164 снп. У межах тэктан. Аршанскай упадз. Пароды падмурк. на глыб. 1000–1500 м. Магутн. парод верх. пратэразою да 900 м. На іх – вапнякі, даламіты, маргелі, пяскі і гліны сяр. дэвон. (250 – 400 м). Дэвон. слаі пакрыв. чорн. глінамі і шэр. слюдзіст. пяскамі позняй юры (20 – 25 м), адклад. мел. (20 – 100 м). Па далінах рр. Бася, Проня, Раста – мел. агаленні. Старажытн. адклады перакрыв. ледавік. і водна-ледавік. адклады антрапагену – пяскі, суглін. і лёсав. пароды (40 – 100 м). Размешч. на Аршанска-Магілёўскай раўн. Агульны нахіл тэр. з Пн на Пд. Рэльеф сфарм. марэн. і флювіягляц. адклад. сожскага ўзросту, на пэўн. уч-ках перакрытыя паазёрскімі лёсападобн. пародамі. Уздоўж рр. Проні і Басі размытыя канц.-марэн. утвар. Сожскага ледавіка. Пераваж. выш. 150–170 м н.у.м. (87%). Найб. выс. кропка – 203 м (на ПдУ ад в. Новааляксандраўка), сам. нізкая – урэз р. Проні – 134 м. Глыб. расчлян. рэльефу да 10-12 м/км². Рад.: мелу (па рр. Проня і Бася, вв. Усушак, Бардзінічы, Глінішча), суглінк., тугаплаўкіх глін (Скварск, ур. Бярозавае Балота, 745 тыс. м²), буд. пяскоў (2; Бардзінічы, Скварскае, 985 тыс. м²), пясч.-жвір. матэр. (369 тыс.м³, Кузьмініцкае), торфу (128; 7,1 млн т), мін. воды (крын. сан. "Раста"). Клімат умеран.-кантынент. Сяр. т-ра студз. -7,7°С, ліпеня +18,2°С. Ападкаў 642 мм у год. Вегетац. перыяд 186 сут. Найб. р. Проня з прав. прыт. Басяй і Растай (з Рудзеяй, Беліцай і Плясной). Вдсх. на р. Рудзея, 14 сажалак. 235 артэзіян. свідравін. Глебы с.-г. угоддзяў (%): дзярн.-падзол. – 48,6, дзярн.-падзол. забалоч. – 36,4, дзярн. забал. – 4,0; поймав. дзярн. – 7,6, тарф.-бал. – 2,8%. Паводле грануламетр. скл. (%): суглін. – 21,4, супясч. – 69,8, пясч. – 5,9, тарф. – 2,8. Плоскасная эрозія на 5,4% пл. ворыва, 4,1% ворыва завалунена. Сяр. банітэт глебаў 33 балы. Лясістасць – 32%. Склад лясоў (%): хвоя – 45,0, елка 38,0, бяр. – 8,8, асіна – 3,0, дуб – 2,1, чорная вольха – 1,9. У далінах рр. Проня і Бася дубравы. У забал. далінах – чарнавольх. лясы (алёсы-ольсы). Найб. л.м. – на Пн і У, найменш. – ПдЗ р-на. Больш за 4% лясоў штучныя. Агульн. пл. лугоў – 27,4 тыс. га, у т.л. сухадолы – 42,7 %, заліўн. – 29,0. 128 балот (пераваж. нізін.; 5 тыс. га). Сустрак. воўк, лісіца, барсук, лясная куніца, бабёр, выдра, норка; цецярук, шэрая курапатка і інш. Антрапаген. асвоен. краявідаў – 65,3%. 6 з.а. мясц. знач. Прыродахоўн. тэр.: 32 зак. мясц. знач., у т.л. 31 гідрал., 1 біялаг.; 4 п.п. мясц. знач.: 2 геалаг., 2 батан. Нас. – 21,2 тыс. чал. Мужч. – 47%, жан. – 53. Гарадское нас. – 50,5%, сельскае – 49,5. Сяр. шчыльнасць – 14,1 чал./км². Нац. склад (перапіс 2009, %): беларусы – 94,3, руск. – 4,1, укр. – 0,9, армяне – 0,2, палякі – 0,1. У зоне радыяц. забруджвання па цэзію-137 – 80 снп (больш за 1/2 колькасці): ад 5 да 15 Кі/км² – 15 снп; ад 1 да 5 Кі/км² – 65 снп. Пад с.-г. угоддзямі – 60,3% тэр. р-на. Спецыяліз.: мал.-мясн. жывёлагад., ільнавод., вырошчв. збож. і карм. культур, рапсу, бульбы, агародніны. 10 СВК ("К.-с "Свет Кастрычніка", "К.-с "Дужаўка", "К.-с "Антонаўскі", "Светлы Шлях", "К.-с "Серп і молат", "Сасновы Бор", "Мірны", "Сласцёны", "К.-с "Галавенчыцы", "К.-с "Асінаўскі"), ААТ: "Пронінскае", "Аграсервіс", "Дусен", ААТ "БулатКомпані", 10 фермер. гасп., 5 аграсядзіб. Прам.: харч. (масласыр., агароднінасуш., хлеб. з-ды), лёгк. (ільноз-д), буд. матэр. (ЖБВ, цагельны). Чыг. Крычаў – Магілёў (чыг. ст. Чавусы, Раста), аўтадарогі: Магілёў – Чэрыкаў, Магілёў – Слаўгарад, Магілёў – Мсціслаў. У р-не п-ка, раён. б-ца, сельск. б-ца, 4 урач. амбул., 26 ФАП, п-ка, 3 здраўпункты, 9 ДК, 18 клубаў, 25 б-к, ВВК, 12 шк., 9 к-саў шк.-сад, шк. мастац., дз.-юнацк. спарт. шк., дом дз. творч., 12 дашк. устаноў, дз. турбаза. Сан. "Рас-




## Умоўныя знакі

- ⊙ гарады абласнога падпарадкавання
- ○ гарады раённага падпарадкавання
- ○ гарадскія пасёлкі
- ● цэнтры сельскіх саветаў
- рэкі
- мяжа раёна
- чыгункі
- аўтадарогі

та" (вдсх. Рудзея), "Зара". Гіст.-краязн. музей. Помн. архітэкт.: рэшткі касцёла і кляштара кармелітаў (Чавусы, 1651 – 1882), царква (в. Благавічы, XIX ст.), кляштар кармелітаў (1619 – 1832, а/г Радамля). Помн. студэнтам Магілёўскага педін-та (в. Благавічы), ахвяр фашызму. Бр. магілы сав. воінаў і партызан. Радз.: С. Азарава, Гер. Сав. Саюза; І. Аношкіна, А. Емяльянава, В. Сідарэнкі пісьменнікаў; М. Бардзілоўскага, І. Багаслова, Р. Сініцына, А. Якімовіча, ген.; Я. Барысенкі, д.с.-г.н.; У. Бяркова, Ф. Канстанцінава, філосафаў; П. Дружынінай, спявачкі; А. Івіцкага, чл.-кар. НАНБ, меліяратара; К. Кармызава, Гер. сац. працы; У. Ксяндзова, гісторыка, д.г.н., праф.; М. Кірээва, В. Ральцэвіча, мастакоў; В. Лемцюговай, д.ф.н., мовазнаўцы і тапаніміста; П. Лярскага, геогр., пачын. суч. пач. прыродазнаўства, к.г.н., Ганар. чл. геаграф. т-ва; І. Макаранкі, медыка, д.м.н., праф.; І. Насовіча, уладал. залат. медалёў геаграф. т-ва, лексікографа, фалькларыста; М. Палякова, М. Рыжанкова, скульптараў; Ф. Пыталева, кампазітара; У. Рагуцкага, А. Ушакова, паэтаў; М. Хобатава, журналіста і інш. Выдаецца раён. газета "Іскра". (Чав.)

**ЧАВУСКІ С/С**, с/с Чавускага р-на, у 1924 – 1925 гг. Пераўтвор. 24.09.1926 г. у г/с. (Чав.)

**ЧАВУСОВІЧЫ**, в., да 1581 г. Папярэдніца г. Чавусы. (Чав.)

**ЧАВУСЫ**, г., раён. падпарадк., рц з 1924 г., на р. Бася, 10,7 тыс. жых. За 41 км ад г. Магілёў, 5 км – ад чыг. ст. Чавусы. Вузел аўтадарог на Магілёў, Крычаў, Мсціслаў, Чэрыкаў. Згадв. з XVI ст. як в. Чавусовічы, г. – з 1604 г. У 1634 г. нададз. Магдэбургскае права з гербам. Руйнаваўся, рабаваўся пад час вайны 1654 – 1667 г., у 1708 г. У пач. 1770-х гг. – 2,5 тыс. чал. З 1772 г. у Рас. імп., ц. пав. Магілёўскай губ. (да 1918 г.). У 1897 г. – 4,7 тыс. жых., 5 цэркваў, 30 крам, 4 кірмашы на год. У 1919 – 1924 гг. у Гомельскай губ. РСФСР. З 1924 – у БССР. Ц. р-на з 17.07.1924. У 1939 г. – 7,2 тыс. жых. З 15.07.1941 да 25.06.1944 г. пад фашысцк. акупац. У 1959 г. – 7,8 тыс. жых. Прац. масласыр. з-д, агародніна-суш. з-д, хлебаз-д, ільноз-д, цагельны, к-т каапхрама, з-д ЖБВ, АБЗ, друкарня, МПМК-278, МПК-98, ДРСУ-176, ДБУ-58, АП № 10, АК № 7, ААТ "Аграсервіс", ААТ "Сельгасхімія". Гіст.-краязн. музей. Парк. Касцёл і кляштар кармелітаў (1651 – 1882). Радз.: М. Арасланава, мастака; В. Кашаваравай-Рудневай /Нафанавай/, перш. у Расіі жанч. – докт. медыц.; І. Катлярова, паэта і пісьменніка; А. Разумава, медыка, чл.-кар. РАМН; С. Маргунскага, юрыста, праф.; У. Маркава, д.т.н., праф.; У. Кудрэвіча, мастака; Л. Юркевіча (Ю.Лявонны), паэта, празаіка; А. Драздова, пісьменніка; Л. Маневіча, Гер. Сав. Саюза, разведчыка, прататыпа Шцірліца; В. Мельнікава, ген.-лейт.; М. Панфіловіча, ген.-маёра і інш. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². (Чав.)

**ЧАВУСЫ**, чыг. ст., на чыг. Крычаў – Магілёў Чавускага р-на, за 5 км ад г. Чавусы. У скл. г. Чавусы. (Чав.)

**ЧАВЭЛАВА ЛЯДА**, ур., с.-г. угоддзі, у лесе, на У ад в. Кішчыцы Дрыбінскага р-на. (Дрыб.)

**ЧАЕНКА, ЧАЕНКІ**, р., пр. прыт. р. Бася (бас. р. Сож). Даўж. 9 км. Выток за 2 км на З ад в. Старыя Чамаданы, вусце на У ускр. а/г Гарадзішча Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ЧАЕНКІ**, р. Гл. р. Чаенка Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ЧАЕЦАВА МЕСЦА**, ур., с.-г. угоддзі на ПнУ ад в. Клімавічы Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ЧАЕШНІК**, ур., лясное, за 1,5 км на З ад в. Аршані Горацкага р-на. (Гор.)

**ЧАЙКІ**, в. Гл. в. Стайкі Магілёўскага р-на. (Маг.)

**ЧАЙКІ**, х., да 1940-х гг. у Горацкім р-не. Ліквідаваны. (Гор.)

**ЧАЙКІНА БАЛОТА**, ур., забалоч. с.-г. угоддзі, каля а/г Сласцёны Чавускага р-на. (Чав.)

**ЧАЙКОЎ ХУТАР**, п., частка в. Клімавічы Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ЧАЙКОЎ ХУТАР**, х., да 1932 г. у Чарнаруцкім с/с Шклоўскага р-на. Ліквідаваны. (Шкл.)

**ЧАЛАЯ КРЫНІЦА**, л.м., за 1,5 км на Пн ад в. Патаронаўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ЧАЛЫ ХУТАР**, л.м., за 1,4 км на Пн ад в. Патаронаўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ЧАМАДАНСКАЕ БАЛОТА**, ур., лесабалотнае, на У ад в. Новыя Чамаданы Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ЧАМАДАНСКАЯ ПЯЧОРА**, пячора каля в. Новыя Чамаданы Шклоўскага р-на (Шкл.)

**ЧАМАДАНЫ**, в. Гл. в. Старыя Чамаданы Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ЧАМАЛУДЗІШЫН ВІР**, вір, на р. Пціч, у а/г Падлужжа Глускага р-на. (Глуск.)

**ЧАМЯРЫЧНЫ РОЎ**, яр, першы на Пн ад в. Гайшын, з руч. Чамярычны, на Пн ад в. Гайшын Слаўгарадскага р-на. 2 старажытн. стаянкі. (Слаўг.)

**ЧАМЯРЫЧНЫ**, руч., у яры Чамярычны, пр. прыт. р. Сож (бас. р. Дняпро). Выток на ПнЗ, вусце на ПнУ ад б. в. Гайшын Слаўгарадскага р-на. Даўж. 3 км. Вар. назвы – руч. Чамярышынка. (Слаўг.)

**ЧАМЯРЫШЫНА**, рад., мелу, частка рад. Гайшынскае, за 0,2 км на ПнУ ад в. Гайшын Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ЧАМЯРЫШЫНКА**, руч. Гл. руч. Чамярычны Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ЧАПАЕВА**, в. Вар. назвы – в. Паўлавічы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ЧАПАЕВА**, в., з 1920-х гг. у Слаўкавіцкім с/с Глускага р-на, 21 двор, 28 жых., ф. (Глуск.)

**ЧАПАЕВА, ЧАПАЕЎКА**, мкр-н, на Пн г. Магілёў, паміж мкр-намі Чыгуначны, Саломінка, Дубянец, Фестывальны. (Маг.)

**ЧАПАЕЎКА**, мкр-н. Гл. мкр-н Чапаева. (Маг.)

**ЧАПІНКІ**, л.м., за 1,5 км на ПдЗ ад в. Судзілы Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ЧАПІНЫ**, ур., леса-балотнае, на З ад в. Акунёўка Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ЧАПЛЯЁЎКА**, в., Копцеўскі с/с Горацкага р-на, 10 двароў, 16 жых. (Гор.)

**ЧАПУРКІНА ГАРА, МАРДАЛЫСАВА**, пагорак, на Пд ад в. Свярдлова Мсціслаўскага р-на, на Пн ад ур. Чапуркіна. Другая па выш. у вобл. 234,6 м. (Мсц.)

**ЧАПУРКІНА**, в., да 2000 г. у Падсолтаўскім с/с Мсціслаўскага р-на. Ліквідавана. (Мсц.)

**ЧАПУРКІНСКІЯ АГАРОДЫ**, ур., с.-г. угоддзі з пагоркам, на Пн б. в. Чапуркіна Мсціслаўскага р-на. Вышыня 234,6 м н.у.м. (Мсц.)

**ЧАПУРЫНА ГАРА**, пагорак, у в. Забычанне Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ЧАПЯЛІНКА**, в., Добраўскі с/с Горацкага р-на, 43 двары, 73 жых. Спалена фашыстамі ў 1941 г. Пасля вайны адноўлена. Да 1950-х гг. – торфаз-д. (Гор.)

**ЧАПЯЛІНСКАЕ БАЛОТА**, балота, на З ад г. Горкі. Пл. 80 км². (Гор.)

**ЧАПЯЛІНСКАЕ**, рад., торфу, на З ускр. балота Чапялінскае Горацкага р-на. (Гор.)

**ЧАПЯЛІНСКАЯ ПУШЧА**, л.м. Гл. Чапялінскі Лес Горацкага р-на. (Гор.)

**ЧАПЯЛІНСКІ ЛЕС**, л.м., на З ад г. Горкі, да р. Бася. Раней – Чапялінская Пушча. (Гор.)

**ЧАПЯЛІНСКІ МОХ**, ур., забалоч. нізіна, на Пн ад в. Чапялінка Горацкага р-на. (Гор.)

**ЧАРАБАМІР**, в., Стайкаўскі с/с Кіраўскага р-на, 6 двароў, 7 жых., дом сац. пасл. Магіла ваенфельч. Ф. Ананіча, магіла невядом. сав. лётчыка. У 1847 г. – шклоз-д, царк. шк., хлебазап. крама, у 1897 г. – 364 жых., у 1911 – 1917 земск. шк. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². (Кір.)

**ЧАРАБАМІР**, фальв., да 1920-х гг. у Стайкаўскім с/с Кіраўскага р-на. Ліквідаваны. У 1897 г. – 12 жых. (Кір.)

**ЧАРАБАМІРКА**, р., левы прыт. р. Белая (бас. р. Друць). Даўж. 17 км. Выток за 2 км на У ад в. Скачок, вусце за 1,8 км на ПдУ ад в. Чарабамір Кіраўскага р-на. Пл. вдзб. 60 км², пад лесам 73%. У ніжн. цяч. (ад в. Зялёная Рошча) каналізав. Старажытн. назва Церабамірка. (Кір.)

**ЧАРАВАЦКАЕ ВОЗЕРА**, вдсх., у в. Новая Арэхаўка Клічаўскага р-на, з 1983 г., запруднае. Даўж. 2 км. Вар. назвы – Новае Возера. (Кліч.)

**ЧАРАВАЦКІ КАНАЛ**, канал, меліярац., пр. прыт. р. Нясята (бас. р. Дняпро), у Клічаўскім р-не. Даўж. 6,4 км. Пачын. каля Пн ускр. а/г Арэхаўка, упад. у р. Нясята ў в. Чаравач (Кліч.)

**ЧАРАВАЧ**, в., Нясяцкі с/с Клічаўскага р-на, 31 двор, 72 жых., ф. (Кліч.)

**ЧАРАЛОСАЎ**, ур., лясное, каля в. Бёрда Клічаўскага р-на. Вар. назвы – ур. Чаралосаўка. (Кліч.)

**ЧАРАЛОСАЎКА**, ур. Гл. ур. Чаралосаў Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**ЧАРАПАХА**, ур., леса-балотнае, на З в. Поўстка Глускага р-на. (Глуск.)

**ЧАРАПІЧНЫ**, мкр-н, на З г. Бабруйск, на шашы Бабруйск-Асіповічы. (Бабр.)

**ЧАРАПЫ**, в., Фашчаўскі с/с Шклоўскага р-на, вядом. з 1604 г., 34 двары, 46 жых., крама, вытв. уч-к КУСП "Э/б "Спартак". Радз. В. Раінчыка, музыканта, заснав. ВІА "Верасы". (Шкл.)

**ЧАРАЧЧА**, балота, паміж а/г Мушына і в. Пірагова Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**ЧАРЁТЫ**, ур., забалоч. с.-г. угоддзі, на пр. забалоч. бер. р. Беседзь, на Пд ад в. Янаполле Хоцімскага р-на. (Хоц.)

**ЧАРНАБЕЛЬ**, в. Гл. в. Чарнобыль Заводскаслабодскага с/с Магілёўскага р-на. (Маг.)

**ЧАРНАБОРСКІ С/С**, с/с, на ПнЗ Быхаўскага р-на. Утвор. 20.08.1924 г. як Балонавасялецкі с/с. 18.02.1972 г. перайменав. у Чарнаборскі с/с. СВК "Дуброва" (а/г Дуброва). 36 снп, 856 двароў, 1731 жых. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км² – 30 снп, ад 5 да 15 – 6 снп. (Бых.)

**ЧАРНАВОДКА** р., левы прыт. р. Вабіч (бас. р. Друць). Даўж. 14 км. Выток – Безыменнае (Палыкавіцкае), на З ад в. Палыкавічы, вусце ў в. Ступляны Шклоўскага р-на. Пл. вдзб. 83 км². Пад лесам – 21%. Вар. назваў – Альхоўка, Вабіч, Левы Вабіч. (Шкл.)

**ЧАРНАВУСЫ**, в., Ракшынскі с/с Мсціслаўскага р-на, 16 двароў, 18 жых. У 1897 г. 19 двароў, 126 жых. У 1976 г. далуч. вв. Казіна, Цімошкава. (Мсц.)

**ЧАРНАВУСЫ**, фальв., да 1920-х гг. у Ракшынскім с/с Мсціслаўскага р-на. Ліквідаваны. У 1897 г. 1 двор, 17 жых. (Мсц.)

**ЧАРНАВУСЫ**, х., да 1930-х гг. у Ракшынскім с/с Мсціслаўскага р-на. Ліквідаваны. У 1897 г. – 1 двор, 4 жых. (Мсц.)

**ЧАРНАВУТКА**, р., пр. прыт. р. Чарняўка (бас. р. Дняпро) у Касцюковіцкім р-не. Даўж. 9 км. Выток на Пд ад в. Рвенск, вусце каля в. Саматэвічы. На бер. у в. Саматэвічы знах. хата бацькоў паэта А. Куляшова. Вар. назвы – р. Чарналужжа пасля ўпад. руч. Чарналужжа (справа). (Касц.)

**ЧАРНАЗЁМ**, ур., лясное, на У ад в. Аляксандраўка Чавускага р-на. (Чав.)

**ЧАРНАЗЁМАЎКА**, в., Дашкаўскі с/с Магілёўскага р-на, 20 двароў, 48 жых. (Маг.)

**ЧАРНАЗЁМАЎКА**, чыг. ст., Дашкаўскі с/с Магілёўскага р-на, на чыг. Магілёў – Быхаў, 9 двароў, 16 жых. (Маг.)

**ЧАРНАКОЛЬШЧЫНА**, ур., с.-г. угоддзі, сенажаць, па р. Пціч, у в. Птушычы Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**ЧАРНАЛЕССЕ**, в., да 2004 г. у Верхнятошчыцкім с/с Быхаўскага р-на. Ліквідавана. (Бых.)

**ЧАРНАЛУЖКА**, р. Вар. назвы – р. Чарнавутка. (Касц.)

**ЧАРНАЛУЖКА**, р., пр. прыт. р. Чарнавутка (бас. р. Беседзь). Даўж. 1 (раней 10) км. Выток на ПнЗ ад в. Рвенск, вусце каля в. Рвенск. Рэчышча перасых. (Касц.)

**ЧАРНАРУЦКІ ЛЕС**, ур., лясное, на ПнУ ад а/г Чарнаручча Шклоўскага р-на. У 1863 г. – база паўстанцаў. (Шкл.)

**ЧАРНАРУЦКІ С/С**, с/с Шклоўскага р-на, на ПдЗ р-на. Утвор. 20.08.1924 г. у Шклоўскім р-не Магілёўскай акр., з 26.07.1930 у Шклоўскім р-не, з 20.02.1938 у тым жа р-не Магілёўскай вобл. ЗАТ "Палыкавіцкае" (в. Клімавічы). 11 снп, 332 двары, 683 жых. (Шкл.)

**ЧАРНАРУЧЧА НОВАЕ**, в. Гл. а/г Чарнаручча Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ЧАРНАРУЧЧА**, а/г, ц. с/с Шклоўскага р-на, вядом. з XVII ст як вв. Чарнаручча Старое, Чарнаручча Новае, 114 двароў, 281 жых., п/а, аддз. ААБ "Беларусбанк", амбул., б-ца, д/с-СШ, б-ка, КПП, крама, мал.-тав. к-с, аграсядз. "Лясное". Гарадзішча, кург. могільнік. Да 1924 г. – ц. вол. Да рц – 23, да чыг. ст. Шклоў – 25 км. (Шкл.)

**ЧАРНАРЭЧКА**, в., Расненскі с/с Дрыбінскага р-на, 6 двароў, 10 жых. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. (Дрыб.)

**ЧАРНАРЭЧКА**, р., пр. прыт. р. Вербаўка (бас. р. Сож) у Дрыбінскім р-не. Даўж. 3 км. Выток на Пн ускр. в. Зубаўка, на Пд ад в. Чарнарэчка, вусце на ПдУ ад в. Зубаўка. (Дрыб.)

**ЧАРНАТОПКА**, руч., левы прыт. р. Чорная Натапа (бас. р. Дняпро). Даўж. 4,4 км. Выток у Пн частцы в. Валоўнікі, вусце на мяжы з Крычаўскім р-нам, за 1,5 км на Пд ад в. Валоўнікі Мсціслаўскага р-на. У в. Валоўнікі плаціна і сажалка. (Мсц.)

**ЧАРНАЎКА**, р., левы прыт. р. Лахва (бас. р. Дняпро) у Магілёўскім р-не. Даўж. каля 5 км. Выток на У ад в. Галынец II, вусце каля в. Галынец I. (Маг.)

**ЧАРНАЎКА**, р., пр. прыт. р. Рудзея (бас. р. Раста), у Магілёўскім і Чавускім р-нах. Даўж. 13 км. Выток на ПдЗ ад в. Шчэжар I Магілёўскага р-н, вусце на мяжы р-наў, на У ад в. Галяні I. Вдзб. 64 км², пад лесам 17%. Вар. назваў – Чарняўка, Чарнева. (Маг., Чав.)

**ЧАРНАЎЦЫ**, в., Каменскі с/с Чавускага р-на, вядом. з 1635 г. як с. Чэрна, 10 двароў, 11 жых. Кург. могільнік. У 1742 г. – 16 двароў, сукнавальня, карчма, у 1897 – 271 жых., у 1940 – 240 жых. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. (Чав.)

**ЧАРНАЎЦЫ**, пастаялы двор, да 1920-х гг. у Благавіцкім с/с Чавускага р-на. Ліквідаваны. У 1897 г. – 1 двор, 8 жых. (Чав.)

**ЧАРНЕВА**, р. Гл. р. Чарняўка Магілёўскага і Чавускага р-наў. (Маг., Чав.)

**ЧАРНЕНКАВА БАЛОТА**, ур., забалоч. с.-г. угоддзі, на У ад а/г Бароңькі Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ЧАРНЕЦ КЛІМАВІЦКІ**, ур., с.-г. угоддзі, за 1,5 км на Пн ад в. Рудня Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ЧАРНЕЦ КРЫЧАЎСКІ**, ур., с.-г. угоддзі, на Пд ад в. Каменка Крычаўскага р-на, на мяжы з Клімавіцкім р-нам. (Крыч.)

**ЧАРНЕЦ**, п, да 1930-х гг. у Старынскім с/с Слаўгарадскага р-на. Ліквідаваны. (Слаўг.)

**ЧАРНЕЦ**, руч., левы прыт. р.Беседзь (бас. р. Сож). Даўж. 9 км. Выток за 3 км на У ад в. Варвараўка Хоцімскага р-на, вусце на ПдУ ад г.п. Хоцімск. (Хоц.)

**ЧАРНЕЦ**, ур., с.-г. угоддзі, за 3,5 км на У ад в. Крамянка Слаўгарадскага р-на. Гл. ур. Сідараўка. (Слаўг.)

**ЧАРНІКЕВІЧАВА**, ур., с.-г. угоддзі, на Пн ад в. Кляшчоўка Глускага р-на. (Глуск.)

**ЧАРНІЛАВА**, в., Лютненскі с/с Мсціслаўскага р-на, вядом. з 1660 г., 25 двароў, 41 жых. У 1654 – 1667 гг. знішч. руск. войскамі. У наваколлі – 2 селішчы.У 1897 г. – 72 жых. Курган. (Мсц.)

**ЧАРНІЛАВА**, фальв., да 1920-х гг. у Лютненскім с/с Мсціслаўскага р-на. Ліквідаваны. У 1897 г. – 1 двор, 7 жых. (Мсц.)

**ЧАРНІЦА**, в., Сычкаўскі с/с Бабруйскага р-на, 9 двароў, 12 жых. (Бабр.)

**ЧАРНІЦА**, в., Сычкаўскі с/с Бабруйскага р-на, 14 двароў, 24 жых. Бр. магіла сав. воінаў. (Бабр.)

**ЧАРНІЦА**, р., левы прыт. р. Дняпро (бас. Чорнага мора). Даўж. 14 км. Выток на У ад в. Вялікія Славені, вусце за 5 км на З ад в. Сапронькі Шклоўскага р-на. Гал. прыт. – р. Каменка (справа). Вдсх. у в. Сапронькі. Вар. назваў – Чарніцы, Чэрніца, Гадзеўля. (Шкл.)

**ЧАРНІЦКІ РОЎ**, ур., лясное, каля в. Прыбар Бялыніцкага р-на (Бял.)

**ЧАРНІЦЫ**, р. Гл. р. Чарніца Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ЧАРНІЦЫ**, р., левы прыт. р. Бася (бас. р. Дняпро). Даўж. 12 км. Выток за 1,5 км на ПдЗ ад в. Рабкі, вусце за 0,5 км на З ад в. Праабражэнск Дрыбінскага р-на. (Дрыб.)

**ЧАРНІЧНЫ**, п., Саўскі с/с Горацкага р-на, 8 двароў, 13 жых. Спалены фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлены. (Гор.)

**ЧАРНІШНІК**, ур., захмызаван. с.-г. угоддзі, за 6 км на ПдУ ад в. Пачапы Краснапольскага р-на. Праяўлен. цаг.-чарапічн. сыравіны. (Краснап.)

**ЧАРНОБЫЛЬ**, в., Заводскаслабодскі с/с Магілёўскага р-на, 7 двароў, 12 жых. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². Вар. назвы – в. Чарнабель. (Маг.)

**ЧАРНОЎКА**, руч. Гл. Чарняўка Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ЧАРНУШКА**, р., левы прыт. р. Вілейка (бас. р. Дняпро). Даўж. 7,6 км. Выток на ПнУ ускр. в. Лапені, упад. у сажалку, што ўтвор. плацінай на р. Вілейка, на Пн ад в. Юшкавічы Чавускага р-на. Рэчышча каналізав. (Чав.)

**ЧАРНЫШКІ**, л.м., за 1,5 км на Пд ад в. Гута Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ЧАРНЫШОВА**, ур., с.-г. угоддзі, на ПнУ ад в. Шапялёўка Горацкага р-на. (Гор.)

**ЧАРНЫШОВА, ЧАРНЫШОЎ**, х., да 1920-х гг. у Маслакоўскім с/с Горацкага р-на. Ліквідаваны. (Гор.)

**ЧАРНЫШЫН**, п., Верамейскі с/с Чэрыкаўскага р-на, 3 двары, 3 жых. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². (Чэр.)

**ЧАРНЫШЫН**, п., да 1940-х гг. у Гіжэнскім с/с Слаўгарадскага р-на. Ліквідаваны. (Слаўг.)

**ЧАРНЫШЭЎШЧЫНА**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Дуброва Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ЧАРНЯКОЎКА**, в., Свенскі с/с Слаўгарадскага р-на, вядом. з XIX ст., 52 двары, 121 жых. Бр. магіла сав. воінаў. У 1884 г. – 502 жых., у 1926 – 644. Ц. с/с у 1924 – 1954 гг. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 5 да 15 Кі/км². (Слаўг.)

**ЧАРНЯКОЎКА**, ур., с.-г. угоддзі, за 2,5 км на У ад в. Фядотаўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ЧАРНЯКОЎСКІ С/С**, с/с Слаўгарадскага р-на, у 1924 – 1954 гг. Утвор. 20.08.1924 г. у Прапойскім р-не Магілёўскай акр., з 26.07.1930 у Прапойскім р-не, з 20.02.1938 у тым жа р-не Магілёўскай вобл., з 25.02.1945 у Слаўгарадскім р-не. Ліквідаваны 16.07.1954 г. Тэр. с/с далуч. да Прудоцкага с/с. (Слаўг.)

**ЧАРНЯНСКАЕ**, воз. Гл. воз. Чорнае Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ЧАРНЯНСКІ С/С**, с/с Шклоўскага р-на, у 1924 – 1954 гг. Утвор. 20.08.1924 г. у Шклоўскім р-не Магілёўскай акр., з 26.07.1930 у Шклоўскім р-не, з 20.02.1938 у тым жа р-не Магілёўскай вобл. Ліквідаваны 16.07.1954 г. Тэр. с/с далуч. да Чарнаруцкага с/с. (Шкл.)

**ЧАРНЯЎКА**, в., да 1930-х гг. у Бяседавіцкім с/с Хоцімскага р-на. Ліквідаваны. (Хоц.)

**ЧАРНЯЎКА**, в., да 1990-х гг. у Трасцінскім с/с Хоцімскага р-на. Ліквідавана. (Хоц.)

**ЧАРНЯЎКА**, в., ц. с/с Хоцімскага р-на, вядом. з XVIII ст., 55 двароў, 112 жых., п/а, ФАП, СДК, б-ка, сац. пункт, крама, аграсядз. "Шчодры гаспадар". Радз.: А. Мінкіна, паэта, празаіка; Я. Сусько, Гер. Сав. Саюза. Магіла сав. воіна. Помн. землякам. У 1975 г. далуч. в. Максімаўка. Да рц – 26, да чыг. ст. Камунары – 19 км. (Хоц.)

**ЧАРНЯЎКА**, маёнтак, да 1917 г. у Чавускім р-не, на р. Бася. Ліквідаваны. (Чав.)

**ЧАРНЯЎКА**, маёнтак, да 1920-х гг. у Хоцімскім р-не. Ліквідаваны. У 1852 – 1862 гг. – цукров. мануф. (Хоц.)

**ЧАРНЯЎКА, ПЕРАСУХА, БЯСІТА**, р., , пр. прыт. р. Гутлянка (бас. р. Дняпро) у Быхаўскім р-не. Даўж. 20 км. Выток на У ўскр. в. Доўгае, вусце за 1 км на Пд ад в. Вецъ. Пл. вдзб. 95 км². У ніж. цяч. каналізав. (Бых.)

**ЧАРНЯЎКА**, р. Гл. р. Чарнаўка, Чарнец у Магілёўскім і Чавускім р-нах. (Маг., Чав.)

**ЧАРНЯЎКА**, р., пр. прыт. р. Беседзь (бас. р. Сож) у Касцюковіцкім р-не. Даўж. 17 км. Выток канавай за 2 км на У ад в. Рвенск, вусце на Пд в. Кісялёўка. Пл. вдзб. 83 км². Гал. пр. р. Чарнавутка (справа). Рэчышча ў верх. цяч. каналізав. (Касц.)

**ЧАРНЯЎКА**, р., пр. прыт. р. Ржаўка (бас. р. Дняпро) у Чавускім р-не. Даўж. 8,4 км. Выток за 1 км на У ад в. Ісакава Буда, вусце за 0,5 км на ПдЗ ад а/г Ваўкавічы. Рэчышча ў верх. і сяр. цяч. каналізав. (Чав.)

**ЧАРНЯЎКА**, р., пр. прыт. р. Старая Ухлясць (бас. Дняпро). Даўж. 12 км. Выток за 2 км на У ад а/г Баркалабава, вусце за 3 ад п. Салаўіха Быхаўскага р-на. Каналізаванае. (Бых.)

**ЧАРНЯЎКА**, руч., левы прыт. р. Лахва Даўж. 8 км. Выток каля в. Бутрымаўка, вусце за 1 км на З ад в. Галынец І Магілёўскага р-на. (Маг.)

**ЧАРНЯЎКА**, руч., пр. прыт. р. Асліўка (бас. р. Друць). Даўж. 8 км. Выток на З ад в. Буднікі, вусце в. Дзевашычы Бялыніцкага р-на. Вар. назвы – р. Чарноўка. (Бял.)

**ЧАРНЯЎКА**, руч., пр. прыт. р. Аўсовіна (бас. р. Сож), у Слаўгарадскім і Кармянскім р-нах. Даўж. 6 (у р-не 5) км. Выток на ПнЗ ад в. Чарнякоўка Слаўгарадскага р-на, цячэ паміж вул. в. Чарнякоўка, вусце ў Кармянскім р-не. Перасых. (Слаўг.)

**ЧАРНЯЎКА**, ур., с.-г. угоддзі, за 2,1 км на Пн ад в. Варвараўка, на Пн ад руч. Чарнец. (Хоц.)

**ЧАРНЯЎСКІ С/С**, с/с Хоцімскага р-на, на З р-на. Утвор. 20.08.1924 г. у Хоцімскім р-не Калінінскай акр., з 2609.1927 у Хоцімскім р-не Магілёўскай акр., з 26.07.1930 у Хоцімскім р-не, з 08.07.1931 у Касцюковіцкім, з 12.02.1935 у Хоцімскім р-не, 20.02.1938 у Магілёўскай вобл., з 17.04.1962 у Касцюковіцкім, з 30.07.1966 у Хоцімскім р-не. СВК "Авангард–Ельня" (а/г Ельня), 10 снп, 264 двары, 611 жых. (Хоц.)

**ЧАРНЯЎСКІЯ ХУТАРЫ**, ур., с.-г. угоддзі, у а/г Антонаўка Чавускага р-на. (Чав.)

**ЧАРОМУШКІ**, в., з 1969 г. у Кадзінскім с/с Магілёўскага р-на, ц. РУСВП "Магілёўскае дзяржплемпрадпрыемства", 167 двароў, 454 жых., п/а, ФАП, 2 крамы, спарт. к-с "Бурштын". (Маг.)

**ЧАРОМХА**, р., пр. прыт. р. Аслік (бас. р. Дняпро). Даўж. 6 км. Выток на ПдЗ ад а/г Вялікая Машчаніца, вусце на ПнУ а/г Вялікая Машчаніца Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ЧАРОМХА**, руч., левы прыт. р. Ліса (бас. р. Пціч). Даўж. 11 км. Выток за 2,5 км на ПнЗ ад в. Нязнанне, вусце каля в. Прыплавы Глускага р-на. (Глуск.)

**ЧАРОТ**, в., да 1967 г. у Пагарэльскім с/с Асіповіцкага р-на. Ліквідавана. (Асіп.)

**ЧАРОТ**, ур., с.-г. угоддзі, на нЗ ад в. Амінавічы Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**ЧАРОТЫ**, ур., с.-г. угоддзі, сенажаць, у в. Негаўля Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ЧАРТАЎЦОВА ПОЛЕ**, ур., с.-г. угоддзі, луг, за 3 км на Пн ад а/г Капачы Мсціслаўскага р-на. Пл. каля 2 га. (Мсц.)

**ЧАРТКОЎ ВУГАЛ**, л.м., за 0,1 км на У ад в. Гусарка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ЧАРТОЎШЧЫНА**, в., да 1969 г. у Кароўчынскім с/с Дрыбінскага р-на. Гл. в. Сонечная. (Дрыб.)

**ЧАРТОЎШЧЫНА**, ур., леса-балотнае, на ПнУ ад в. Старая Буда Чавускага р-на, на пр. бер. р. Чарнушка. Пл. каля 60 га. (Чав.)

**ЧАРЦІЛАЎКА**, ур., лясное, на Пн ад в. Рабавічы Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ЧАРЦЯЖЫ**, ур., с.-г. угоддзі, поле СВК імя К. Маркса Клічаўскага р-на. Пл. 20,2 га. (Кліч.).

**ЧАРЧОНАЎКА**, в., Пралетарскі с/с Касцюковіцкага р-на, вядом. з XIX ст., 2 двары, 3 жых. Радз. С. Ісачанкі, пісьменніка. (Касц.)

**ЧАРЧОНАЯ**, в., з 1920-х гг. у Батаеўскім с/с Хоцімскага р-на, 8 двароў, 13 жых., дом сац. паслуг. (Хоц.)

**ЧАРЭНКІ**, в., Ваўкавіцкі с/с Чавускага р-на, вядом. з XVII ст., 51 двор, 128 жых., АТС, ФАП, клуб, крама, ф. 2 гарадзішчы. У 1635 г. с. Кішыцы (Чарэнкі), 22 двары, у 1742 г. – 21 двор, шынок, у 1897 – 356 жых., шк., хлебазап. крама, у 1940 – 320 жых. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 5 да 15 Кі/км². (Чав.)

**ЧАТЫРОХДВОРКА**, в., да 1930-х гг. у Батаеўскім с/с Хоцімскага р-на, паміж вв. Дубраўка і Труд Хоцімскага р-на. Ліквідавана. (Хоц.)

**ЧАТЫРОХДВОРКА**, ур., с.-г. угоддзі, паміж вв. Дубраўка і Труд Хоцімскага р-на. (Хоц.)

**ЧАТЫРЫ ВЕЖЫ**, ур., с.-г. угоддзі, на ПдУ а/г Цяхцін Бялыніцкага. (Бял.)

**ЧАЎЛАЕВА**, ур., лясное, на У в. Кляшчоўка Глускага р-на. (Глуск.)

**ЧАЎНЫ**, п., да 1937 г. у Акцябрскім с/с Клічаўскага р-на. Перайменав. у п. Леніна. Гл. п. Леніна. (Кліч.)

**ЧАХЛОЎ ХУТАР**, х., да 1920-х гг. у Грыбавецкім с/с Кіраўскага р-на. Ліквідаваны. (Кір.)

**ЧАХЛОЎШЧЫНА**, ур., с.-г. угоддзі, за 2 км на З ад в. Шалаёўка Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ЧАЧАВЕЦ**, р., пр. р. Беседзь (бас. р. Сож) у Хоцімскім р-не. Даўж. 10 км. Выток паміж вв. Кацярынполле і Паўлаўка, вусце – у а/г Баханы. (Хоц.)

**ЧАЧОРАЎКА**, в., Кабінагорскі с/с Слаўгарадскага р-на, вядом. з XIX ст. як фальв. на р. Чычарка, 17 двароў, 29 жых., дом сац. пасл., прадпр. па забеспяч. нафтапрад., УППТП "Блакітная крыніца". У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 5 да 15 Кі/км². (Слаўг.)

**ЧАЧОРАЎКА**, руч. Гл. руч. Чычарка Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ЧАЧОРСКАЯ РАЎНІНА**, фіз.-геаграф. р-н, водна-ледавік.-марэн. раўн. Перадпалесся, на ПдУ Беларусі, прымеркав. да Жлобінскай седлавіны. Займае Пд частку вобл. – на тэр. Быхаўскага, Касцюковіцкага, Краснапольскага, Крычаўскага, Магілёўскага, Слаўгарадскага, Хоцімскага, Чавускага р-наў. Пераваж. выш. 140 – 190 м н.у.м. Адклад. дняпроўскага і сожскага зледзян. Каля Слаўгарада – змытыя канцова-марэн. грады. Камавыя пагоркі (каля г. Слаўгарад) Рад.: гліны, пясч.-жвір. матэр., мел, сапрапелі, торф. Гал. р. Сож з прыт. Проня, Ліпа, Пацэя, Галуба, Касалянка, Покаць, Беседзь. Разарана 50%. Пад лесам – 30%. Вар. назвы – Чачэрская раўн. (Бых., Касц., Краснап., Крыч., Маг., Слаўг., Хоц., Чав.)

**ЧАЧЫРА**, руч. Гл. руч. Чычарка Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ЧАЧЭВІЦКІ РАЁН**, адм. сельск. р-н, у 1924 – 1931 гг. Утвор. 17.07.1924 г. У 1924 – 1930 гг. у Магілёўскай акр. Ц. – мяст. Чачэвічы. 10 с/с. Скасав. 08.07.1931 г. Тэр. перададз. Клічаўскаму і Быхаўскага р-нам. (Бых., Кліч.)

**ЧАЧЭВІЧЫ**, в., Чарнаборскі с/с Быхаўскага р-на, 157 двароў, 269 жых., п/а, АТС, ФАП, СШ, клуб, б-ка, крама, буфет, аўтаст., аддз. філ. НДІ радыяц. мед., спарт.-аздараўл. ц. "Радуга", 3 б.а. Аграсядз. "Вялікая Пуня", "Вясковы адпачынак", "Друць", "Галеон", "У Ягоравіча", "Благадаць", "Рыбацкі двор". Месца знах. скарбу. Помн. землякам. У 1924 – 1931 гг. – ц. р-на. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². (Бых.)

**ЧАЧЭРА**, руч. Гл. руч. Чычарка Слаўгарадскага р-на. Вар. назваў – Чачэраўка, Чачораўка, Чачыра. (Слаўг.)

**ЧАЧЭРАЎКА**, руч. Гл. руч. Чычарка Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ЧАЧЭРСКАЯ РАЎНІНА**, раўн. Гл. Чачорская раўн. (Бых., Касц., Краснап., Крыч., Маг., Слаўг., Хоц., Чав.)

**ЧАШНІКІ**, в., Горацкі с/с Горацкага р-на, 12 двароў, 18 жых. Ц. с/с у 1924 – 1925 гг. (Гор.)

**ЧАШНІЦКІ С/С**, с/с Горацкага р-на, у 1924 – 1925 гг. Перайменав. ў Макараўскі 21.08.1925 г. (Гор.)

**ЧВЭРТКІ**, п., да 1940 г. у Мушынскім с/с Мсціслаўскага р-на. Далуч. да в. Валоўнікі. (Мсц.)

**ЧВЭРТКІ**, п., частка в. Валоўнікі Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**ЧВЭРЦІ**, ур., с.-г. угоддзі, каля л.м. Дрывасекі Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**ЧКЛОЎ**, назва г. Шклоў у часы Івана IV Жахлівага. (Шкл.)

**ЧОРНАГРАЗЬ**, в., Чарнаборскі с/с Быхаўскага р-на, 6 двароў, 8 жых. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². (Бых.)

**ЧОРНАЕ БАЛОТА**, балота, на ПнЗ в. Акулінцы Магілёўскага р-на. Пл. 110 га. Працяк. руч. Чэрня. Мелірав. адкрыт. сеткай. (Маг.)

**ЧОРНАЕ БАЛОТА**, рад., торфу, на ПнЗ ад в. Акулінцы Магілёўскага р-на, ва ўр. Чорнае балота, на пл. каля 100 га. Здаб. на ўгнаенне. (Маг.)

**ЧОРНАЕ БАЛОТА**, ур. Гл. воз. Чорнае Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ЧОРНАЕ БАЛОТА**, ур., забалоч. с.-г. угоддзі, паміж вв. Машанакі і Акулінцы Магілёўскага р-на, на р. Чэрня. (Маг.)

**ЧОРНАЕ БАЛОТА**, ур., леса-балотнае, каля ўр. Гатоўшчына, на ПдЗ ад в. Марцянавічы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ЧОРНАЕ ВОЗЕРА**, воз., за 1,0–1,5 км ад воз. Хотам'е Круглянскага р-на. Вар. назвы – воз. Пустое. (Кругл.)

**ЧОРНАЕ ВОКА**, ур. Гл. ур. Чорны Вір Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ЧОРНАЕ МАЛОЕ**, в. Гл. в. Малое Чорнае Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ЧОРНАЕ МАЛОЕ**, в. Гл. Малое Чорнае Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ЧОРНАЕ**, в. Гл. в. Вялікае Чорнае Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ЧОРНАЕ**, вдсх., на р. Руднянка, ва ўр. Ключыкі Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ЧОРНАЕ**, воз., асушана. Гл. ур. Чорнае Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ЧОРНАЕ**, воз., старык на р. Казакоўка, на лев. бер. р. Сож, за 4 км на З ад в. Папараткі Краснапольскага р-на. (Краснап.)

**ЧОРНАЕ**, воз., старык, бас. р. Дняпро, за 2 км на Пд ад Быхава. Пл. 2,7 га. (Бых.)

**ЧОРНАЕ**, воз., старык, у даліне р.Сож, за 6 км на Пд ад г. Крычаў. (Крыч.)

**ЧОРНАЕ**, воз., старык, у пойме лев. бер. р. Сож, за 3 км на ПнЗ ад в. Дубна, за 2 км на ПдЗ могілак в. Кліны Слаўгарадскага р-на. Выцягнута з ПнУ на ПдЗ на 1,2 км. (Слаўг.)

**ЧОРНАЕ**, воз., старык, у рэчышчы лев. бер. р. Сож, за 1,5 км на ПдУ ад в. Паклады Крычаўскага р-на. Даўж. каля 0,8 км. Найб. глыб. у р-не. Выцягнута ў напрамку ПнУ – ПдЗ. (Крыч.)

**ЧОРНАЕ**, воз., старык, у рэчышчы лев. бер. р. Сож, за 1,5 км на Пд ад в. Міхалін Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**ЧОРНАЕ**, воз., старык, у рэчышчы пр. бер. р. Сож, каля ур. Чорны Бераг Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**ЧОРНАЕ**, воз., у бас. р. Дняпро, за 10 км на ПдЗ ад г. Шклоў, за 0,6 км на ПдУ ад в. Малое Чорнае, на 3 ад в. Малыя Аўчыненкі Шклоўскага р-на. Выток р. Серабранка. Вар. назвы – воз. Чарнянскае. (Шкл.)

**ЧОРНАЕ**, воз., у бас. р. Друць (бас. р. Дняпро), на балоце Чорнае, на Пд ад в. Падбор'е Бялыніцкага р-на. Пл. 57 га. (Бял.)

**ЧОРНАЕ**, рад. Гл. рад. Чорнаўскае Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ЧОРНАЕ**, ур., с.-г. угоддзі, на м. б. воз. Чорнае, каля в. Харлапавічы Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ЧОРНАНАТАПАЎСКАЕ**, рад., сапрапелю, у Мсціслаўскім р-не, у бас. р. Чорная Натапа, у ніж. цяч., на мяжы з Крычаўскім р-нам. Вар. назвы – рад. Чорная Натапа. (Мсц.)

**ЧОРНАЎСКАЕ**, рад., пясч.-жвір. матэр., каля в. Чорнае Шклоўскага р-на. Паклад. звяз. з флювіягляц. адклад. часу адступ. сожскага ледавіка. Зап. 8,2 млн м³. Не распрацоўв. Вар. назвы – рад. Чорнае. (Шкл.)

**ЧОРНАЯ ГАРА**, пагорак, на У ад в. Папоўка Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ЧОРНАЯ ГРАЗЬ**, ур., с.-г. угоддзі, за 1 км на ПнЗ ад в. Старая Каменка Слаўгарадскага р-на. Стаянка эпохі неаліту. Вар. назвы – ур. Башарына Поле. (Слаўг.)

**ЧОРНАЯ НАПА**, р., старажытн. назва. р. Чорная Натапа. (Крыч., Мсц.)

**ЧОРНАЯ НАТАПА**, р., у Мсціслаўскім і Крычаўскім р-нах, пр. прыт. р. Сож (бас. р. Дняпро). Даўж. 49 км. Пл. вдзб. 464 км², сяр. нахіл водн. пав. 1,1‰, пад лесам 34%. Выток за 2 км на Пн ад в. Пячкавічы (з воз. каля п. Льнозавод) Мсціслаўскага р-на, вусце за 1,5 км на Пн ад в. Стараселле Крычаўскага р-на. Цячэ па Горацка-Мсціслаўскай і Аршанска-Магілёўскай раўн. Гал. прыт.: Сарочынка, Мяртвіца, Кашанка (справа), Белая Натапа (злева). Рэчышча частк. каналізав. Са шматлік. вірамі ("натапа" – "вір"). У 1860-х гг. перахапіла ў верх. цяч. р. Мяртвіца. Вар. назваў – Чорная Немка, Чорная Напа, Напа, Немка, Чорная Вiроўка. (Крыч., Мсц.)

**ЧОРНАЯ НАТАПА**, рад., сапрапелю. Гл. рад. Чорнанатапаўскае. (Мсц.)

**ЧОРНАЯ НАТАПА**, рад., торфу, у даліне р. Чорная Натапа, на Пд Мсціслаўскага р-на. Не распрацоўв. (Мсц.)

**ЧОРНАЯ НЕМКА**, старая назва р. Чорная Натапа Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**ЧОРНАЯ РЭЧКА**, р. Гл. р. Чорная Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**ЧОРНАЯ САСНА**, в., Забалацкі с/с Мсціслаўскага р-на, 3 двары, 4 жых. Радз. П. Рудкіна, Гер. Сав. Саюза, ген.-маёра. У зоне забрудж. па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². (Мсц.)

**ЧОРНАЯ САСНА**, ур., с.-г. угоддзі, на З ад в. Даленшчына Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**ЧОРНАЯ ЯМА**, ур., леса-балотнае, каля в. Касмынічы Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**ЧОРНАЯ ЯМКА**, ур., леса-балотнае, тарфянік, каля а/г Каменка Чавускага р-на. (Чав.)

**ЧОРНАЯ**, р., пр. прыт. р. Віхра (бас. р. Дняпро), у Мсціслаўскім р-не. Даўж. 21 км. Выток за 0,8 км на ПдУ ад в. Судоўшчына, вусце за 1,5 км на ПдУ ад в. Банькаўшчына. Пл. вдзб. 99 км². Сяр. нахіл водн. пав. 2,2‰. (Мсц.)

**ЧОРНЕНЬКІ МАСТОК**, ур. Гл. ур. Чорненькі мосцік. (Шкл.)

**ЧОРНЕНЬКІ МОСЦІК, ЧОРНЕНЬКІ МАСТОК**, ур., с.-г. угоддзі, каля аўтамоста праз р. Арціслаўка, на шашы Санкт-Пецярбург – Адэса, за 1 км на Пн ад в. Заходы Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ЧОРНЫ**, руч. Гл. руч. Любуж Магілёўскага р-на. (Маг.).

**ЧОРНЫ**, руч., левы прыт. р. Чарнаводка (бас. р. Вабіч). Даўж. 6,4 км. Выток на У ўскр. в. Красная Горка, вусце за 1 км на ПдЗ ад в. Бабчына Шклоўскага р-на. Рэчышча больш. часткай каналізав. (Шкл.)

**ЧОРНЫ БЕРАГ**, ур., лясное, на пр. бер. р. Сож, паміж дарогай Журавель – Бакаў і р. Сож, за 2,5 км на ПдЗ ад в. Журавель Чэрыкаўскага р-на. Курган. Могільнік. (Чэр.)

**ЧОРНЫ БЕРАГ**, ур., с.-г. угоддзі, на бер. р. Пціч, у а/г Падлужжа Глускага р-на. (Глуск.)

**ЧОРНЫ БОР**, а/г, ц. с/с Быхаўскага р-на, 134 двары, 316 жых, п/а, аддз. ААБ "Беларусбанк", АТС, урач. амбул., д/с-СШ, СДК, б-ка, філ. фізкульт.-аздараўл. ц., сац. пункт, КПП, крама, буфет. Месца падзен. метэар. "Чорны Бор" (05.06.1965 г., убачыў П. Сямёнаў; 0,4 кг перададз. у г. Масква ў метэар. кал. СССР). Да чыг. ст. – 26, да рц – 25 км. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². (Бых.)

**ЧОРНЫ БРОД**, брод, у сутоку руч. Безназоўны і р. Ольса, на З ад в. Усохі Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**ЧОРНЫ БРОД**, гаць, праз балота, на Пд в. Кляшчоўка Глускага р-на. (Глуск.)

**ЧОРНЫ ВІР**, вір, на р. Бася, у в. Карасі Шклоўскага р-на. Вар. назвы – ур. Чорнае Вока. (Шкл.)

**ЧОРНЫ ВІР**, вір, на р. Лабжанка, за 2 км на У ад в. Асмолавічы Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ЧОРНЫ ЗАВОД**, ур., лясное, на З ад в. Грыбава Слабада Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ЧОРНЫ ЛЕС**, ур., леса-балотнае, на У ад в. Чарнякоўка Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ЧОРНЫ РОЎ**, роў, за 1,5 км на Пд ад а/г Добрая Горацкага р-на. (Гор.)

**ЧОРНЫ РУЧАЙ**, руч. Гл. руч. Чорны Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ЧОРНЫ РУЧАЙ**, руч., левы прыт. р. Раста (бас. р. Дняпро), у Чавускім р-не. Даўж. 3 км. Выток на Пн, вусце – на З ад в. Дуброўка. (Чав.)

**ЧОРНЫ РУЧАЙ**, руч., левы прыт. р. Якушоўка (бас. р. Сож), у Краснапольскім р-не. Даўж. 3 км. Выток за 4,5 км на ПдЗ, упад. у Чорнае воз., за 4 км на З ад в. Папараткі. (Краснап.)

**ЧОРНЫ РУЧАЙ**, руч., пр. прыт. р. Віхра (бас. р. Сож). Даўж. 1 км. Выток і вусце за 2,0 – 2,5 км на Пн ад г. Мсціслаў. (Мсц.)

**ЧОРНЫЯ БРАДЫ**, в. Гл. в. Брады Глускага р-на. (Глуск.)

**ЧОРНЫЯ ЛОЗЫ**, ур., хмызова-лясное, каля в. Згода Глускага р-на. (Глуск.)

**ЧОРТАВА БАЛОТА**, балота, у Варгуцёўскім лесе Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ЧОРТАВА БАЛОТА**, ур., леса-балотнае, за 1 км на ПдЗ ад в. Гаўрыленка Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ЧОРТАВА БАЛОТА**, ур., леса-балотнае, каля в. Аксенкавічы Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**ЧОРТАВА ВОЗЕРА**, воз., да XX ст., каля в. Рвенск Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ЧОРТАВА ВОЗЕРА**, ур., лясное, бас. р. Пціч, на З ад а/г Падлужжа Глускага р-на. (Глуск.)

**ЧОРТАВА ВОКА**, ур., забалоч. с.-г. угоддзі, на м. б. Чортава возера Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ЧОРТАВА ГАРА**, пясч. кар'ер, у а/г Трылесіна Дрыбінскага р-на. (Дрыб.)

**ЧОРТАВА ДУГА**, круты заварот, на дарозе Пілешчына – Папоўка, за 5 км на Пн ад в. Папоўцы Чавускага р-на. (Чав.)

**ЧОРТАВА І, ЧОРТАВА ПЕРШАЕ**, в., да 1930-х гг. у Лютненскім с/с Мсціслаўскага р-на. Ліквідавана. У 1897 г. – 5 двароў, 39 жых. (Мсц.)

**ЧОРТАВА ІІ, ЧОРТАВА ДРУГОЕ**, в., да 1930-х гг. у Лютненскім с/с Мсціслаўскага р-на. Ліквідавана. У 1897 г. 17 двароў, 122 жых. (Мсц.)

**ЧОРТАВА ЛОГАВА**, лясная дарога, Падлужжа – Згода Глускага р-на. (Глуск.)

**ЧОРТАВА ЛЯДА**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Негаўля Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ЧОРТАВА**, в., да 1947 г. у Лютненскім с/с Мсціслаўскага р-на. З 1947 г. – в. Рассвет. Гл. в. Рассвет. (Мсц.)

**ЧОРТАВЫ ШАВЯЛІ**, п., да 1939 г. у Васькавіцкім с/с Слаўгарадскага р-на, каля в. Бязуевічы. Ліквідаваны. (Слаўг.)

**ЧОРТАЎ ВІР**, асуш. балота, за 1,5 км на З ад в. Бліўнг Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ЧОРТАЎ ВІР**, вір, на р. Каменка, у в. Кунцы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ЧОРТАЎ МОСТ**, ур., с.-г. угоддзі, на З ад в. Філіпава Горацкага р-на, на р. Парасіца. (Гор.)

**ЧОРТАЎ ПРУД**, віры, на р. Вабіч, у в. Лямніца Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ЧОРТАЎ РОЎ**, роў, у в. Буды Горацкага р-на. (Гор.)

**ЧОРТАЎ ХУТАР**, ур. Гл. ур. Аляксандраў Хутар Чавускага р-на. (Чав.)

**ЧОРТАЎ ЯР**, меліярац. канава, у в. Стан Горацкага р-на. (Гор.)

**ЧОРТАЎКА**, п., у 1906 – 1939 гг. у Васькавіцкім с/с Слаўгарадскага р-на. Ліквідаваны. (Слаўг.)

**ЧОРТАЎШЧЫНА**, ур., с.-г. угоддзі, на ПнЗ ад в. Галавенчыцы Чавускага р-на. Праяўленне цаг.-чарапічн. сыравіны. (Чав.)

**ЧОТЫ**, л.м., за 1 км на ПнУ ад а/г Высокае Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ЧУБАРЫ**, х., да 1928 г. у Дрыбінскім р-не. Ліквідаваны. (Дрыб.)

**ЧУДЗЕНКА**, в., у XIX ст. назва в. Царковішча Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ЧУДЗІН**, ур., лясное, на пр. бер. канала Пратасевіцкі, за 3 км на З ад а/г Пратасевічы Асіповіцкага р-на. Пл. 30 га. (Асіп.)

**ЧУДЗЯНА**, руч. Гл. руч. Безназоўны Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**ЧУДЗЯНСКАЯ СЛАБАДА**, в., да 1976 г. у Вепрынскім с/с Чэрыкаўскага р-на. Далуч. да в. Чудзяны. (Чэр.)

**ЧУДЗЯНЫ**, в., да 1990-х гг. у Вепрынскім с/с Чэрыкаўскага р-на. Пахавана. У 1989 г. – 269 жых. (Чэр.)

**ЧУДЗЯНЫ**, ур., захмызаван. с.-г. угоддзі, за 4 км на ПдУ ад в. Вепрын Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

